# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 КРАСАВІКА 2002г. № 14/4148 КОШТ 290 РУБ.










# Алесь ДРАНЕЦ: "Бачу перспектыву для творчасці"



**— Спадар Алесь, пра тое, што ў Мінску мусіць быць помнік Першадрукару, гаворка ідзе даўно. Мабыць, з таго часу, як Беларусь у 1967 годзе даволі шырока (у межах, дазволеных тагачаснай ідэалогіяй) адзначыла 450 год свайго кнігадрукавання. Але матэрыялізавацца тая ідэя пачала толькі ў другой палове 80-х гадоў (цяпер ужо трэба казаць мінулага стагоддзя). Цэлае пакаленне беларусаў вырасла ў чаканні з'яўлення помніка Скарыне ў сталіцы краіны. Памятаю, было некалькі конкурсных тураў. Помнік "прывязвалі" то да будынка Акадэміі навук, то да Верхняга горада, то да новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі. Вы як непасрэдны ўдзельнік падзей і, галоўнае, пераможца ў конкурсе, адзін з аўтараў помніка, маглі б расказаць нашым чытачам пра асноўныя этапы гэтай эпапеі.**

— Мяркую, што ідэя помніка ўзнікла значна раней. У той час, як Мінск стаў сталіцаю Беларусі. Іншая рэч, што ў пэўныя часы постаць Скарыны ў палітычным сэнсе сапраўды была для ўлады не надта зручнаю. Бо Першадрукар увасабляў плён культурных сувязяў Беларусі з Еўропаю і Захадам. А яшчэ не трэба забываць, што ў СССР панаваў ваяўнічы атэізм, а нашай першай друкаванай кнігай была Біблія.

Сапраўды, грамадства даспела да рэалізацыі гэтай ідэі толькі напрыканцы 80-х гадоў, у часе так званай "перабудовы". У студзені 1989 года выйшла ўрадавая пастанова аб конкурсе на помнік Першадрукару ў сталіцы рэспублікі. Паколькі ўсе ўсведамлялі важнасць падзеі, для групы скульптараў Саюза мастакоў Беларусі, якія збіраліся браць удзел у конкурсе, у 1989—1990 гадах была наладжана вандроўка па мясцінах за межамі Беларусі, дзе вучыўся і выдаваў свае кнігі Скарына. Непасрэдным вынікам той паездкі, а потым конкурсу сталі мемарыяльныя шыльды ў гонар нашага Першадрукара ў Кракаве і Падуі, помнік у Лідзе (аўтар усіх трох Валерый Янушкевіч). Мне пашчасціла зрабіць мемарыяльную шыльду ў гонар Скарыны, якая ўстаноўлена на будынку "Клімянціны" — Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі, а таксама шыльду, што на будынку Акадэміі навук Беларусі. Да таго ж, у Празе паўстаў помнік Скарыне работы Эдуарда Астаф'ева і архітэктара Юрыя Казакова. Таксама хацеў бы нагадаць пра помнік (праўда, яшчэ не ўстаноўлены), зроблены скульптарам Анатолем Арцімовічам для Калінінграда. Такім чынам, найбольш цікавыя конкурсныя напрацоўкі аказаліся запатрабаванымі грамадствам. І гэта адзін з галоўных вынікаў конкурсу.

**— Згодны з вамі, спадар Алесь. Конкурс сапраўды ўзбагаціў нашую Скарыніяну. Добра, што зараз беларус можа ў Празе ці Кракаве пакласці кветкі да беларускай святыні. Вось толькі, на жаль, у Мінску дагэтуль помніка няма... Раскажыце, як разгортваліся падзеі ў нашай сталіцы.**

*( Заканчэнне на стар. 10 — 11 )*



# КОЛА ДЗЁН

***У друку з'явіўся Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", падпісаны Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. У артыкуле 5 "Мовы навучання і выхавання", у прыватнасці, гаворыцца: "Асноўнымі мовамі навучання і выхавання ва ўстановах Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская. Дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню на беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка. Вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў у агульнаадукацыйных школах з'яўляецца абавязковым, за выключэннем асобных катэгорый асоб з асаблівасцямі псіхічнага развіцця..." Закон уступіў у сілу з 4 красавіка, дня, які стаў днём яго афіцыйнага апублікавання.***

### *ВАРЫЯНТЫ ТЫДНЯ*

Дзяржаўная камісія, якая разглядзела варыянты Дзяржаўнага гімна, выбрала чатыры творы, з якіх у бліжэйшы час будзе абраны гімн Рэспублікі Беларусь. Шансы стаць галоўнай песняй нашай краіны маюць "Радзіма мая дарагая" Алеся Бачылы на музыку Уладзіміра Алоўнікава, "Красуй, Беларусь" Леаніда Пранчака на музыку Васіля Раінчыка і два тэксты на музыку старога гімна БССР. Выбар невялікі, але...

### *ВЫБАРЫ ТЫДНЯ*

Наша жыццё залежыць не толькі ад нас саміх, але і ад нашых суседзяў. А суседзі ў нас вядомыя. Сярод іх — Украіна, у якой у мінулую нядзелю адбыліся парламенцкія выбары. Паводле папярэдніх вынікаў, на выбарах Вярхоўнай Рады Украіны лідзіруе блок "Наша Украіна" Віктара Юшчанкі, які набраў больш за 23 працэнты галасоў. На другім месцы камуністычная партыя з 20 працэнтамі і на трэцім амаль з 15 працэнтамі блок "За адзіную Украіну". Далей ідзе Сацпартыя з 7,77 працэнта, блок Юліі Цімашэнкі з 6,23 працэнта і Сацыял-дэмакратычная партыя Украіны (аб'яднаная) з 5,91 працэнта. Мяркуючы па раскладцы сіл, на гэты раз Вярхоўная Рада Украіны будзе больш празаходняя, чым калі...

### *ПЛАНЫ ТЫДНЯ*

У гэтым годзе плануецца завяршэнне выплаты кампенсацый укладаў насельніцтва, якія "згарэлі" падчас развалу Савецкага Саюза. На выплату кампенсацый у дзяржаўным бюджэце запланаваны патрэбныя сродкі. У мінулым годзе былі праведзены выплаты больш як 50 працэнтам укладчыкаў. Старшыня праўлення АКБ "Беларусбанк" Надзея Ермакова заўважыла, што сапраўдныя страты ў сувязі з інфляцыяй кампенсаваны не былі і цяпер прапрацоўваецца магчымасць правядзення другога этапу, які дазволіць гэта зрабіць цалкам. Праўда, для гэтага трэба больш як мільярд долараў...

### *СМЕРЦЬ ТЫДНЯ*

На 102 годзе жыцця памерла любімая бабуля ўсіх англічан, каралева Лізавета. Жалобныя мерапрыемствы ў Вялікабрытаніі закончацца 9 красавіка, калі каралеву пахаваюць у капліцы Святога Георга ў Віндзары.

### *СУПАКАЕННЕ ТЫДНЯ*

У грамадскім транспарце, ды не толькі, можна чуць, як грамадзяне нашай краіны гавораць пра тое, што ўжо не першы месяц людзям не выплачваюць зарплаты і такога раней не было. Чаму ўсё гэта адбываецца — у кожнага свой адказ, але ўсе яны не вельмі суцяшальныя. У друку час ад часу з'яўляецца інфармацыя, што пытанне своечасовай выплаты заработнай платы знаходзіцца пад пастаянным кантролем урада. Так, запазычанасць па заработнай плаце па стане на 14 сакавіка 2002 года ў параўнанні з запазычанасцю на 28 лютага 2002 года знізілася на 49,8 працэнта і склала 29.987.3 млн. рублёў. Гледзячы на гэтую лічбу, можна супакоіцца, але толькі таму, што зарплату ўжо не першы месяц не атрымоўваюць сотні тысяч грамадзян нашай краіны...

### *НАСТУПСТВЫ ТЫДНЯ*

Апошнім часам амаль ва ўсіх установах, на заводах і фабрыках і г. д. адбываюцца скарачэнні працуючых. Праўда, ад таго, што скарачаюцца працуючыя, нідзе лішнія грошы не з'явіліся. Амаль на 10 тысяч павялічылася за першыя два месяцы гэтага года колькасць грамадзян, якія знаходзяцца на ўліку ў службах занятасці Беларусі. У цэлым па краіне на пачатак сакавіка на ўліку па беспрацоўі знаходзілася 112,8 тыс. чалавек, што адпавядала 1,98 працэнта ўсяго працаздольнага насельніцтва ў працаздольным узросце. Да ўсяго працягваецца паступовае змяншэнне колькасці вакансій і на сёння на адно свабоднае працоўнае месца, пра якое ёсць звесткі ў службах занятасці, можна ўмоўна ўладкаваць ужо амаль 5 беспрацоўных. 76,4 працэнта ад агульнай колькасці цяперашніх вакансій прыпадае на рабочыя спецыяльнасці. А куды падацца маладому чалавеку з вышэйшай адукацыяй? У замежжа?

### *КЛОПАТ ТЫДНЯ*

Ужо даўно ў існуючым грашовым абарачэнні знаходзіцца немалая колькасць моцна забруджаных, парваных і склееных банкнотаў, якія выклікаюць у людзей не лепшыя пачуцці да нацыянальнай валюты. Каб такія пачуцці не ўзнікалі, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў лісьмо, у якім падкрэсліваецца, што касірам у абавязковым парадку неабходна сартаваць грашовую наяўнасць на прыдатныя да абарачэння і старыя банкноты, рэшту пакупнікам выдаваць толькі прыдатнымі выглядзе грашыма, а старыя сартаваць, у абарачэнне і старыя банкноты, здачу пакупнікам выдаваць толькі прыдатнага выгляду грашыма, а старыя сартаваць, у абарачэнне не пускаць і здаваць з інкасіруемай выручкай у банк. Адпаведныя патрабаванні выкладзены і для касавых работнікаў банкаў. Трэба спадзявацца, што на замену забракаванай нацыянальнай валюты будуць аддрукаваны новыя банкноты, бо з цягам часу мы маем магчымасць зусім застацца без наяўных грошай, якіх і так сёння не хапае...

### *РАСХОДЫ ТЫДНЯ*

Спажыванне пітной вады на душу насельніцтва Беларусі ў сярэднім складае 200—210 літраў у суткі, што значна больш, чым у большасці еўрапейскіх краін, дзе нарматывы на аднаго жыхара вагаюцца ад 120 да 200 літраў у суткі. Найбольшая колькасць вады расходуецца ў Мінску, Брэсце, Гродне, Бабруйску і Магілёве. Так, у Мінску расход вады на аднаго жыхара вагаецца ў розныя гады ад 350 да 370 літраў у суткі. Само па сабе ўзнікае пытанне: "Няўжо ў Віцебску ці Гомелі, у якіх расходуецца вады меней, чым у сталіцы, людзі бруднейшыя?"

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Старшыня СБП В. Іпатава сустрэлася са Старшынёй Савета Рэспублікі А. Вайтовічам і міністрам адукацыі П. Брыгадзіным, каб абмеркаваць правядзенне "круглых сталоў" на тэму Міжнароднага сімпозіума "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", што па ініцыятыве СБП праводзіцца ў краіне пад эгідай ЮНЕСКА.

●

Па ініцыятыве СБП у Мінску распачата падрыхтоўка да Міжнароднага сіпозіума "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі" пры ўдзеле Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай Акадэміі навук, дзяржаўных універсітэтаў Беларусі, а таксама пры падтрымцы Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі, уладных структур Рэспублікі Беларусь, ТБМ імя Ф.Скарыны, Фонду імя Льва Сапегі і іншых з мэтай грунтоўна і ўсебакова вывучыць пастаўленую праблему, якая мае надзвычай важнае значэнне ў сённяшніх умовах, паказаць яе адметнасць, надзённасць, агульнымі намаганнямі выпрацаваць меры па захаванні мовы, гістарычнай спадчыны, культурных здабыткаў розных народаў планеты. Аргкамітэт прадугледжвае правядзенне ў рамках сімпозіума "круглых сталоў", нарад, конкурсаў, выстаў. У сімпозіуме, які адбудзецца 9-10 ліпеня, возьмуць удзел мовазнаўцы, дзеячы нацыянальных культур, пісьменнікі і палітыкі нашай краіны, а таксама Еўропы і Амерыкі. Плануецца выданне зборнікаў матэрыялаў па выніках праведзенай працы. Першае пасяджэнне пад назвай "Глабалізацыя і Беларусь" адбылося ў Беларускім універсітэце культуры. Перад прысутнымі выступілі пісьменнікі Адам Мальдзіс, Эрнест Ялугін, Васіль Якавенка, Уладзімір Конан, дырэктар Інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў, першы прарэктар Магілёўскага педуніверсітэта імя А. Куляшова Міхаіл Вішнеўскі, акадэмік НАН Яўген Бабосаў, доктар філасофскіх навук Мікалай Крукоўскі, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, кампазітар Алесь Рашчынскі, старшыня ТБМ Алег Трусаў, іншыя навукоўцы, грамадскія дзеячы, выкладчыкі, дзеячы культуры. Як падкрэслівалася ў цікавых і змястоўных дакладах, мова — ключ да разумення розных этнічных сістэм, шлях да паразумення паміж народамі, таму надзвычай важнае значэнне ў сённяшнім грамадстве набывае праблема захавання, развіцця і ўзбагачэння роднай мовы, як мага шырэйшага яе ўжывання. Глабалізацыя — няўхільны сусветны працэс XXI стагоддзя, якому немагчыма супрацьстаяць, таму наспела пільная патрэба рабіць рашучыя захады па захаванні сваёй нацыянальнай культуры, гістарычнай, ментальнай, адукацыйнай своеасаблівасці і разнастайнасці дзеля таго, каб пазбегнуць дэградацыі ўсяго чалавецтва.

●

У фундаментальнай бібліятэцы БДУ адбылася прэзентацыя новай кнігі Алеся Пашкевіча "Пляц Волі", што пабачыла свет у выдавецтве "Беллітфонд". Перад выкладчыкамі і студэнтамі выступілі Кастусь Цвірка, Віктар Праўдзін, Генрых Далідовіч, Алег Лойка, Ганад Чарказян, Вікторыя Бохан, Ірына Шаўлякова, Валерый Стралко, супрацоўнікі бібліятэкі. Аўтар падрабязна расказаў пра стварэнне твора, прысвечанага драматычным падзеям пачатку XX стагоддзя, пра цяжкасці, з якімі сутыкнуўся пры зборы матэрыялу ў архівах, пра неабходнасць глыбокага вывучэння дакументальных матэрыялаў. На заканчэнне сустрэчы ад імя Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктар Праўдзін уручыў Алесю Пашкевічу памятны падарунак — кнігу выбраных твораў Якуба Коласа.

**М.Р.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Проста святкуем...

Вясна як з'ява прыроды — паўсюль і для ўсіх. Тое самае і ў музычным жыцці: "Мінская вясна" як падзея — лакальная, а як з'ява — міжнародная. Паглядзіцепаслухайце, якую музыку наша "Вясна" заказвае! Фартэпіянны дуэт Г. Пысцін — І. Цыганкоў з Новасібірска, грузінская скрыпачка, прафесар Маскоўскай кансерваторыі М. Яшвілі, французскі піяніст Х. Леклер і піцерскі — У. Мішчук, струнны квартэт імя Д. Шастаковіча з Масквы... Гэта выканаўцы-госці. А гаспадары?

Гаспадары-арганізатары, Міністэрства культуры РБ ды Беларуская дзяржаўная філармонія, нездарма назвалі сёлетні Міжнародны фестываль "Мінская вясна" проста і ўрачыста: "Музычныя святкаванні".

Учора ў Вялікай зале філармоніі быў канцэрт-адкрыццё гэтай традыцыйнай імпрэзы і прысвячаўся ён 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. У выкананні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра, харавых калектываў і салістаў пад кіраўніцтвам дырыжора А. Анісімава прагучала вядомая араторыя Д. Смольскага "Паэт" на Купалавы вершы. Другім творам праграмы сталася "Паэма памяці Сяргея Ясеніна" Г. Свірыдава.

Да 60-годдзя знанага маэстра, педагога У. Перліна і 40-годдзя яго творчай дзейнасці прымяркоўваецца вечарына з удзелам Струннага аркестра Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, што мае адбыцца 7 красавіка. 50-годдзю выдатнага кларнетыста Г. Забары і 30-годдзю яго творчай дзейнасці прысвячаецца камерны канцэрт з удзелам юбіляра, замоўлены на 11 красавіка. У той жа вечар Вялікая зала філармоніі збярэ прыхільнікаў харавой музыкі: Акадэмічная капэла імя Р. Шырмы і яе мастацкі кіраўнік Л. Яфімава прэзентуюць праграму да 110-годдзя легендарнага заснавальніка свайго калектыву. Прагучаць творы з вядомай Шырмавай анталогіі беларускай народнай песні, духоўныя песняспевы, у тым ліку сучасных нашых кампазітараў, рускія рамансы.

*Харавая творчасць прадстаўленая ў канцэртах "Мінскай вясны"* таксама выступленнем калектыву выхаванцаў маэстра В. Роўды — студэнтаў аддзялення харавога дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі (прымяркоўваецца да яе 70-годдзя). І — аўтарскай вечарынай Л. Шлег: творы кампазітара выканаюць хор капэлы "Sonorus" пад кіраўніцтва А. Шута і капэла "Раніца" метадычнага цэнтра "Юнацтва" пад кіраўніцтвам В. Масленікава.

Адметнасць фестывалю — дзве імпрэзы Беларускага таварыства сучаснай музыкі, дзе прагучаць опусы Г. Вагнера, Я. Глебава, Э. Тырманд, В. Кузняцова, Г. Кароткінай, У. Кур'яна, Д. Лыбіна, Л. Сімаковіч ды інш. Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" (мастацкі кіраўнік У. Байдаў) 10 красавіка прэзентуе творы В. Капыцько і мінскую прэм'еру "Песні пра зямлю" Г. Малера — з удзелам замежных салістаў, з піцерскім дырыжорам Д. Зубавым. Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі на чале з М. Фінбергам здзяйсняе чарговым праектам — "Музыка нашага кіно".

Канцэрт стыпендыятаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі мае адбыцца ў сталічнай філармоніі 18 красавіка. Годнае завяршэнне для вясновага свята. І — сімвалічнае: з надзеяй на працяг, на добрую перспектыву айчыннага мастацтва.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

АНОНС

# Доўгачаканы "Калігула"

У Рускім акадэмічным драматычным тэатры імя Максіма Горкага рыхтуецца першая ў гэтым сезоне прэм'ера. Рэжысёр тэатра В. Грыгалюнас ставіць п'есу А. Камю "Калігула", якая не мае сцэнічнай гісторыі на Беларусі.

Увогуле, спектакль "Калігула" В. Грыгалюнас рэпеціруе ўжо год. З-за недахопу фінансаў прэм'ера ўвесь час адкладвалася. Але 12-13 красавіка пастаноўку нарэшце ўбачаць сталічныя гледачы. І, як абяцае рэжысёр, будуць вельмі здзіўленыя. Перадусім, выбарам на ролю імператара Калігулы акцёра Рускага тэатра А. Ждановіча, сімпатычнага вядучага... "Калыханкі" на БТ. Рэпетыцыі спектакля ідуць толькі ў адным складзе, над сваімі вобразамі старанна працуюць акцёры А. Суцкавер (Гелікон), А. Душачкін (Сцыпіён), Г. Маланкіна (Цэзонія), Э. Гарачы (Муцый), А. Корчыкаў (Херэя), І. Мацкевіч (Сенект), В. Быкаў (Мерэйя), Н. Чамадурава (жонка Муцыя).



Як вядома, у цэнтры п'есы — метафізічны бунт Калігулы супраць марнасці зямнога лёсу, бяссілля чалавека што-небудзь змяніць у ім. Імператар, першапачаткова ідэаліст і чалавекалюбца, робіцца катам і мізантропам. Але В. Грыгалюнасу Калігула ўяўляецца Гамлетам XXI стагоддзя, ён сімпатызуе яму. Бо помста імператара ў тым, каб іншыя людзі пакутавалі так, як і ён. Калігула хоча вымусіць увесь свет крычаць.

Яшчэ пры вывучэнні п'есы рэжысёр заўважыў, што ў творы Камю ёсць гістарычныя недакладнасці. Магчыма, што аўтара хвалявала ў першую чаргу псіхалогія чалавека, якая не змяняецца з цягам часу. Таму В. Грыгалюнас вырашыў перанесці дзеянне п'есы ў наш час, у котлішча байкераў. На сцэне коніператвараюцца ў матацыклы (дарэчы, Камю загінуў менавіта на матацыкле), а тогі — у чорнае скураное адзенне...

Рэжысёр лічыць, што яго спектакль адрасаваны моладзі, што многія ў зале адчуюць Калігулу сваім.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымку: акцёр А. Ждановіч, якога мы хутка ўбачым у вобразе Калігулы.*

## Шчыруе “Жывіца”

Сталі ўжо традыцыйнымі сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з сябрамі літаратурна-краязнаўчага аб’яднання “Жывіца”, што працуе пры Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Не стаў выключэннем і сёлетні год. Так, у лютым да іх у госці завітаў вядомы паэт, краязнаўца, перакладчык, шчыры руплівец беларушчыны Сяргей Панізнік. Чалавек вялікай культуры, вельмі далікатны і абаяльны, ён выклікаў незвычайна прыемнае ўражанне ў прысутных. Вершы, што арганічна перапляталіся з аповедам пра свой уласны даволі драматычны лёс, дазвалялі зразумець усю складанасць ягонага жыцця, убачыць увесь драматызм беларушчыны ў другой палове XX стагоддзя.

Вельмі інфармацыйна насычаным атрымалася і чарговае пасяджэнне клуба, якое адбылося 19 сакавіка. На гэты раз на сустрэчу да сяброў літаратурна-краязнаўчага аб’яднання прыехала знаная даследчыца беларускай літаратуры, кандыдат філалагічных навук, акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі Лідзія Савік. Літаральна некалькі тыдняў таму ў выдавецтве “Тэхналогія” выйшла яе кніга “Пакліканыя”, якая распавядае пра нялёгкае жыццё пасляваеннай беларускай літаратурнай эміграцыі. Кніга насычана велізарным навуковым матэрыялам, грунтоўнай бібліяграфіяй, цікавымі абагульненнямі, што ставіць яе ў шэраг найлепшых дасягненняў сучаснага айчыннага навуковага літаратуразнаўства. Гэтай слаба распрацаванай тэме і было прысвечана выступленне вядомай пісьменніцы. Ярка, грунтоўна, з пачуццём меры і такту, даследчыца вобразна аднавіла ўвесь шматгранны калейдаскоп таго забытага мацерыка, што завецца літаратурай беларускага замежжа...

На заканчэнне хочацца толькі сказаць, што сустрэчы прайшлі ў атмасферы высокай духоўнасці і шчырасці. Ды і прысутным пашанцавала: у іх была рэдкая магчымасць набыць новыя кнігі цудоўных пісьменнікаў і навукоўцаў.

**Наталля ПЛОТАВА**

## “Увесь сусвет табе, мой родны кут!..”

15 сакавіка ў музеі Якуба Коласа адбылася прэзентацыя другога зборніка Зоі Калкоўскай “Правінцыялка”. Сустрэча пачалася з выступлення народнага фальклорнага ансамбля “Гарэзы” з вёскі Шашкі, што на Стаўбцоўшчыне. Кіраўніком яго з’яўляецца Святлана Калкоўская. Акрамя ўдзелу ў ансамблі, яна з’яўляецца мастаком, кампазітарам і настаўнікам. На вечарыне была прадстаўлена выстава яе карцін.

Пасля прадстаўляла свой зборнік Зоя Калкоўская, якая прачытала некалькі сваіх вершаў, што прывабліваюць духоўнасцю, прастатой, жаноцкай пяшчотай.

Пісьменнік Генрых Далідовіч расказаў пра літаратурныя традыцыі музея Якуба Коласа, адзначыў, што прадстаўленне тут свайго зборніка — своеасаблівы экзамен. І Зоя Калкоўская яго з бляскам вытрымала. Таксама ўзяў слова выдавец зборніка — Кастусь Цвірка. Ён адзначыў шчырасць і акварэльнасць творчасці паэткі, яе высокую творчую і грамадзянскую актыўнасць. Выказвалі свае віншаванні з нагоды выхаду зборніка і Яўген Хвалей, і Міхась Малашэвіч. На вечарыне выступілі землякі паэткі Мікола Маляўка, Алесь Рыбак, сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.

Закончылася ўрачыстасць тым, з чаго яна і пачыналася: выступленнем ансамбля “Гарэзы”. На вечарыне прысутнічалі навучэнцы Мінскага педкаледжа № 1, вучні некаторых школ, настаўнікі. Улічваючы гэта, можна з упэўненасцю адзначыць шырокую цікавасць да сучаснай “правінцыйнай” паэзіі.

**Валерый ЗМІТРОВІЧ,**
**Яўген БЕЛАВОКІ,**
**навучэнцы МДПК № 1.**

## “Я помню дзень той...”

Літаратурная сустрэча, прысвечаная 120-годдзю Якуба Коласа, адбылася ў бібліятэцы № 7 імя народнага паэта Ленінскага раёна беларускай сталіцы. У госці да чытачоў прыйшлі старшы навуковы супрацоўнік музея песняра, пісьменнік Іван Курбека і майстар мастацкага чытання Язэп Гарэцкі.

Першы з іх даўні сябар установы. Гэтым разам ён расказаў пра турботы музейцаў-коласаўцаў у юбілейны год. Прамоўца прыгадаў некаторыя цікавыя моманты з жыццяпісу незабыўнага дзядзькі Якуба, прачытаў некалькі абразкоў са сваёй кнігі “Запрашэнне ў музей”, што сёлета выходзіць у выдавецтве “Юнацтва”.

Падняўся Я. Гарэцкі і пачаў без лішніх уступных слоў: “Я помню дзень той. Вечарэла...” Публіка стаілася. А праз імгненне ўсе зразумелі — гэта ж дзядзька Антось гатуе з дзецьмі клёцкі! Скончана “варыва” — бурныя, ухвальныя воплескі слухачоў. Падахвочаны іх увагаю, артыст прачытаў яшчэ некалькі вясёлых твораў іншых аўтараў.

**Алена ГРУДЗЯНКОВА,**
**Лола ІНАЗЕМЦАВА,**
**работніцы бібліятэкі**

# На шляху пошукаў

***Пра шляхі развіцця літаратуры, узаемакантакты паміж пісьменнікамі розных краін з галоўным рэдактарам часопіса “Дружба народов” Аляксандрам ЭБАНАІДЗЕ гутарыць наш карэспандэнт Марыя РУДОВІЧ.***



**— Спадар Аляксандр, як часопіс “Дружба народов” у складаны час здолеў захаваць свае пазіцыі, не згубіць чытача, працягваць сур’ёзную працу?**

— Мне даволі цяжка адказаць на гэта пытанне, бо нейкіх адмысловых сакрэтаў і мэтанакіраваных намаганняў не было. Мы адно ўпарадкавалі нашу дзейнасць. Шэсць з паловай гадоў таму часопіс трапіў у вельмі цяжкае становішча: ён, уласна кажучы, завяршаў сваё існаванне, чарговыя нумары выходзілі са спазненнем на паўгода. Але ж літаральна ў той самы год удалося выправіць сітуацыю, хоць ніякіх радыкальных мер мы не прымалі. Проста быў наведзены парадак. Паступова пачалося ажыўленне літаратурнага працэсу, які зрабіўся больш цікавым і інтэнсіўным, у часопіс вярнуліся аўтары, больш ці менш выправіўся і матэрыяльны стан. Я перакананы, што аплата літаратурнай працы павінна быць адэкватнай, вартай таленавітага твора. Што ж тычыцца спецыфікі часопіса, менавіта міжлітаратурных кантактаў, высветлілася, што гэта вельмі трэба нам усім: і літаратарам па-за межамі Расіі, і літаратарам у Расіі трэба дазнавацца пра новыя таленавітыя плыні і накірункі. Зразумела, што літаратура руская, дастаткова разнастайная і шматгранная, якую Томас Ман у адной са сваіх прац вызначыў як “шчаслівую звычайнасць”, мае ўсё ж такі сваю дамінанту — тую вельмі сакавітую жыццёвую плынь, якую гэтак яскрава ўзнаўляюць рэалісты рускай школы і якую мы маем на ўвазе, калі гаворым пра рускую прозу пры безумоўнай наяўнасці розных пісьменнікаў, розных адценняў. У іншых літаратурах працавалі і працуюць ментальна іншыя пісьменнікі, і ў “Дружбе народов” адлюстроўваецца іхняя творчасць, што стварае надзвычай цікавую і разнастайную палітру, з якой неабходна знаёміцца рускім творцам для карэкціроўкі сваіх літаратурных пошукаў, бо, па словах Ф.Дастаеўскага, спагадлівасць — якасць рускай культуры. Менавіта таму часопіс так арганічна ўпісаўся ў рускую культуру, у рускае літаратурнае жыццё. Што да літаратараў сумежных з Расіяй краін, без нашага часопіса, без выхаду на абшары вялікай літаратуры яны трапляюць у замкнёную прастору. У літаратурах сумежных краін ёсць шмат каштоўнага,— я даўно займаюся перакладамі і ведаю гэты працэс знутры, — што шкада было б згубіць, таму намаганні часопіса, маіх калег скіраваны на захаванне сувязей. Дарэчы, мы і з Прыбалтыкай маем добрыя творчыя кантакты, друкуем тамтэйшых літаратараў.

**— “Дружба народов” заўсёды мела шчыльныя кантакты з беларускімі літаратарамі. Як, на вашу думку, будзе развівацца супрацоўніцтва?**

— Прыездам у Мінск я вельмі ўсцешаны і маю пэўныя надзеі на нашу сустрэчу менавіта з мэтай удакладнення найноўшай літаратурнай сітуацыі сярод нашых беларускіх аўтараў. Знакамітыя, сталыя, шырокавядомыя аўтары нашага часопіса — Васіль Быкаў, Святлана Алексіевіч, Віктар Казько, Рыгор Барадулін. Не так даўно часопіс надрукаваў надзвычай добрую падборку вершаў Максіма Танка. Мы з сімпатыяй ставімся і да Уладзіміра Бутрамеева, і да Юрыя Пяткевіча, літаратара родам з Беларусі, які піша па-руску, аўтара цікавай, своеасаблівай аповесці “Марожанае на хаўтурах”. Але нас вельмі цікавяць таксама новыя літаратурныя плыні, новае пакаленне літаратараў. Я перакананы, што ёсць цікавыя аўтары, што пішуць на беларускай мове. Хацелася б, скарыстаўшы прыезд, адшукаць, удакладніць новыя імёны, новыя тэндэнцыі, бо шчыльныя стасункі вельмі важныя для захавання і падтрымкі творчых кантактаў і перакладчыцкай справы, якая заўсёды выступала інструментам гэтых кантактаў. “Дружба народов” будзе усяляк спрыяць гэтым намаганням, што выявіў беларускі бок: ёсць паплечнік, які вырашае тую самую задачу, што і мы, заняты тымі ж самымі праблемамі. Гэта маральная падтрымка, акрамя таго мы можам весці гаворку пра рэальныя, канкрэтныя справы.

**— Часам назіраецца страта цікавасці да добрай, своеадметнай у высокім сэнсе слова літаратуры, чытач іншы раз цягнецца да масавай прадукцыі...**

— Сапраўды, новыя ўмовы стварылі, на жаль, вельмі нечаканую, незвычайную, у пэўнай ступені злаякасную сітуацыю. Пануе сярэдні густ. Але чаму гэта адбылося? Я пра гэта багата разважаю, аднак жа цяжка сфармуляваць дакладна і выразна гэту думку. Відаць, новыя прыярытэты, што ўзніклі, тояць у сабе сур’ёзныя наступствы для інтэлектуальнага, духоўнага жыцця. Яшчэ дзесяць гадоў таму “Дружба народов” выходзіла амаль паўтарамільённым тыражом і краіна зачытвалася выдатнай літаратурай: творамі Юрыя Трыфанава, напрыклад, ці Віталя Сёміна, ці Васіля Быкава. Сёння ж новыя варункі робяць нас мітуслівымі, павярхоўнымі, літаратуру ўвогуле адсоўваюць убок. Гэта можа мець вынікі неабарачальныя, бо толькі чалавек, які чытае, робіцца сааўтарам твора, сваёй фантазіяй стварае і аднаўляе тое, што ўспрымае з паперы, з тэксту. Гэта надзвычай тонкая псіхалагічная праца. Калі ж яна падмяняецца нейкімі рэкламна-кліпавымі, кідкімі момантамі — гэта зусім іншы ўзровень. Шмат якія сур’ёзныя даследчыкі, філосафы, пісьменнікі адчуваюць, што злом гэты ўжо адбыўся, што ён зрабіўся незваротным, што чалавецтва перайшло ў тую стадыю, калі глыбокае, вытанчанае духоўнае жыццё адступае пад націскам іншай рэчаіснасці, робіцца больш павярхоўным, лёгкаважкім. Выдатны армянскі пісьменнік Грант Матэвасян на пытанне, калі будзе новы твор, адказаў, што наперадзе ён не бачыць чалавека, які будзе чытаць яго кнігу, і таму навошта пісаць.

**— Але ўсё ж такі сур’ёзныя чытацкія канферэнцыі і сустрэчы праводзяцца?**

— Так, безумоўна, яны бываюць. Напрыклад, цікавыя міжнародныя сустрэчы па творчасці таго ці іншага пісьменніка, ці сустрэчы, прысвечаныя нашаму часопісу, канкрэтным праблемам. Але ўсё гэта замыкаецца ў цесным коле вузкіх прафесійных інтарэсаў, і замест таго звона, пра які гаварылі Герцэн і Лермантаў — “звучал, как колокол на башне вечевой” — чуецца гэткі пакаёвы званочак. Літаратура адгукнулася на страту грамадскай цікавасці, замкнулася ў нейкіх узаемапародыях, гульнях, часам дастаткова вясёлых, дасціпных і захапляльных. На сёння сітуацыя такая: шмат выдатных твораў пасля публікацыі не маюць аніякага, нават найменшага, рэзанансу. Ствараецца ўражанне, што няма літаратурнага працэсу самога па сабе, што нібыта адсутнічае крытыка, што яна як быццам бы адышлася ў цень, зрабілася нейкай тусовачнай: “сваіх” падтрымлівае, з іншых часам кпіць. Каб жыла вялікая літаратура, трэба літаратурны асяродак, нармальны літаратурны працэс з кваліфікаванымі водгукамі ў прэсе, трэба грамадскі розгалас, наладжанае “маркіраванне працэсу” праз перыёдыку. Сёння, на жаль, нічога такога няма. Але, дзякуй Богу, таленты не залежаць ад рынкавай ці не-рынкавай эканомікі: калі прырода адорыць чалавека, дык у яго гэты дар выявіцца. Зусім нядаўна я быў удзельнікам нарады маладых пісьменнікаў, што прайшла ў Маскве, і сустрэў там па-сапраўднаму таленавітых паэтаў і празаікаў, адчуў іх жывое слова.

**— Як часопіс вырашае праблему ганарараў?**

— Я вельмі збянтэжаны нашымі ганарарамі: мы плацім 40-50 у.а. за аўтарскі аркуш. Гэта цалкам неадэкватная плата за таленавіты твор. Сродкі паступаюць адно ад падпіскі, фундатараў няма. Толькі напрыканцы года мы маем магчымасць літаратурныя знаходкі, поспехі і здабыткі прэміяваць за кошт спонсараў. Тут нам у нейкай ступені дапамагае Міжнародны літаратурны фонд, “Рускі банк развіцця” стабільна выдаткоўвае невялікія сродкі. Літаратурную працу трэба аплачваць. Я цалкам нязгодны з новай тэндэнцыяй выдаваць газеты, часопісы без ганарараў. Гэта паступовая дэградацыя літаратурнай справы, сур’ёзнай, вялікай літаратурнай прафесіі. Гэтаму трэба супраціўляцца, інакш нас чакае дэпрафесіяналізацыя. Ніхто — ні палітолагі, ні эканамісты, якія маюць свае праблемы, заклапочаны вырашэннем макраэканамічных, манітарысцкіх і да таго падобных задач — не можа, не здатны так глыбока і дакладна акрэсліць некаторыя моманты рэчаіснасці, убачыць сітуацыю праз чалавека, як робіць гэта сур’ёзная літаратура. І голас яе павінен быць чутны далёка.

*ТРЫ ГРОШЫ*

# Ці трэба нам такое “Завтра”?

У той час, калі з-за хранічнага недахопу сродкаў старэйшую літаратурную газету і часопісы мяркуюць аб”яднаць ў дзяржаўны холдынг, калі заробак у “ЛіМе”, “Крыніцы”, “Полымі”, “Мастацтве” можа не выплачвацца месяцамі, а на ганарары, падобна, усе ўжо забыліся, у Беларусь прыйшла газета “Завтра”. Раней расійскі папярэднік “Славянского набата” толькі зрэдку прадаваўся “з рук” блізу Камароўскага рынку. Цяпер жа мясцовае лобі адыёзнай маскоўскай газеты адчула сябе ўпэўнена.

Для тых, хто не ведае, паведамляем: размова ідзе зусім не пра шэранькае выданне ўлёткавага кшталту. “Завтра” ўяўляе сабой, бадай, галоўны друкаваны орган расійскай апазіцыі чырвона-карычневага кірунку. Дарэчы, пад такім вызначэннем выдаўцы газеты самі неаднойчы падпісваліся і да 1996 года называлі яе “газетой духовной оппозиции”. Цяпер жа яна “паднялася” да “газеты Государства российского”. Рэдактар выдання — пісьменнік Аляксандар Праханаў.

Увогуле, дадзенае выданне здзіўляе сваёй здольнасцю сумяшчаць несумяшчальнае. Папулярызацыю РНЕ і віншаванні ветэранам ВАВ, камуністычную ідэалогію і прысутнасць уласнага “духоўнага настаўніка” з ліку праваслаўных святароў. Усё гэта выгадна адрознівае “Завтра” ад артадаксальнай “Правды”. Тым не менш “усложнять” не любяць і тут. Вось, напрыклад, як “заўтрашнікі” ставяцца да праблемы смяротнага пакарання: “Не надо казнить вымирающий народ. Надо устроить одну-единственную публичную казнь над Чудовищем, которое разрушило великую страну, расстреляло из танков Верховный Совет, уничтожило все ремесла и знания, осквернило все святыни и ценности и вот уже который год вкалывает себе в брюхо омолаживающий эликсир, приготовленный из крови русских младенцев. Из чрева несчастных женщин выковыривают эмбрионы, пропускают сквозь давилки и мясорубки, смешивают с колдовским отваром и впрыскивают в гниющее тело Людоеда, повышая его гемоглобин”. Як бачым, свае ідэі чырвона-карычневыя нясуць у масы максімальна даступнай для іх мовай. Калі пры згадцы няўгоднага палітыка проста «забываюцца» напісаць яго ініцыялы, то гэта можна лічыць удачай. Часцей жа апаненты «ўзнагароджваюцца» ганебнымі вызначэннямі кшталту «говорливый, словно струйка в сливном бачке». Назвы артыкулаў тыя яшчэ: «В могилу Ельцина вгонят кол», «И страшен будет ваш удел, враги», «Добить и замириться», «Горбачев и Яковлев встают из могил». Некаторыя загалоўкі ўвогуле можна разглядаць як заклік да гвалтоўнай змены улады. Дарэчы, улады саюзнай нам Расіі. У “Белсаюздруку” нам патлумачылі, што расійскія выданні пры адсутнасці супраціву з боку Міністэрства інфармацыі могуць распаўсюджвацца ў межах адзінага інфармацыйнага поля. Вось толькі ўзаемаразлікі паміж суб”ектамі гаспадарання неабходна ажыццяўляць у беларускіх рублях. А для гэтага расіянам патрэбны мясцовы пасярэднік. Ім і стала небезвядомае ЗАТ “Православная инициатива”.

Варта адзначыць, што ўлётачныя “Даёшь!” — дробязь у параўнанні з той ідэалагічнай глебай, на якой грунтуецца антыяўрэйская, антыпольская, антылітоўская, антыўкраінская прапаганда. Прэса ўжо неаднойчы пісала пра тое, як выдадзеную ўсё тым жа ЗАТ шчыра юдафобскую кнігу “Война по законам подлости” беларускі суд назваў амаль навуковай працай. Дык вось, газета “Завтра” не толькі не лічыць патрэбным асуджаць гэты факт, але і заклікае выдаць кнігу ў Расіі.

Дарэчы, спецкарэспандэнтам “З” у нашай краіне працуе сумна вядомы Яўген Росцікаў. Ці варта тады здзіўляцца, што наша Радзіма для іх ўсяго толькі “Белая Русь”? Чалавек, які мае вельмі ўмоўнае дачыненне да мастацтва, не ведае ні гісторыю карэннай нацыі, ні яе мовы, дазваляе сабе на газетных старонках бэсціць лепшых прадстаўнікоў нашай культуры. Дагэтуль многія знаныя творцы не могуць забыцца на опус “Ржавые перья”, дзе “бездарными, бесполыми существами и напыщенными бездарями” былі названы амаль усе класікі нашай літаратуры.

На завяршэнне адзначу, што гэта не першая спроба бесперашкодна распаўсюджваць “Завтра” на зямлі Беларусі. Два гады таму “Белсаюздрук” ужо пачынаў гандляваць гэтай “ідэалагічнай зброяй”. Аднак пасля маёй публікацыі ў “БДГ” газету хуценька з шапікаў прыбралі. Ці варта казаць, што я быў вельмі задаволены?! Аднак, як бачым, пацярпеўшы паразу, экзальтаваныя спадары не супакоіліся: ўжо два месяцы “Завтра” прадаецца ў рэгіёнах і не выключана, што бліжэйшым часам зноў з’явіцца ў Мінску. Усё, няма чым ганарыцца!

**Вадзім ДОЎНАР**

Студзень. Каля музея Леніна распаўсюднік "чырвона-карычневай" літаратуры са стосам газет.

— Мне "Завтра". Усе нумары, якія ў вас ёсць.

— О-о-о, — дзядулеў позірк напоўнены павагай да маладога пакупніка

— Вы, напэўна, сталы чытач?

— Стараюся, — адказваю я, засоўваючы праханаўскую газету ў торбу. — Ды не распаўсюджваецца яна ў нас, у Мінску.

— Як гэта, чаму?

— Спрабавалі былі, ды я прыклаў руку (напісаў артыкул з абурэннем. — **Аўт.**)

Нямая сцэна.

•

Верыце ці не, а колькі ні шукаў, не знайшоў я ў "златоглавой" ніводнага палітычнага надпісу на сценах. Так званыя графіці тут выконваюць тую ж ролю, што і ва ўсім свеце — ролю набытку рэп-культуры. Маладыя людзі робяць прыгожыя каляровыя надпісы — малюнкі збольшага на загарадных платах, і пабачыць апошнія можна адно пад'язджаючы да сталіцы Расіі цягніком ці электрычкай. Толькі там трапіўся заклік біць вядома каго і ратаваць вядома што. Брудныя пісягі не сапсавалі, што праўда, рэперскай каляровай гамы. Падмаскоўнае Адзінцова ў гэтым сэнсе горшае: падобна, што жывуць тут адны вайскоўцы, а нехта марна спрабуе іх палітычна выхоўваць. За суткі да выбараў у Масгардуму з'явіўся наўпрост на станцыі надпіс "За ПроХвостова ?!" Падобнае прозвішча (без прыстаўкі "про") сапраўды мелася ў спісах кандыдатаў у дэпутаты, аднак, улічваючы пытальнік ды клічнік, цяжка зразумець, якую мэту мела тая "прапаганда". Згадзіцеся, чорт нагу зломіць у такіх палітэхналогіях! Ад таго і ў галовах асобных расіян такі гармідар, што міжволі згадваеш тую "дасведчаную" бабулю, якая падчас канфлікту на НТВ дужа сур'ёзна распавяла вашаму карэспандэнту пра змову габрэяў супраць незалежнай расійскай кампаніі. У гэты ж час "патрыятычная" прэса пляскала ў ладкі, радуючыся разгону "жыдоўскай кодлы".

Яшчэ паўгады таму пасля станцыі "Сетово" (напэўна, ад расійскага "сетовать") вагонны гукаўзмацняльнік пачынаў брахаць пра абавязковую рэгістрацыю ў горадзе-герої, увагу і своечасовае паведамленне пра "нічыйныя" рэчы. Зараз жа пра колішнія тэракты нагадваюць хіба ў метро ды ў аўталайнах (гэта ў нас маршрутная таксоўка, у іх аўталайн). Там наразвешвалі партрэты чачэнскіх сепаратыстаў. Так і здаецца, павернеш галаву — і табе ўхмыльнецца калі не Бен Ладэн, дык, пэўна, Хатаб. Масквічы на такія дробязі, як абвесткі ў метро ці напамін у аўталайне ўжо даўно не звяртаюць увагі. Не любяць, калі ім нагадваюць пра смерць, галоту, гаркоту. Калі спыняюць на вуліцы — таксама не любяць. Яны бягуць кудысьці, спяшаюцца — у іх такая нацыянальная традыцыя. Спыніць дазволена толькі апранутаму ў скураное міліцыянту з традыцыйным аўтаматам на плячы. Пры гэтым рэдка хто не пакрыўдзіцца, што яго палічылі "лицом кавказской национальности". Масквіч у пачатку ці ў разгар працоўнага дня — гэта пчала ў расцярушаным вуллі. "Кінастужка" паскараецца, здаецца, да такой ступені, што апроч сотавых тэлефонаў, лязгату дзвярэй метро, лязгату тармазоў іншамарак на трасе нічога не чуеш. "Стужка" запавольваецца ўвечары, і зноў паспрабуй толькі масквічу нагадаць, што ў некага нешта не так, ірвуцца снарады, паміраюць людзі. Масквіч пра гэта лепей з раніцы прачытае ў "Московском комсомольце", а пакуль ён адпачывае. Гэта святое!

Прыгожа асветлены ліхтарамі ды рэкламнымі праспектамі горад напаўняецца зусім (?) іншымі людзьмі. У іх нават можна "стральнуць" цыгарэту — збольшага чамусьці "Парламент" — ці нават на халяву "звякнуць" з іхняга мабільніка. Вядома ж, не ўсе дазволяць. Але такі тэлефон, бадай, у кожнага трэцяга. Аднак, калі вам карціць не проста дамовіцца пра месца сустрэчы, але добра пагаманіць, падрыхтуйце немалыя грошы, а галоўнае — вырашайце, з якога аўтамата вам зручней гэта будзе зрабіць. Справа ў тым, што ў Маскве ў розных раёнах розныя і апараты. Набываеш нятанную карту і ...трапляеш туды, дзе званкі магчыма выключна па жэтонах. Урэшце "пагаманіць" напісаць паспяшайся, бо аплачаны час таксафоны з'ядаюць так хутка, што толькі паспяваеш усвядоміць: ты ў расійскай сталіцы.

Гатэль — рэч цудоўная, калі тваё пражыццё аплачвае запрашаючы бок. Памятаю дагэтуль, як нахабна патрапіў на Кангрэс расійскай прэсы, засяліўся ў "Космас". У ваным пакоі хвілін пятнаццаць не мог зразумець, як уключаецца вада і чаму гэта мне, маладому журналісту, што нападпітку, ласкава-запрашальна ўхмыляецца швейцар.

Дарэчы, пра рускую ці расійскую прэсу і журналістаў. Як мне падаецца, вялікім пераболыцаннем з'яўляецца сцвярджэнне, што якасць журналістыкі дасягнула ў суседзяў невядома якіх вышыняў. Не будзем кранаць тут тэлевізію. Тым больш,што пасля разгрому НТВ і адключэння ТВ-6 кранаць ужо амаль няма чаго ( колькасць жа тэлеканалаў не азначае якасць ). З прэсай, з майго пункту гледжання , сітуацыя крыху лепшая. Пяць-шэсць прыстойных выданняў знайсці можна ( "Коммерсантъ", "Новые известия","Московский комсомолец","Московские новости","Литературная газета").

На згаданым ужо кангрэсе рэдактар нейкай там "Саратовской правды" (магу памыліцца — не прынцыпова) настойліва заклікаў вашага пакорлівага слугу дасылаць яму інфармацыю пра жыццё РБ, абяцаў немалыя па нашых мерках грошы. Аднак пасля адмовы завяршыць святочны фуршэт у ягоным пакоі — надта ж знешнасць рэдактара была падазронай, — знік і на лісты з Мінска ніяк не рэагаваў.

Было пазней супрацоўніцтва з газетай "Коммерсантъ". Колькі разоў яны тэлефанавалі ўвечары і прасілі за паўгадзіны зрабіць ім патрэбны матэрыял. Рабіў. Аднойчы ў Маскве журналісты гэтага выдання нават частавалі мяне півам у рэстарацыі, але... даць сталую працу беспрацоўнаму тады беларусу адмовіліся. "Энтэвэшнікі" таксама малайцы. Змагаліся мы ўвесну "за нашу і вашу свабоду", пісалі-асвятлялі. Яны ж нам спачатку прытулак на лесвіцы шостага паверха Астанкіна (у студыі не пускалі) і бясплатную вячэру, а потым ануляванне пропуску — бац! Крутыя! І дзе яны цяпер?

У нас жа як прыйдзеш у любую рэдакцыю — і праз хвіліну-другую размаўляеш з намеснікам наконт працаўладкавання. Там жа у лепшым выпадку па тэлефоне параяць даслаць ім сваё рэзюме. Потым, маўляў, бачна будзе. Даслаў — чакаю дагэтуль. Але ж не ўсё так кепска. Было, было адно выключэнне з правілаў. Здагадайцеся — дзе? У рэдакцыі беларуска-расійскай газеты "Союз" (хто не ведае, ёсць такая ў нашага парламенцкага сходу). Там журналісту з братняй РБ узрадаваліся, узяліся ўжо ў штат афармляць, ды запыталіся пра ранейшыя месцы працы. Пачуўшы адказ, шчыра прызналіся, што дыскрэдытаваны я супрацоўніцтвам з нацыяналістамі.

Затое ў Маскве рэгулярна ходзіць метро. Цяжка ўявіць гэты мегаполіс без падземкі, хаця ўласна падземка яна і не паўсюль. Ёсць некалькі станцый на паверхні. Назіраць за пераўтварэннем метро ў звычайную электрычку цікава, а вось разглядаць самі станцыі сумна. За рэдкім выключэннем шэрыя ды аднастайныя. Такое ўражанне, што будавалі іх не для таго, каб упрыгожыць даволі працяглае (улічваючы памеры горада і час, затрачаны на дарогу) жыццё чалавека пад зямлёю, а для ратавання іх ад бамбардзіровак падчас вайны. Адно прыцягвае ўвагу — своеасаблівая дысцыпліна насць масквічоў: дзе-дзе, а на эскалатары яны выстройваюцца твар у патыліцу, сходзяць з аднаго боку вольныя. Цяжка ўявіць, між іншым, масквіча, які б дакладна ведаў уласны метрапалітэн, і гэта ўрэшце зразумела, бо столькі перакрыжаванняў ліній бадай няма нідзе. Таму запытваюца пра далейшы шлях лепей усё ж у супрацоўніц метро. І хутчэй за ўсё маленькая кабецінка пакажа на малазразумелую схему.

Між іншым, ці бачаць самі тубыльцы недарэчнасці, звязаныя з пераносам на славянскую зямлю заходніх узораў рэкламы? Напрыклад, летам на Манежнай плошчы ўсёй агромністы шчыт: "Невея — усё, што трэба вашай скуры". На ім дзве жанчыны і адзін мужчына — "Шчасце разам". Усяго толькі ў некалькіх метрах ад гэтай рэкламы касметыкі ўзвышаўся палкаводзец Жукаў на кані. Але ж зараз мы не пра гэта...

Як бы тое ні было ў метро, але і без схемаў ёсць на што і на каго паглядзець. Хочаш — на жабракоў, значную частку якіх складаюць калекі — ветэраны бясконцых "антытэрарыстычных аперацый". Хочаш — на дыпломы сталічных ВНУ, якія за кругленькую суму на вашае імя і запоўняць.

На вуліцы брудна. Падчас апошняй вандроўкі ў Маскву смецце не заўважалася, бо было прыхавана снегам. Празнізлівы вецер разам з адчувальным марозам прымушаў час ад часу хавацца ў крамах і разглядаць не патрэбныя табе рэчы. Каб не раздражняць сваёй прысутнасцю службоўцаў якой-небудзь ювелірнай крамкі, заходзіў у "торговые ряды" ці "Біблія — Глобус". Няма чаго казаць: кніжны бізнес тут на вышыні. Хочаш — класіка, хочаш — сучасная псеўдалітаратура, гісторыя, філасофія і г.д. Не здолееш сам знайсці, табе з дапамогай камп'ютэра знойдуць.

На другім паверсе крамы бадай што поўны збор расійскай, савецкай, постсавецкай кінакласікі. Ёсць тут "Рожденная революцией", "Офицеры" і нават прапагандысцкае "Взятие Берлина". Па-над усім — старыя плакаты "Родина-мать зовет!", "Товарищ! Береги оружие, к нему тянется рука врага". Сыходзіш уніз, глядзіш на Лубянку і дзівішся: "А дзе железны Фелікс?" А напамін на будынку былога КГБ пра тое, што тут працаваў "выдатны дзяржаўны дзеяч" Юры Андропаў, прымушае схавацца ў "Дзіцячым свеце".

Але як бы тое ні было, Масква еўрапезуецца. Дакладней, думае, што еўрапезуецца. Падземны горад на Манежнай у некалькі паверхаў з фантанамі, ліфтам, пазалотай, сек'юрыці ў форме паліцэйскіх. Лубок. Ужо несцярэалістычны. Інтэрнэт-кавярні ўпэўнена можна назваць "Зайшоў-выйшаў". Кошты ў тры разы вышэйшыя за нашы. Можаш паглядзець на велічэзныя праваслаўныя храмы. Вядома, калі не засмучае цябе той факт, што кубачак для ахвяравання ў жалезных і на ланцугу. Але ж адкінеце ўбок дурныя думкі: усё тут дзеля чалавека. Увесь цэнтр поўніцца біз-прыбіральнямі, дзе справіць патрэбу можна бясплатна. Сапраўды: не ўсё тут прадаецца і купляецца! Дзякуй мэру Лужкову і ўсім, усім, усім.

Напрыклад, віцэ-спікеру Дзяржджумы Жырыноўскаму. За тое, што ў адрозненне ад нашых "віцэ", трапіць да яго па інтэрв'ю прасцей простага. Варта толькі да прызначанага часу дадаць гадзінку і прапусціць пападзе сябе маскоўскіх калег — і Уладзімір Вольфавіч будзе "думать про Беларусь". Ягонае атачэнне здыме вас на відэа, каб потым выпусціць фірмовую касету пад нумарам 130 з серыі "Это Жириновский".

Тым часам пра нашую Радзіму думаюць і на Беларускім вакзале, дзе з нядаўняга часу можна памяняць айчынныя "разліковыя білеты" на іх рублі. Так, шмат хто думае тут пра Беларусь...

Пра свой родны горад Ліда ўвесь час згадвае і мая цётка Люда, якая колькі ўжо год жыве ў падмаскоўным горадзе Уласіха з мужам падпалкоўнікам расійскіх узброеных сілаў. Яны ўчатырох з дачкой-школьніцай і другой, двухгадовай, вымушаны зводзіць канцы з канцамі на афіцэрскія сто долараў у месяц. Сама Людміла ўладкавацца на працу не можа, паколькі цыўльныкі з яе адукацыяй там нікому не патрэбныя, а для павышэння кваліфікацыі патрэбны вялікія грошы. Была, праўда, уладкавалася да мясцовага прадпрымальніка ў "Салон прыгажосці", ды апошні неўзабаве спалілі бандыты. На долю аднак не скардзіцца, моліцца Богу і пасмейваецца з пляменніка, які, бач ты, сотню "зялёных" не задавальняецца. "У вас яшчэ нічога", — кажа яна. "Сапраўдная" беларуска.

Імкнуўся не абцяжарваць яе сваёй прысутнасцю, шторанак з'язджаючы ў Маскву. Быццам і недалёка, усяго якая гадзіна на дарогу, але ж грошай каштуе! Сем рублёў на аўталайн і восем на электрычку. Вы скажаце, дык не плаці, ездзі "зайцам". Паспрабаваў аднойчы, дык ледзь не набілі, рыхтык той міліцыянт на Казанскім вакзале. Падлічыў, значыцца, кіроўца аўталайну грошы і кажа: "Не паеду, шукайце зайца". Ну і знайшлі! З электрацягнікамі яшчэ безнадзейней. Панарабілі тых турнікетаў са штрых-кодамі на квітках. Не зайсці без іх, не выйсці. Але ж еўрапезуецца Масква. Ды ўсё ж не гэта галоўнае.

Галоўнае, не забыцца своечасова замовіць пропуск на КПП, таму што Уласіха (кодавая назва Адзінцова-10) — вайсковы гарадок і калі ссадзіць цябе патруль у заснежаным полі, давядзецца крочыць лесам да наступнага КПП і прасіцца ў змерзлых байцоў за хабар прайсці за высачэзны плот, якім гэтая самая Уласіха і агароджана. Але нічога, не ўсе вартавыя такія пільныя, часам можна прайсці і па пратэрмінаваным пропуску. Карацей, калі ласка, бандыты-тэрарысты, вас тут амаль не чакаюць...

Аднак што гэта мы ўсё пра сумнае ды пра сумнае. Давайце лепей пра жанчын. Насамрэч масквічкі за дваццаць — гэта тэма нават для навуковых даследаванняў кшталту "Уплыў сталічнага жыцця на жаночую псіхалогію". Не толькі мною заўважана, што масквічкі любяць, калі іх бяруць сілаю. Дакладней, калі для іх ствараюць выгляд прымусу. Калі бываю ў Маскве, заўжды згадваю аповед аднаго знаёмага, які не меў дзе прытуліцца на ноч. Не маючы "задняй думкі", напрасіўся да адной "памыцца, пагаліцца, адпачыць". Тая ветліва дазволіла. Больш за тое, смачна накарміла беларуса за свой кошт і нават пляшку паставіла. Толькі вось нязручнасць: ложак адзін і легчы хлопцу з ёю давялося разам. Прыгажуня адразу папярэдзіла, што "нічога не будзе". Хлопец, і без таго ўдзячны за начлег, прыняў гэта даволі натуральна. Якім жа было ягонае здзіўленне, калі ўжо ў Мінску ён чытаў абураны ліст сваёй добразычлівіцы пра тое, што "не" не азначае "не", браць трэба "прымусам", а яна, маўляў не толькі была не супраць, але і прагла блізкасці з ім. Застаецца дадаць, што больш бачыць гэтага хлопца наша гераіня не захацела. Калі я расказваю гэтую гісторыю знаёмым масквічкам, яны шчыра смяюцца і абразліва адгукаюцца пра "няшчаснага". Яны салідарныя з "ваўчыцай"! Магчыма, таму з масквічкамі я імкнуся падтрымліваць так бы мовіць "чыста сяброўскія" ці "дзелавыя" адносіны.

Вось толькі ў студзені адна такая сяброўка абяцала ўзяць мяне хуткім часам да сябе на працу. Сама яна, трэба сказаць, менеджэр у кампаніі "Сибирьэнергоуглеснаб". (Уяўляеце, як ёй прадстаўляцца, пакуль назву прамовіш.) Збіраюцца, маўляў, яны адкрываць у Мінску філіял, а яна пагадзілася яго ўзначаліць і шукае працоўных люд. Уся яна гэтакая крутая (ну ніяк не абысціся без гэтага слоўца), мэтанакіраваная і ўпэўненая ў тым, што ў рэшце рэшт разгайдае нашае "балота". Зазначым таксама, што размова адбывалася ў кавярні "Пироги", аднак ніякіх пірагоў там не было. Дык вось, хаця не было пірагоў, былі там моцныя гатункі піва. Таму ў працэсе "перамоваў" у сэрцы Юліным знайшлося шмат сумненняў у мэтазгоднасці пераезду. Глыток за глытком — і вось яна ўжо заяўляе, што жыць не можа без сваёй Масквы і за ніякія грошы ёй не патрэбна тая Беларусь! Гледзячы на гэткія выкрунтасы, мне стала шкада расійскага капіталу ў Беларусі і такіх вось Юляў.

•

Цягнік павольна рухаўся ў напрамку "Масква — Мінск". Да Новага года заставаліся лічаныя дні. Суседзі па агульным вагоне не першую гадзіну пілі гарэлку. Героем вечара быў хлопец, які вяртаўся з нейкай будоўлі.

— Я ж думаў, прыеду з грашыма, падарункаў сваім прывязу, кватэру куплю, але ж наляцелі гэтыя! Усю брыгаду абрабавалі, усё начыста забралі. І што крыўдна, ведалі, калі прыязджаць. Відаць, са сваіх, з начальства нехта "навёў"!

— Ды не сумуй. Гэта ў іх звычайная рэч. Наступным разам разумнейшы будзеш.

— Не будзе наступнага. І так ужо зарабіў — нельга больш.

**Вадзім ДОЎНАР**

# Маскоўская сага

## ЯК Я ПРАЦАЎЛАДКОЎВАЎСЯ ЗА МЯЖОЮ



## *"Дачка волі"*




**Працягваючы добрую традыцыю знаёмства чытача з лепшымі набыткамі маладых аўтараў, рэдакцыя часопіса "Маладосць" у сваёй "Бібліятэцы..." выпусціла кнігу Міхася Карпечанкі "Дачка волі". Адметная яна ўжо тым, што гэта зборнік п'ес. А што да самога М. Карпечанкі, дык па ўзросце ён не такі і маладзён. Нарадзіўся ў 1959 годзе, скончыў Наваельніцкую школу, Барысаўскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Свой лёс цяпер звязаў з рэдакцыяй бялыніцкай раённай газеты "Зара над Друццю". Піша прозу, не чужыя яму гумар, публіцыстыка, неабыякавы да краязнаўчых памкненняў. І ўсё ж, мяркуючы па гэтай кніжцы, бадай, прызванне знайшоў у драматургіі. А як прыйшоў да яе, можна даведацца з уступнага артыкула заслужанага работніка культуры Беларусі, рэжысёра народнага тэатра "Валянцін" Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку В. Ермаловіча "Каб вольным быць...". Так, гэта ўступны артыкул, а не проста звычайнае слова-пажаданне, як гэта практыкавала "Бібліятэка часопіса "Маладосць" раней. Відаць, падобны падыход нават больш апраўданы, бо В. Ермаловіч дае разгорнутую ацэнку таму, што зроблена сёння М. Карпечанкам-драматургам. Адкрываецца кніга гістарычнай драмай "Дачка волі", прэм'ера спектакля паводле якой адбылася ў тэатры "Валянцін" 3 сакавіка 2001 года. І сама п'еса, і спектакль прысвечаны светлай памяці вядомага гісторыка і пісьменніка, старэйшага брата В. Ермаловіча М. Ермаловіча. М. Карпенчанка звярнуўся да вельмі даўніх падзей, сягнуўшы, дзякуючы сваёй творчай фантазіі, у тыя часы, калі жыла на зямлі гордая Рагнеда. Сягаючы ўглыб стагоддзяў, М. Карпечанка выступае не староннім сузіральнікам, а як бы і ўдзельнікам таго, даўняга і адбываецца гэта падтэкстава, праходзіць праз усю кампазіцыйную канву твора. Пастаўлены спектакль і па п'есе "Канвеер". Ён, дарэчы, у свой час паказаўся і на сцэне Дома літаратара ў Мінску. Гэтым разам М. Карпечанка звяртаецца да часоў сталінскага беззаконня, калі таталітарная сістэма знішчала сумленных людзей. Носьбітам яе выступае ў п'есе следчы Маразевіч, які не сумняваецца ў тым, што, знішчаючы "ворагаў народа", робіцца праведная справа. Не задумваючыся, падводзіць ён пад расстрэл і свайго колішняга вучня Юрку Сухадольца. Для Маразевіча даўно нічога святога не існуе, ён ператварыўся ў звычайнага выканаўцу чужой волі, а сумленне гэтага чалавека дрэмле, калі і ўвогуле хоць засталася часцінка яго. В. Ермаловіч сведчыць: "...Я бачыў слёзы на вачах многіх гледачоў спектакля. Бачыў слёзы на вачах тых, хто глядзеў "Канвеер" другі, трэці, чацвёрты раз... То былі слёзы ачышчэння. Слёзы смутку. Праз іх, тыя слёзы, у людзей адраджалася памяць". Прадстаўлена ў кнізе і п'еса "Дождж на дваіх", якая пакуль не пастаўлена. У адрозненне ад двух першых, гэты твор пабудаваны на матэрыяле сённяшняга дня. Адпаведна аўтарам узяты і персанажы: актрыса гарадскога тэатра Анастасся Андрэеўна Залужная, начальнік упраўлення культуры, яе муж Фёдар Фёдаравіч, мастак Віктар, два чыноўнікі раённага ўзроўню. Праблематыка не новая. Многія пісалі пра супрацьстаянне сапраўднага творцы і ўладу маючых. Але зноў жа М. Карпечанка не паўтараецца, а гэта лішні раз пацвярджае, што ён умее пісаць.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

КРЫТЫКА

# Ікебана Марыны Наталіч

У атмасферы варожасці да беларускай мовы, што, на жаль, застаецца самай балючай праблемай нашага расколатага грамадства, пры амаль суцэльным пананванні рускамоўя, што нагадвае скандальную сцэну, калі нахабная кватарантка бэсціць і выштурхоўвае збянтэжаную гаспадыню з яе ўласнай хаты, — пры ўсім гэтым нейк нават і няёмка прамаўляць добрыя словы пра тых, хто, жывучы ў Беларусі, піша па-руску (гаворка толькі пра літаратараў). Ненармальнае становішча з беларускай моваЙ скажае, скрыўляе падыход да той ці іншай рускамоўнай літаратурнай з'явы, многія старающца яе проста не заўважаць. Таму што варожасць нараджае варожасць, і нацыянальна свядомы беларус апошнім часам інстынктыўна ўнікае расейшчыны, бароніцца ад усяго рускага, як ад пагрозы жыццю. Хоць, вядома, не яго трэба вінаваціць у гэтым, а тых, хто яго да гэтага давёў, узаконіўшы вынішчэнне яго роднай мовы, яго культуры, выкараненне беларушчыны дзе гвалтам, дзе ціхай сапай. Аднак нацыянальная самасвядомасць не павінна скатвацца ў фанатызм, ператварацца ў нацыянальную абмежаванасць. Калі мы сапраўды еўрапейская нацыя! Трэба памятаць, што казённая, напаўпісьменніцкая расейская мова нашага каланізаванага чынавенства, "трасянка" б е з н а ц ы я н а л ь н а г а абывацельскага натоўпу — гэта адно, а мова мастацкай літаратуры, мова паэзіі зусім іншае. "Паэты — ўсе крыві адзінай", — сказаў вялікі паэт Расіі Сяргей Ясенін у вершы "Поэтам Грузии". І там жа:

> ***Самодержавный***
> ***Русский гнет***
> ***Сжимал все лучшее за горло,***
> ***Его мы кончили —***
> ***И вот***
> ***Свобода крылья распростерла.***
> ***И каждый в племени своем,***
> ***Своим мотивом и наречьем,***
> ***Мы всяк***
> ***По-своему поем,***
> ***Поддавшись чувствам***
> ***Человечьим.***

І хоць да сапраўднай свабоды нам яшчэ далёка і "самодержавный русский гнет", як мядзведзь, пагрозліва дыхае ў патыліцу незалежнай пакуль што Беларусі, гэта не павінна засланяць ад нас чалавечыя пачуцці, выказаныя і рускім паэтычным словам. Таму што яны супрацьстаяць тым жа ненармальнасцям, якім супрацьстаіць дэмакратычная частка беларускага грамадства, казённаму мысленню, псіхалогіі пакорлівага статка, догмам мінулага і спароджанай імі палітычнай варожасці, якая падзяляе людзей на два лагеры.

> ***Свидетельствует***
> ***Вещий знак:***
> ***Поэт поэту***
> ***Есть кунак.***

І чытачу таксама, дазволім сабе дадаць да ясенінскіх словаў, паэт ёсць кунак, гэта значыць, друг.

Такія думкі зноў прыйшлі да мяне, калі прачытаў вершы рускай паэткі Марыны Наталіч. Тры яе кніжкі амаль наўздагон адна за адною выйшлі ў Мінску: "В лесном краю" (выдавецтва "Мастацкая літаратура", 1992), "Странница" (выдавецтва "Беларускі кнігазбор", 1999) і "Ледяные стихи" ("Беларускі кнігазбор", 2002).

Сталася так, што ўсе тры зборнікі толькі цяпер адначасова трапіліся мне ў рукі, але гэта не першае маё знаёмства з творчасцю паэткі: у свой час мне давялося быць укладальнікам калектыўнага зборніка вершаў пачынаючых рускамоўных паэтаў — пад назвай "Первая встреча" ён выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1989 годзе. Значную плошчу ў тым "інтэрнаце" паэтычнай моладзі займалі вершы Марыны Наталіч, не куточак, як большасць аўтараў, а цэлы пакойчык. Зазірнуўшы ў яго сёння, з прыемнасцю пераканаўся, што, здаецца, не памыліўся, калі размяркоўваў "жылплошчу" — права Марыны на большыя "метры" пацвярджалася сапраўдным талентам. У ім адчуваліся свежасць першага снегу, першай пралескі, першага кахання, хоць яшчэ адчувалася і пэўная несамастойнасць, і няўмеласць, слабая тэхніка верша, — да прыкладу, паэтка рыфмавала "травы — усталый", "смелей — тень", "тяга — водопада", знаходзілася ў палоне дзеяслоўнай рыфмы, якая, дарэчы, толькі здаецца лёгкай: трэба быць майстрам, каб надаць ёй пругкасць мячыка, каб яна цокала, як капыткі маладзенькага Пегаса. Але ўсё роўна, вершы Марыны былі падобныя на дзіцячую ўсмешку, сонечную і наіўна здзіўленую, поўніліся радасцю першаадкрыцця свету, яго фарбаў і далягляду.

> ***Господи, какая благодать —***
> ***В белый снег глазами упадать,***
> ***Белый снег ладонью***
> ***взбить слегка,***
> ***Чтобы пролетающая птица***
> ***Верила, что это облака.***

І вось прайшло дванаццаць год. Ці вырасла паэтка за гэты час? Ці пацвердзіла ўжо больш грунтоўна свае права на жыхарства ў паэзіі? Бо вельмі часта першыя публікацыі так і застаюцца абяцаннем, заяўкай на творчасць, подступам да яе, і наступныя вершы — толькі сухая салома даўняга ўласнага жніва. Рады зазначыць, што з Наталіч гэтага не здарылася: усе тры кнігі, пра якія гаворка, — сведчанне росту, самапаглыблення, канчатковага фармавання сваёй манеры, пастаноўкі голасу — сцішанага, камернага. І дзякуй Богу, што паэтка не спрабуе яго фарсіраваць, не спрабуе, так бы мовіць, спяваць оперныя арыі, бо адчувае свае магчымасці, што вельмі важна. Можна прывесці нямала прыкладаў, калі паэт здраджваў прыродзе свайго таленту. Скажам, Пятрусь Броўка, ад прыроды лірык (і лірык даволі тонкі, аб чым сведчаць многія яго лірычныя, апалітычныя, як сказаў бы высокаідэйны савецкі крытык, вершы), усё жыццё гвалтаваў свой голас, уздымаў яго да надрыўнага пафасу, і атрымлівалася фальшыва, таму што не павінен тэнар спяваць басам. Марына Наталіч засяродзілася на кароткім вершы, самыя даўгія вершы ў яе — 16, 20 радкоў, пераважная большасць — чатырохрадкоўі, трохрадкоўі. Формы для рускай паэзіі не традыцыйныя, паэтка асвойвае традыцыю Усхода — кітайскі верш, японскі танка, узоры персідскай паэзіі. І атрымліваецца ў многіх выпадках хораша. І пры гэтым не нагадвае пераклад нейкага кітайскага ці японскага верша, таму што пачуцці, назіранні, думкі — свае. Свая інтанацыя. Таму і форма верша, яго, так бы мовіць, адзенне, успрымаецца натуральна, экзотыка незаўважна знікае.

У падмацаванне гэтай ацэнкі самі сабою просяцца цытаты, але ўстрымаюся ад шырокага цытавання. Выбар рэцэнзента заўсёды суб'ектыўны, і некаму тое, што я

УРАЖАННЕ

# Ловы ветру

Ёсць асобы, да якіх ставіцца нейтральна немагчыма. Яны выклікаюць альбо любоў, альбо нянавісць, альбо і тое і другое адначасова...

Ёсць творы, пра якія складана сказаць нешта пэўнае. Ты разумееш, што свет аўтара табе цалкам чужы і невядомы, але знойдзеныя — як быццам спецыяльна прыхаваныя для такога выпадку — цытаты палонячь, прымушаючы чытаць далей. Пры гэтым зусім неабавязкова пагаджацца з пісьменнікам, паважаць яго альбо захапляцца яго мастацкім стылем...

Сёння, ва ўмовах, калі катастрафічна падае цікавасць не толькі да беларускай кнігі, але і да любога друкаванага слова ўвогуле, прымусіць чытача дайсці да апошняй старонкі кнігі — задача з нялростых. Сучасны чытач пераборлівы і капрызны, каб авалодаць яго ўвагай, пісьменнік павінен клапаціцца не толькі аб займальнасці свайго аповеду, але і аб прыцягальнасці ўласнага вобраза.

Кніга "Браслаўская стыгмата" выклікае цікавасць ужо з-за таго паўскандальнага іміджа, які паступова замацоўваецца ў літаратуры за яе аўтарам. Гэта першая кніга Адама Глобуса, якая з'явілася выхаду яго "Тэкстаў", таўшчыня і якасць выдання якіх спраўкавала хвалю зайздрасці і абурэння ў многіх калег-пісьменнікаў. Нягледзячы на тое, што змест новага зборніка апавяданняў пазбаўлены ранейшай правакацыйнасці, характэрнай для знакамітых глобусаўскіх "дамавікоў" ці аповедаў кнігі "Толькі не гавары маёй маме", "Браслаўская стыгмата" абуджае эмоцыі вельмі супярэчлівыя, пра якія цікава паразважаць.

Тыя, хто лічыць гэтага пісьменніка самазакаханым эгаістам, здольным адно толькі да бясконцасці апісваць дробныя падзеі свайго жыцця ды пераказваць паказкі былых каханак, будуць задаволеныя. У новай кнізе — заўважым, складзенай пераважна з апавяданняў ранейшых гадоў — аўтар працягвае аддаваць перавагу рэальнасці перад вымыслам, узнаўляючы падзеі свайго і чужога мінулага з дэталямі амаль дакументальнай якасці. Нават сваю магчымую смерць у дзіцячым узросце ён абстаўляе падрабязнасцямі, здольнымі выклікаць у чытача — тут ужо ад настрою — смех альбо слёзы: "Напэўна, я быў бы вельмі прыгожы нябожчык: маленькі, белагаловы, чысты. О, як плакалі б несуцешныя бацькі над вузенькай труною! Не знайшлі б суцяшэння." Такая вось постмадэрновая "смерць аўтара" па-беларуску.

Тэма прыгажосці, ці, дакладней, аўтарскага самалюбавання — скразная тэма зборніка. Яна праяўляецца на самых розных узроўнях — ад апісання "далікатнай вытанчанасці" ўласнаўтарскіх вушэй да прамога пытання-звароту: "Няўжо людзі не адчуваюць, не бачаць, не разумеюць таго, што ў мяне нельга красці рэчы?"

Герой-апавядальнік, у якім даволі складана не пазнаць самога Глобуса, спрабуе надаць сімвалічную значнасць нават такім малапрывабным учынкам, як крадзёж паштовак: "Мае ўчынкі былі містычным актам разбурэння цнатлівасці, і я адчуваў, што другі раз цуд не адбудзецца, мой метад непаўторны, яго нельга множыць". Шматлікія нядобразычлівыя пісьменніка, відавочна, не стануць разбірацца, дзе чынам Глобус-наватар адрозніваецца ад Глобуса-пісьменніка , а проста пагодзяцца з прызнаннямі накшалт: "Па сваёй прыродзе я злодзей, самы натуральны, ад нараджэння. Я злодзей па сваёй сутнасці, бо падчас зладзейства атрымліваю эратычную асалоду."

Удачлівы злодзей, добры плывец, які вынырне з любой сітуацыі, — адзін з некалькіх іміджаў апавядальніка. Апафеозам духоўнага нарцысізму аўтара з'яўляецца апавяданне "Аўтапартрэт з разбітым носам", дзе Глобус выказвае спадзяванне, што апынуўшыся на тым свеце, ён зможа працаваць у пекле, дапамагаючы чарцям караць грэшнікаў.

Тыя, каго Глобус раздражняе, у кнізе "Браслаўская стыгмата" знойдуць нямала мясцінаў, здольных пажывіць свае пачуццё дыскамфорту. Аднак, гэтае пачуццё можа ўзнікнуць і ў тых, хто яшчэ не паспеў вызначыцца ў адносінах да творчасці пісьменніка, напрыклад, з-за даволі навязлівага згадвання слова "кроў". У спалучэнні з колерам вокладкі і частым ужываннем эпітэтаў "чырвоны" і "руды" (напрыклад, "Чырвоны сабака" ці "Брудны посуд"), гэтае слова ўздзейнічае на падсвядомасць, выклікаючы даволі змрочнае ўражанне і ад той рэчаіснасці, якую прэзентуе аўтар, і ад яго самога: "З Ерусаліму Лібэрман даслаў мне бутэльку віна — чырвонага й смачнага, як кроў" ("Тутэйшыя габрэі").

Тыя, хто лічыць сябе інтэлектуаламі, ці, прынамсі, людзі, схільныя да філасофствавання як спосабу прымірэння з рэальнасцю, будуць усцешаныя ўсходнім містыцызмам, якім прапітаныя такія апавяданні, як "Наша Ніва", "Спаць, спаць, спаць", "Акадэмічны адпачынак студэнта Дз."

Апошні твор, нягледзячы на відавочны каларыт эпохі ("абкладзеныя парудзелаю кафляю сцены, чарупіна з іржавай плямінаю пад кранам, драцяная сметніца, медычная шафа з зафарбаваным з сярэдзіны шклом, назручны стол, крэслы з прасціранай абіўкай, вузкае, занавешанае нясвежай фіранкаю вакно, альяс у гліняным гаршочку, столік на колцах, графін і шклянка)" нагадвае тыповую дзэнаўскую паказку, якімі так захаплялася "прасунутая" моладзь васьмідзесятых. Верагодна, што без знаёмства з тымі духоўнымі фішкамі, што жывілі мастацкую свядомасць пакалення, якое сёння асацыіруецца ў літаратуры з найменнем "Тутэйшыя", цяжка зразумець паводзіны галоўнага героя апавядання студэнта Дз., якога можна акрэсліць як "беларускага брата" Сімара Гласа, героя навелы Дж.Д.Сэлінджэра "Цудоўны дзень для бананавай рыбкі".

Змест апавядання складае гісторыя пра тое, як даволі складаным шляхам студэнт Дз. дабіваецца акадэмічнага адпачынку. Але замест мяркуемага хэпі-энду чытач атрымлівае аўтарскае паведамленне, што, прыняўшы душ, пагаліўшыся і працёршы рукі адэкалонам, герой адчыніў акно і скінуўся з пятага паверха. Аднак заўчасная смерць не мае адцення трагізму — гэта смерць чалавека, які пазбавіўся жаданняў. У інтэрпрэтацыі Глобуса, смерць —

*Глобус Адам. "Браслаўская стыгмата." Vostraja Brama. Наша Ніва. Сучасны літаратар. Мінск, 2001.*

хацеў бы прывесці, можа не спадабацца. Таму проста прапаную чытачам прайсці па гэтых трох светлых пакоях паэзіі Марыны Наталіч — упэўнены, што кожны знойдзе ў іх нешта, што прыйдзецца даспадобы. Некаму філасофская лірыка, некаму вершы пра каханне, якіх нямала, некаму замалёўкі прыроды, тонкія, празрыстыя акварэлі.

*Дождь идет не спеша, вполшага,*
*По заборам и крышам,*
*По мокрым собакам,*
*По травам поникшим,*
*По узенькой речке —*
*Серой холстинке,*
*По тоненьким веткам*
*Юной рябинки…*
*Дождь идет не спеша,*
*И остаются следы его —*
*Синие лужи.*

Зноў жа, некаму гэта можа не спадабацца, але наўрад ці хто скажа, што гэта наогул не вершы. Як і "Белорусский мотив":

*От белорусского — т у г а —*
*Приснится страшный сон,*
*Как крик совы — уга-уга —*
*Над гаснущим костром.*

*От белорусского — с м у г а —*
*Плывут в туманной мгле*
*Стогов пахучие стада,*
*Приникшие к земле…*

Беларускія матывы ў творчасці Марыны Наталіч хочацца асабліва падкрэсліць. Родам з порта Ваніна на Далёкім Усходзе, яна не проста пераехала ў Беларусь, але і зрабілася яе часцінкай, успрыняла ўсё беларускае як сваё роднае, адвечнае. Боль Беларусі — яе ўласны боль, аб чым сведчаць такія вершы, як "Белорусская свобода", "Приникну к плечу белорущины".

*Отдать тебе русское сердце —*
*Такая мне выпала доля.*

На жаль, некаторыя іншыя рускамоўныя паэты, якія разам з Марынай Наталіч былі прадстаўлены ў калектыўным зборніку "Первая встреча", як і яна пайшлі далей, выдалі свае асобныя кніжкі з дапамогай сваіх беларускіх сяброў, — не ўсе гэтыя паэты пажадалі "отдать свое русское сердце" Беларусі. І мне прыкра, што, напрыклад, здольны паэт Глеб Артханаў (Юры Аляксееў) сёння апынуўся ў тым рускамоўным літаратурным асяродку, які падзяляе вялікадзяржаўныя, імперскія погляды на Беларусь, на яе мову, літаратуру і культуру. Вядома, я не суддзя паэту, кожны мае права на той ці іншы выбар, аднак і прамаўчаць не магу. І не магу не падзяляць грамадзянскую пазіцыю Марыны Наталіч.

*Бело-бедная моя голубка,*
*Алой кровью полоса на грудке*
*Истекает…*
*Всё еще стреляют*
*Голубей, кружащихся над раем.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*И голубка в духоте «черемух»*
*Бьется немо над оглохшим краем,*
*Что не слышит, как в его голубку*
*Всё стреляют,*
*Всё еще стреляют….*

*"Белорусская свобода"*

Як той казаў, пры ўсім пры тым не ўсё ў пакоях паэзіі Марыны Наталіч бездакорна — ёсць і смецце. І нямала. Многія вершы шматслоўныя, паэтка часта збіваецца на лірычную рыторыку, на архаічную "альбомнасць" 19 стагоддзя:

*Зачем ей вечные страданья,*
*Зачем морщины на челе,*
*Зачем ей жгучие лобзанья*
*На выжженной земле?*

Сапраўды, "Зачем жгучие лобзанья", когда о душе, о ее боли, о неразделенной любви можна сказать трыма радкамі:

*Я душу разломила пополам,*
*Как хлеб последний…*
*Ты был сыт…*

…У японцаў існуе навука складання букетаў і к е б а н а. Не венік з ружаў ці цюльпанаў, а дзве-тры кветкі, а то і адна ў спалучэнні з голымі галінкамі, дзіўная асіметрыя, якая ўспрымаецца як танчэйшая гармонія. Мне здаецца, і ў гэтым мяне пераконваюць лепшыя кароценькія вершы Наталіч, што яе моц менавіта ў ікебане слова, у ашчаднасці, нешматслоўнасці радка.

*Слушаю слово…*
*Страницы взметая,*
*В небо взлетает белая стая,*
*Слово взлетает с надеждою*
*века —*
*Найти, вразумить*
*и спасти человека.*

*Верую в Слово,*
*И слышу тревожный*
*Голос той*
*женщины неосторожной:*
*«Жизнь нашу общую*
*не промини…*
*ANNO Domini…*

*"Читая Анну Ахматову"*

Паэзія Марыны Наталіч імкнецца не прамінуць жыццё. Таму і не чужая ў нашай хаце. Паэзія не бывае чужой.

**Валянцін ТАРАС**

---

чарговая карцінка, не больш значная, чым сапраўдны краявід ці безгустоўна намаляваны пейзаж на сцяне службовага кабінету.

Беларуская сучасная літаратура параўнальна рэдка звяртаецца да тэмы смерці. Нямногія аўтары здольныя перасягнуць мяжу фізіялагічнага страху перад непазбежным і перавесці ход думкі ў сферу абстрактных катэгорый. Так, для В.Быкава "смерць" звязана з паняццем "выбар" і адлюстроўвае заходне-еўрапейскі погляд на рэчаіснасць, якая залежыць і падпарадкоўваецца чалавеку. Дзякуючы А.Разанаву і таму ўплыву, які мелі на яго творчасць усходнія філасофскія сістэмы, беларуская паэзія прадставіла смерць як пераход з рэальнасці быцця ў рэальнасць іншабыцця.

Для Глобуса смерць — адна з роўнавялікіх падзей жыцця. Яна не столькі пераход, разрыў сувязі, колькі перацяканне, паступовая трансфармацыя аднаго рэчыва ў другое. Ствараецца ўражанне, што сам пісьменнік да канца і не верыць у яе наканаванасць, прынамсі для сябе, адсюль і лёгкасць, з якой раз за разам ён вяртаецца да гэтай тэмы, быццам спрабуючы ўзяць выйгрыш часу: "Чалавека трэба мераць вадою й ягонымі здатнасцямі плыць… Раней, у дваццаць сем, я хацеў, каб пасля маёй крэмацыі попел развеялі на радзіме, за мястэчкам Койданава, дзе-небудзь у лесе. А цяпер бачыцца іншае. Хай жменька праху будзе перасыпана ў драўляную талерку й паплыве па хвалях ручая, які застаўся ад ушчэнт змеліяраванай, абмялелай рэчкі Рудзіцы. Хай маё плаванне працягнецца на два імгненні пасля смерці. Зямля да зямлі, прах да праху, а мая душа імкнецца да вады" ("Наша Ніва").

Вада, кроў, алкаголь — тры вадкасці, якія так ці інакш пазначаюць аўтарскія адносіны да жыцця, ці, дакладней, уласны спосаб растварэння "ілжывай крышталізацыі" (А.Дугін), зададзенай свядомасці сацыёкультурнымі ўстаноўкамі. З цягам часу становіцца відавочным, што пад іранічным, а, іншым разам, самаўпэўнена- жлобскім тонам аповедаў Глобуса хаваецца глыбокае непрыняцце рэчаіснасці, жаданне вымкнуцца са свету матэрыяльных і сацыяльных "чарупінаў", стаць у цэнтры рэчаў, дакрануцца да восі быцця.

"Усю маладосць я празаймаўся жывапісам і маляваннем, прашукаў ідэалаў у краявідах і не знайшоў… Я маляваў рэчы, целы, дзіркі паміж рэчамі й целамі, я ўрэшце пачаў маляваць амаль дасканалыя геаметрычныя фігуры, якія прайшлі праз вялікае нішто, скламіся ў літары й пацяклі — радок за радком… Аднойчы, калі і ў галаве не было шукаць ідэальны краявід, ён знайшоўся сам сабою. Я сядзеў на беразе вадасховішча і піў вінаградное віно з рыльца доўгай французскай бутэлькі. Алкаголь скончыўся. Я ўзяў бутэльку й зашпурнуў у краявід. Я сядзеў на камені, пазіраў на сумны ландшафт і разумеў, што дарэмна шукаў карціннасці ў прыродзе. Гармонія тоіцца ў суадносінах паміж табою й наваколлем. Калі знаходзіцца раўнавага, ты робішся шчаслівы. Не варта смяяцца з парожняй бутэлькі. Чалавек — пусты мяшэчак з-пад радасцяў і пакут" ("Наша Ніва").

Разуменне таго, што чалавек — біялагічна — ёсць толькі абалонка, чарупіна, ёмістасць для душы, выяўляецца ў апавяданнях "Менскія вар"яты" і "Браслаўская стыгмата". З"яўленне пазнавальных вобразаў менскіх вар"ятаў дзіўным чынам вытлумачваецца ў самым містычным, і, безумоўна, самым запамінальным творы кнігі — "Браслаўская стыгмата": "Не вар"яты са сваімі гісторыямі хваробаў мяне цікавілі й цікавяць, а святло, што сыходзіла з велізарнага неба, святло і святасць".

Даволі нечакана для пісьменніка, якога часта абвінавачвалі ў рацыяналізме і адсутнасці душэўнай тонкасці, Глобус спрабуе вывесці невытлумачальную ўрачамі колькасць душэўнахворых з ледзь адчувальнай непрапарцыйнасці зямлі й неба на Браслаўшчыне. Менавіта неба, а не два рабаўнікі касцёлу, з'яўляецца героем апавядання "Браслаўская стыгмата".

"Якая марная марнасць — і ловы ветру, і ловы неба," — яшчэ адзін сказ, які з"яўляецца не толькі лейтматывам усёй кнігі, але і ключом для разумення асобных пабуджальных матываў, якімі кіраваўся пісьменнік, адбіраючы матэрыял для сваіх апавяданняў. Маляванне "дзірак між рэчамі" і адшукванне "страчанага часу між старонак" кніг, прачытаных у маленстве, — усё гэта можа быць акрэслена як ловы ветру.

Ловы ветру — задача марная, асуджаная на паразу, але прыцягальная сваёй заўсёднай незрэалізаванасцю, задача, зразумелая толькі тым, хто можа адчуваць прыгажосць нефункцыянальных рэчаў. Мажліва, адзіную сапраўдную прыгажосць.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

---

АДГАЛОСКІ

# Правакацыя гэта ці не?..

У перыядычным друку ўжо былі водгукі на змешчаны ў дзявятым нумары часопіса "Маладосць" за мінулы год артыкул Віктара Яраца пад назвай "Прэлюдыя да спрэчкі". Прыняць удзел у дыскусіі па гэтай "прэлюдыі" заклікала сваіх чытачоў наша паважаная газета "Звязда". Пасля закліку адразу вельмі аператыўна з'явіліся на старонках газеты водгукі на змешчаны ў "Маладосці" матэрыял паэта Васіля Жуковіча і інжынера з Мінска Уладзіміра Пішчуліна. Апошні рэзка асудзіў задумку Віктара Яраца — выклікаць сваіх сяброў, калег па пяры на размову аб сённяшнім стане нашай паэзіі — і назваў свой водгук громкімі словамі: "Асцярожна, правакацыя!". Пасля гэтага "Звязда" чамусьці зусім прыпыніла весці дыскусію па вельмі важным пытанні. Магчыма, яшчэ вернецца да сваёй ініцыятывы?

Найбольшую цікавасць у шматлікіх чытачоў, мне здаецца, выклікаў змешчаны толькі што ў нашым паважаным штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" артыкул настаўнікаў Забалоцкай школы А. Хілько, Б. Хілько і іншых (як значыцца ў подпісе) пад назвай "Табліца Мандзялеева-Яраца ў беларускай паэзіі". Аўтары гэтага артыкула, на мой погляд, знайшлі трапнае параўнанне вядомай нам са школьнай парты табліцы з расстаноўкай імёнаў беларускіх паэтаў па асобных раздзелах, зробленай Віктарам Ярацам. Аўтары артыкула, вясковыя настаўнікі з гумарам нават прапануюць кіраўніцтву Саюза пісьменнікаў, "выбіць бірачкі з нумаркамі і абавязаць усіх жывых паэтаў і паэтак насіць паверх портак ці спадніцы на правым баку бірачку. Выгадна будзе і чытачам і ў рэдакцыях перыядычных выданняў — зайшоў да рэдактара паэт — і на бірачцы нумар аж 85! Ну вядома, слабак ці зусім графаман, пайшоў прэч!.."

Так, гэта сапраўды гумар праз слёзы. Толькі аўтары артыкула, паважаныя настаўнікі, мабыць, залішне пасмяяліся з задумкі, якой кіраваўся вядомы беларускі паэт Віктар Ярац і рэдакцыя часопіса "Маладосць". Асабіста я думаю, што публікацыя артыкула "Прэлюдыя да спрэчкі" не з'яўляецца ніякай правакацыяй — гэта проста імкненне выклікаць больш аўтараў на размову па хвалюючым усіх нас пытанні.

Нельга сказаць, што наша літаратурная крытыка абыходзіць увагай сённяшні стан нашай паэзіі і наогул літаратурны працэс. У перыёдыцы, амаль у кожным нумары часопіса "Полымя" і іншых выданнях з'яўляюцца рэцэнзіі на кнігі, якія выходзяць яшчэ на шчасце ў дзяржаўных выдавецтвах і ў камерцыйных друкарнях. Але гэтага, безумоўна, недастаткова. І водгукі на артыкул Віктара Яраца, якім бы ён ні быў суб'ектыўным, могуць прынесці бясспрэчную карысць у нашай агульнай творчай справе.

Прызнацца, я не збіраўся адзывацца на публікацыю ў часопісе "Маладосць", з якой выступіў Віктар Ярац. Але вось, нягледзячы на свой старэчы ўзрост, вырашыў усё ж сказаць некалькі слоў.

Па-першае, хочацца падкрэсліць, што не аднаму Віктару Ярацу магла прыйсці ў галаву такая думка, каб, назваўшы імёны большасці беларускіх паэтаў, пачынаючы ад вялікага Янкі Купалы і канчаючы самім аўтарам задумкі, які паставіў сам сябе на апошняе месца, пагаварыць больш грунтоўна аб сённяшнім стане нашай паэзіі. Не будзем звяртаць увагу на тое, што ён кагосьці абмінуў, не ўключыў у сотню названых ім майстроў паэтычнай Музы. Чытачы ж ведаюць, што сам Віктар Ярац — цудоўны беларускі лірык. У гэтым можна было кожнаму пераканацца, прачытаўшы яго кнігі альбо падборкі вершаў у перыядычным друку, у прыватнасці нядаўна надрукаваныя ў "ЛіМе" аб'яднаных у адну нізку "Сем санетаў". У адным з іх паэт піша:

*…Бязгрэшныя і дрэвы і трава*
*чые грахі вымольваюць той ночы?*
*Сівей аблокаў стане галава,*
*А цвет вясны спакою не прарочыць.*

І вось гэтыя радкі піша адзін з тых ветэранаў, у каго "сівей аблокаў стане галава". Але справа не ў гэтым. Усе мы разумеем, што, як сказаў Уладзімір Маякоўскі, паэты патрэбны розныя і добрыя і па сваім характары, і па творчым стылі. Сярод усіх тых, каго ўключыў у сваю "памінальніцу" Віктар Ярац, безумоўна, ёсць такія паэты, хоць ён не назваў чамусьці Паўла Пруднікава, Паўлюка Пранузу і многіх з маладзейшых — Кастуся Жука, Людмілу Рублеўскую ці нядаўна прынятага ў Саюз пісьменнікаў Янку Лайкова. Думаю, што ніхто з іх, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў, не стане ўголас выказваць сваю крыўду за няўвагу да яго асобы. Як сказаў аднойчы Максім Танк (я ўжо згадваў дзесьці пра гэта) паэт не павінен зайздросціць другому, а толькі злаваць, каб напісаць лепей за другога. Ды наогул нельга паэзію, прозу, усю літаратуру раскладваць па палічках ці ўключаць у асобныя спісы, расстаўляць аўтараў па рангу. Кожны аўтар — вялікі ці маленькі — мае свой голас, займае сваё месца ў літаратуры. У гэтым сэнсе добра, можна сказаць, мудра падкрэсліў наш вялікі зямляк, класік рускай літаратуры Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі (цытую па арыгінале,як і да мяне цытавалі іншыя пісьменнікі): "Никто не может быть чем-нибудь или достигнуть чего-нибудь, не быв сначала самим собой". Гэтыя словы як нішто іншае можна аднесці да пачатай намі гаворкі пра паэтаў і паэзію.

Мне асабіста здаецца, што ўсё ж правільна зрабілі і рэдакцыя часопіса "Маладосць", і аўтар "Прэлюдыі да спрэчкі", што выклікалі саміх паэтаў на размову аб нашай паэзіі. І калі ўжо весці дыскусію па закранутай тэме, то гаворка павінна быць не толькі пра асобных творцаў, пра іх асабістую славу і вядомасць, а пра лёс нашай усёй літаратуры, як паэзіі ў прыватнасці, нашай роднай беларускай мовы, без якой не можа існаваць ні сама літаратура, ні яе творцы. І такая дыскусія можа адыграць вялікую ролю.

Паэзію трэба не толькі любіць, а і разумець. І гаворка пра яе — якой бы яна ні была — павінна весціся прадметна, канкрэтна, звяртаючы ўвагу перш за ўсё на майстэрства кожнага аўтара, на тое, як ён можа мастацкімі сродкамі, сваім словам выказаць думкі мільёнаў чытачоў.

Вось, чытаючы многія вершы ў апошнім нумары часопіса "Крыніца", я выпісваю асабіста для сябе як прыклад глыбокага вобразнага мыслення наступныя радкі:

*І трэснула неба, як шкло на іконе,*
*І свет раздзяліўся на Заўтра і Сёння.*

Альбо:

*Табе я пра Вільню сваю гавару,*
*няспешна, нібыта іду на гару,*
*З якой можна ўбачыць*
*нязведаны свет,*
*прыгожы і сумны, як мамы партрэт.*

Проста радуешся ад душы, што паэт мог напісаць такія вершы і што часопіс (дай, Божа, не апошні раз) змог надрукаваць іх на сваіх старонках. А хто ж гэта, чые радкі? Ды гэта ж нашага маладзейшага, таленавітага паэта Віктара Шніпа…

Заканчваючы свой водгук на "Прэлюдыю да спрэчкі", я хачу сказаць, што нельга яе лічыць нейкай правакацыяй. Аўтар несумненна кіраваўся, кажуць, добрымі намерамі і адказваць яму трэба шчыра, добразычліва, без усякай асабістай крыўды. Кожны свядомы беларус, які хоць крыху знаёмы з беларускай літаратурай, чытаў Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова і іншых нашых добрых і розных паэтаў, з упэўненасцю скажа, што беларускі народ можа ганарыцца здабыткамі сваёй культуры, тым, што за многія стагоддзі зрабілі яго майстры мастацкага слова:

*Як шум баравы, што ўліваецца*
*ў моры,*
*Яшчэ з незабыўных*
*скарынінскіх дзён,*
*Далёка, на ўсёй*
*еўрапейскай прасторы*
*Паэзіі нашай быў голас чуцён.*

Гэта з новага, напісанага толькі што, верша. А можна дабавіць да яго радкі незабыўнага Валодзі Караткевіча: "Быў, ёсць, буду".

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

*2 лютага 2002 г.*

## "Я жить хотел"

**У кагорце пісьменнікаў, якія сталі ахвярамі сталінізму, Валерый Маракоў — адзін з самых маладых. Яго жыццёвы шлях абарваўся 29 кастрычніка 1937 года, калі паэту было толькі дваццаць восем гадоў. Не зважаючы на такі ўзрост, ён паспеў напісаць шмат. Выйшлі кнігі "Пялёсткі", "На залатым пакосе", "Вяршыні жаданняў", "Права на зброю". І гэта прытым, што пачынаючы з 1934 года, В. Маракова не друкавалі. Хораша пісаў, сумленна жыў, годна пайшоў з жыцця. Можна толькі здагадвацца, чаго каштавала яму не толькі вытрымаць катаванні, а і не прызнаць сябе віноўным. Ламаліся і больш моцныя. В. Маракоў жа, а таксама Гаўрыла Гарэцкі стаялі да апошняга. Гэтыя і іншыя звесткі з жыцця В. Маракова можна знайсці ў артыкуле Людмілы**




**Герасімёнак "Ён край родны апеў", што стаў прадмовай да кнігі паэта "Я жить хотел", выпушчанай у Санкт-Пецярбургу Выдавецтвам пісьменнікаў "Дума". Упершыню ж творы В. Маракова загучалі па-руску дзякуючы старшыні санкт-пецярбургскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі Івану Сабілу, які ахвотна і шмат перакладае беларускую паэзію. Л. Герасімёнак даводзіцца В. Маракову ўнучкай. Яе маці Інеса Леанідаўна з'яўляецца дачкой брата паэта Леаніда Дзмітрыевіча. У прадмове Л. Герасімёнак прызнаецца: "Мне давялося нарадзіцца і доўгі час жыць у доме Маракових. Бацька Валерыя Маракова — дзед Дзмітрый, як я яго называла — па нацыянальнасці рускі, доўгі час жыў у Санкт-Пецярбургу, любіў гэты горад, любіў мора. Адсюль, дарэчы, з'явілася і прозвішча — Маракоў. І бацька Валерыя, і яго маці цудоўна ведалі літаратуру (беларускую, рускую, замежную). Відаць, гэта таксама паўплывала і на тое, што выбрала прафесію філолага. Ды і цяпер у нашым доме быццам прысутнічае сам дух Валерыя — яго вялікі партрэт на сцяне". І, вядома ж, прысутнічаюць самі вершы — шчырыя, лірычныя, светлыя, а таксама бунтарна-ўзнёслыя, як і той час, у якім жыў В. Маракоў. Але, безумоўна, найбольш прываблiваюць тыя, у якіх светлыя матывы, а некаторая туга — сведчанне таго настрою, які нярэдка напаткоўваў паэта і які ён перадаваў праз светаўспрыманне лірычнага героя.**

**Лірычныя вершы і выбраў для перакладу І. Сабіла, хораша перадаўшы не толькі дух арыгінала, а і спасцігнуўшы саму сутнасць паэзіі В. Маракова. Творы ў перакладзе гучаць гэтаксама непаўторна, як і ў арыгінале:**

*Над синим лесом, серым полем*
*Смеется радостно весна.*
*Такой порою над раздольем*
*Открою душу я до дна.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Пусть в нивах тихо льются слезы,*
*Но, пробудившись от зимы,*
*Уже кудрявятся березы,*
*И нет ни холода, ни тьмы.*

**Увайшла ў кнігу і "Моя поэма" — усхваляваны маналог паэта аб перажытым, згадкі аб юнацтве, каханні, што прыносіць не толькі радасць, а і расчараванне. А яшчэ ў паэме гучаць матывы абноўленай Беларусі: "Золотыми волнами // Зашумело озеро, // Край мой белорусский, // Мой любимый край, — // С молодыми песнями, // С молодыми грезами // Выходи-ка в поле, // Про весну играй". Можна не сумнявацца: калі б паэт шмат пражыў, ён парадаваў бы многімі значнымі творамі, бо ў В. Маракова быў яркі, самабытны талент. Невыпадкова Валерыя так любіў Янка Купала, які ўмеў заўважаць сапраўдныя творчыя дараванні. Але В. Маракоў і сёння з намі і гаворыць як жывы з жывымі. У прыватнасці, у гэтым вершы, які Л. Герасімёнак прыводзіць у прадмове:**

*Нынче все —*
*Этот хвойник и Свислочь —*
*Приглашают меня здесь пожить.*
*Сколько стройных березок нависло*
*Над водой, чтоб скорбеть и тужить!*
*И березы спросили печально:*
*— Ты не хочешь ли пить эту тишь?*
*Ты вернулся?*

**Вярнуўся. Цяпер і да рускамоўнага чытача.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

Казімір КАМЕЙШA



## Ліст

пушчанцаў найшаноўнейшаму доктару Скарыне, мужу многавучонаму, лекару памяці нашай!

*О, найшаноўнейшы пане Францішку!*
*Просім мы, просіць і пушча сама,*
*Нам бы спагады тваёй а хоць крышку,*
*Бо ад нікога яе так даўно ўжо няма.*

*Доктарка мілы, у нас вы адзін і адзіны,*
*Хто зразумецьме нас так,*
*як сябе разумеў.*
*Сціснулі край наш хваробы,*
*як тыя ільдзіны.*
*Ты ж іх лячыць, як ніводны:*
*умееш і ўмеў.*

*Страшна трасуць нас паўсюлека*
*глумныя стрэсы.*
*Глянь: пад сябе, да сябе толькі*
*кожны грабе.*
*Зёлку зрываеш: баішся —*
*яна ў цябе стрэліць.*
*Сябра знаходзіш: баішся —*
*ён стрэльне ў цябе.*

*Мала ў душы нашай Памяці.*
*Мала і Бога,*
*Так і не сыдземся гуртам усе*
*на святую імшу.*
*Ну а чаго ў нас, Францішку, замнога?*
*Болю замнога на кожную нашу душу.*

*Славу сваю ты і сам калісь*
*сцвердзіў у слове.*
*Дзе нашы вочы? Забылі*
*мы ўрокі твае.*
*Хіба што плачам на роднае*
*матчынай мове,*
*Калі ганьбуюць і крыўдзяць*
*шальмоўцы яе.*

*Вылечы нас ад маны, ад халуйства*
*і блуду,*
*Дай нам адвараў гаючых*
*з тваіх чараўнічых мядніц.*
*Гонар і веру вярні паспалітаму люду,*
*Памяць і зрок наш, як можаш,*
*нанова вярні!*

*Каб не трасло нас жыццё праз*
*гады ў ліхаманцы,*
*Каб абудзіліся рэкі і здзекі*
*шутою сплылі.*
*Пішуць табе прынямонскага*
*краю пушчанцы*
*Ад усяе шматпакутнае роднай зямлі!*

•

*Я — са снежня, з ветрам дзікаватым,*
*З шэранню марознаю яго.*
*З той апошняй навікоўскай хаты,*
*З лесу партызанскага таго.*

*Я — са снежня,*
*Я жыву чаканнем*
*Блізкага і доўгага цяпла.*
*І сябе я ў тых слядах шукаю,*
*Па якіх сама вайна ішла.*

*Недзе там з вясной мы разышліся,*
*За вярсту якуюсь ад бяды.*
*Недзе там — у памяць азірніся —*
*І сябе пабачыш маладым.*

*Тое, што здавалася бязмежным,*
*Рэчкаю імкліваю цякло.*
*Я жыву заложнікам у снежні,*
*Спадзяваннем толькі на цяпло.*

*Бачу: прытамілася завея,*
*Нават след успыхнуў ручая.*
*Толькі ў гэтым свеце не цяплее,*
*І са снежня добра бачу я.*

•

*Стагнаў і ветрам бег у полі,*
*Крычаў, хоць закрывалі рот:*
*— Камо градзешы, мая Доля,*
*Камо градзешы, мой Народ?*

*Твой шлях бядой пераараны,*
*Падбіты болем кожны крок.*
*І што нам там наканавана,*
*Куды гукае нас прарок?*

*Ірвецца зноў з грудзей пакутных*
*Малітва даўняя мая:*
*"Калі ты ёсць, Усемагутны,*
*Чаму такі нямоглы я?"*

## Далёкае

*Аж калоціць наваколле,*
*Зацякае потам твар.*
*Коле-коле, дровы коле*
*Той, апошні рускі цар.*

*Замахнецца новым махам*
*(Шчыраваць, брат, не дурэць),*
*А цяпла ўсё ж мала, мала,*
*Каб імперыю сагрэць.*

*Роем сыплюцца адшчэпкі.*
*"Тах ды тах" — да забыцця.*
*І які ён, позірк чэпкі —*
*Каб яшчэ хоць што адцяць!*

*Ну ды хопіць. Трэба меру*
*Ведаць на дрывотні хоць.*
*А ўжо вострыца сякера,*
*Каб дзяржаву расколоць.*

*Што ён мог, ці змажа трэці?*
*І ці прыйдзе ён калі?*
*А ўжо бачыш колькі трэшчын*
*На імперы камлі.*

*Колеш ты саму дзяржаву,*
*Коціш ты саму бяду.*
*Каб ты знаў, якім пажарам*
*Дровы тыя загудуць.*

*Задыміцца позірк сіні,*
*За сякерай бліснe меч.*
*Загудзе сама Расія,*
*Як разгневаная печ.*

*Загудуць і пойдуць гарам*
*І палацы і двары.*
*Ты і сам у тым пажары*
*Ноччу чорнаю згарыш.*

*...Ён шчымліва хмурыць бровы*
*І крыўдуе, як дзіця.*
*Коле цар апошні дровы —*
*Трэскі па вяках ляцяць.*

•

*Падганяю, варушу гнядую:*
*Там чужы чакае хутарок,*
*Дзе ў страсе і ластаўка гняздуе*
*І начуе нейкі там сцвалок.*

*Помню, хутарок той быў зацяты,*
*Нібы той напужаны звярок.*
*Абыходзіў лось яго сахаты,*
*Абыходзіў крок яго знарок.*

*Мне ніякі ў пушчы чорт не страшны,*
*Калі ў ёй жывое ёсць акно,*
*Калі дух ёсць у кубельцы смачны,*
*А да духу маецца віно.*

*Калі спіць сабака каля ганка,*
*І рыкае цёпла хлевушок,*
*І гуляе матузком вушанка,*
*І шапоча з ветрам кажушок.*

*Там і супыню сваю гнядую*
*І сагрэю за сталом душу.*
*І пару згадаю маладую,*
*Маладуху ў танцы закружу.*

*У двары тулянца будуць цені,*
*Падглядаць з падкрадкаю ў акно.*
*Як чаромха ў маладым цвіценні,*
*Будзе хмельна пышнавацца ноч.*

*Так душу аддам я развярэду,*
*Як душы захочацца самой.*
*І дамоў да ранку не паеду,*
*Рана мне яшчэ туды, дамоў.*

## Стометроўка

"На стометроўцы можна злавіць і прыгожую пташку..."

**З падслуханай размовы**

*Ну хто там надвечар заводзіць:*
*"Віць-віць",*
*Хто сцежку бунтуе наўмысна?*
*Сто метраў мне трэба,*
*Каб птушку злавіць,*
*Гняздзечкам прыгоршчаў зацiснуць.*

*У нас птушкаловаў спрадвек не было,*
*Не ведаў такой я навукі.*
*Навошта пушчанцу патрэбна сіло?!*
*Ляцяць самі птушкі мне ў рукі.*

*Бо я птушкалюб, дрэвалюб па крыві.*
*Што я паляўнічы — не верце.*
*Здзівіў мяне гэны, што птушку лавіў*
*На мінскім вячорным праспекце.*

*Ці крылы з надрэзам,*
*ці гнёздаў няма,*
*Адкуль гэта выраяў столькі?*
*Ці, можа, гукнула бядота сама*
*Пад зрэз рэстараннае стойкі?*

*Яны ля таго і ля гэтага — круць,*
*Гарацъ у кілішках, як знічкі.*
*І цемру п'янліва стрыгуць і стрыгуць*
*Бялюсенькіх ножак нажнічкі.*

*Іх сукні рагочуць, а вочы цвітуць,*
*Хоць кураць, але не ўзацяжку.*
*Ад плошчы сталічнай да цырка бягуць,*
*Вясне прыпяваючы, пташкі.*

*На самых шыкоўных пры бляску аўто*
*Вязуць іх у глум на вячэру.*
*Сто баксаў.*
*сто метраў,*
*і позіркаў сто —*
*Самотнага веку гетэрам.*

*Іх вабіць цяпло дарагіх катушкоў.*
*Будзь ласым, ды бойся ласункаў.*
*Цалуюцца крыжыкі двух ланцужкоў*
*Адным залатым пацалункам.*

*Гудзе стометроўка — царэўна начы...*
*"Віць-віць!" — мая мілая пташка.*
*Хутчэй распранайся,*
*Жарчэй трапячы —*
*Даўно адкаркована пляшка.*

*Ну вось яно, шчасце,*
*Бяры і нясі,*
*Падмігвай задзірыстым вокам.*
*...Сто метраў да шчасця?*
*Ды хопіць хлусіць,*
*Яно ж недзе гэтак далёка.*

## Згуба

*Не падумаў і не згледзеў,*
*Ажно вечар пераняў.*
*Заблудзіўся конь мой недзе —*
*Дрэнна пасвіў я каня.*

*А чаму яго не спутаў? —*
*Дакараю сам сябе.*
*Можа, дзесь забрыў на хутар*
*І авёс чужы скубе?*

*Можа, недзе, валацуга,*
*Ён і сам сабе не рад?*
*Можа, закілзаў у цуглі*
*Занямонскі канакрад?*

*Можа, дзесь перабірае*
*За ракой нагамі ноч?*
*Ці галоднай воўчай зграяй*
*Растрыбушаны даўно?*

*Думкі страшаць, думкі дойм'уць,*
*Хоць ты думкі адганяй.*
*Будзе мне ад бацькі дома! —*
*Дрэнна пасвіў я каня.*

*Поўнач.*
*Зоры сцежку мецяць,*
*Што ў гушчар'і не відна.*
*І гарыць бляшаны месяц,*
*Нібы спражка ў цыгана.*

*Конь мой сам дамоў прыблудзіць,*
*Ліха, жахі абміне.*
*А шукаць у пушчы будуць*
*Аж да раніцы мяне.*

ПРОЗА

Ала СЯМЁНАВА

# З ЦЫКЛА “GENIUS SAECULI”[1]



## ТЭРЦЫНЫ ТРАЎНЯ

Мужчыны за суседнім столікам спрачаліся. Пра ноўменальных і даноўменальных багоў, пра розныя тыпы актуальнай бясконцасці, пра Юліяна і Прокла... Пра інтэлектуальных багоў...

“Размова, годная вечнага горада”, — лянотна падумаў Станіслаў. Яму тая гаворка была нецікавая, аднак ён сядзеў адзін, самнасам, а ў яго суседзяў былі галасы спрактыкаваных лектараў, і іх ангельская ўрэзвалася ў свядомасць жорстка прамоўленымі тэрмінамі, класічнымі санантамі і палаталізаванымі, дыфтонгамі і манафтонгамі. Бездакорнай дыкцыі суразмоўцаў не перашкаджалі нават ракі ў белым віне, якіх яны паглыналі непаспешліва і са смакам.

Станіслаў уздыхнуў з палёгкай, калі гэтыя двое разлічыліся і зніклі. Агульны пошум на адкрытай тэрасе рэстарана стаўся найлепшым акампанементам ледзь не фізічнаму адчуванню асалоды ад мяккага рымскага надвячорка, ад спалучэння знакамітага колеру Рыма — трастэверыну, яго цёплых, жаўтавата-вохрыстых таноў, мігцення ліхтароў і лампіёнаў, і бруіста-прахалодных, блакітнаіскрыстых фарбаў фантанаў, іх — музыкі? спеваў? рэчытатываў?

Усе колеры, фарбы, паўтоны набывалі тут, на п’яцца ды Навона, асаблівы змест — з падтэкстам і падсветкай часоў; вялікапышнасці Сеічэнта[2], густога сяйва тысячагоддзяў, гаркавата-слодычнага мроіва сённяшняга дня. Імгненні перагукаліся са светам вечных каштоўнасцяў і ідавочнасцяў, што мелі адзнаку вечнага горада. Вось той сэрвіторэ[3] нібыта толькі што пазіраваў Караваджа, сіньёрына ў доўгай спадніцы крочыць не інакш, як хадою Адраджэння, а купка юнакоў у шортах выдае на ваяроў з цэнтурый Юлія Цэзара.

...Водар хараства закалыхваў, люляў, ствараў той час-пазачассе, калі кожная хвіліна — кантрапунктная ў мелодыі жыцця. Нібыта і не адбываецца ніякіх падзей, але ўсё насычаецца сэнсам, усё нагадвае пра Боскую сутнасць існага.

Лірычная ілюзія сапраўднага... Ці — адзіна сапраўднае?

Станіслаў з лёгкай пакорай пагойдваўся на хвалях чараў рэальнага і дамысленага, верагоднага і неверагоднага. Убіраючы ў сябе кожнай клетачкай, кожным нервам тугу і радасць улётных імгненняў, стоеных спакус, акрасы звабнага. На нейкую долю часу — ён, Станіслаў Строцкі, быў злітны, знітаваны са светабудовай, вольны і свабодны. На нейкую долю...

***Век расінкі,***
***Ён і ёсць век расінкі, не больш,***
***І ўсё ж, і ўсё ж...***

Усё ж — яму было хораша. Dolce far niente[4] — прыемны занятак. Нешта прыблізна такое круцілася ў галаве Станіслава. А Уайльдава — “нішто так не стамляе, як лайдацтва” — проста бліскавічны парадокс дэндзі. Хаця нельга ведаць тое, чаго не паспытаў. Пасля інстытута Станіслаў быў хранічна заняты, заўсёды нечаму падпарадкоўваўся. Жыццё ў сваёй маштабнасці рызыкі, мужнасці, велічы празарэнняў заставалася недзе побач. Ён бег да сваіх пацыентаў, згараў у турботах штодзённасці — аперацыйны стол, палаты, гісторыі хвароб... А яшчэ — ён мусіў падтрымліваць пэўныя камунікатыўныя сувязі і чамусьці заўсёды лічыў сябе некаму абавязаным, выручаў сяброў, знаёмых, незнаёмых, спяшаўся, ляцеў, імкнуўся...

...Цяпер Станіслаў Строцкі нікуды не спяшаўся... Віват сіньёру Лантуччы! І таму шчасліваму нешчасліваму выпадку, які кінуў сіньёра на аперацыйны стол Строцкага. Бо сіньёр быў удзячны. Добры. Багаты!

...На гэты момант у Станіслава Строцкага быў кантракт са шпіталем, дзе сіньёр Лантуччы меў у апякунскім савеце, падобна, немалую вагу, падмацаваную яго дыяканічнымі высілкамі. А пакуль у Станіслава былі два вольныя месяцы. У Італіі!

І гістарычны час для Станіслава нібыта раствараўся ў бясконцасці часу нічым не занятых сутак і ў тапаграфіі вечнага горада.

...Скончыўшы сваю вячэру і згадаўшы, як гэта хораша гучыць па-італьянску: “чэнарэ”, — Станіслаў пакіраваўся да каскада Берніні. Гэты фантан — нібыта парогі на рацэ... І што ўсё ж выводзяць гэтыя стругі? Можа, і не мелодыі... Прамаўляюць нешта... Значна... Настойліва... І лёгка... Тэрцыны? Тэрцэты?

Ці проста звычна рвуць сетку часоў? Ужо чацвёртае стагоддзе... Хаця — што гэтае quattro[5] для вечнага горада? Які зведаў усё — і росквіт, і поўны заняпад, і адраджэнне... І tempore neovo[6].

І вядомае, Гётава: «О Рым, ты цэлы свет!» І гераічнае, Гарыбальдзіева: “Roma or muerte!”[7] І гэтае, іранічнае: “The capital of the Middle East” — “Сталіца Сярдняга Усходу”, на чыста амерыканскі капыл. Мабыць, вызначыў гэта які хлопец з Аклахомы ці Кентукі. Дзе-небудзь напрыканцы 40-х гадоў XX стагоддзя. На хвалі перамогі войскаў *кааліцыі*, у засені *плана Маршала*, з *кішэнямі* паўнавартасных даляраў — і з пагардай да антычнага хараства і розных там Кватрачэнта, Чынквечэнта і іншага гістарычнага і мастацкага хлуду.

Для Станіслава ўсе Протарэнесансы, Рэнесансы, Рысарджымента неслі ў сабе асаблівы знак застылых ідзежаў мінулага, датычных не толькі вечнага горада: збежышчы-сонмы анёлаў Джотта, харалы Палестрыны, санаты Карэллі, старыя фаліянты кніг, роспісы і барэльефы Падуі, гукі арфаў і кіфар, чэлестаў і віёлаў... Расплывісты сэнс гармоніі і хаосу...

...Станіслаў паволі адыходзіў ад фантана каскадаў.

Ён, Станіслаў Строцкі, цяпер цалкам належаў гэтым імгненням. Нікога і нічога не згадваў. І не ведаў, ці хацелася б каго згадаць. Ведаў — чаму...

***Я не спеша собрал бесстрастно***
***Воспоминанья и дела...***

Менавіта — “бесстрастно”. Ніякіх жарсцяў. Суму. Жалю.

Сістэматызаваў. Вызначыў. Паклаў на паліцу памяці. Далёкую. Хай сабе ляжаць. Успаміны і справы. Здрады і страты. Радасці і турботы. Ён узяў тайм-аўт у лёсу.

Ён цяпер любіць тое, што не можа падманваць і што нельга страціць. Мінулае. Мінулае, увасобленае ў хараство мясцовых палацца і роспісаў, скульптур і помнікаў, карцін і маляўнічых руін, каланад-таямніц... У прыгажосці ўсяго, што ўваходзіла і будзе ўваходзіць у яго жыццё. Ён не бярэ пад увагу чалавечыя адносіны... Гэта — у мінулым...

Ён не збіраецца ні пакутаваць, ні енчыць, ні шкадаваць... Проста на гэтай старажытнай зямлі ён будзе выцягваць пасля аўтакатастроф, альпінісцкіх і іншых спартыўных няўдач сыноў і дачок чалавечых. Даводзіць індывідуумаў да нармальнага, дадзенага Богам і продкамі фізіялагічнага стану. Паводле клятвы Гіпакрата, свайго ўмельства, умоў кантракту. Не менш. Але і не больш. Усё ў межах прафесійных і дзелавых адносін. Ніякіх іншых кантактаў. Ніякіх лірычных сюжэтаў.

...Ён нікога не вінаваціць. Проста стаміўся ад бясконцага фальшу на розных узроўнях, ад высокіх слоў, за якімі ўсяго толькі мізэрны разлік ліхаманкавага кірмашу, дзе гандаль паводле вядомага: “Wszystko na spszedaz” — “Усё на продаж”.

Няма добрых адносін, ёсць толькі ўзаемныя інтарэсы? Цынікам быў гэты палітык ці проста ўмеў вызначыць сутнасць праяў?

...Болю няма. Гэта некалі былі раны, крыўды. “Душа не берaглася”. Цяпер ён набыў імунітэт, падобны на лакалёвую анестэзію. Проста — рэестр перамог, параз, страт, сатысфакцый, здрад. Спакойная інвентарызацыя перакрэсленых сяброўстваў, знаёмстваў, кантактаў.

...Калі вернецца на радзіму... Праз два гады... Тады будзе відаць.

А цяпер для душы — бажніцы і культуровая традыцыя, вопыт пачуцця — толькі ў хараcтве створанага *вялікімі*. Квінтэсенцыя духу, увасобленая ў мармуры, фарбах, срэбры, золаце, бронзе...

...Холад мармуру... У ім часам больш цяпла, чым у жывых істотах, з натуральнай крывёю розных груп, з мускуламі ці проста з масай мясатлушчу, з суставамі, пазванкамі, з усёй “гаспадаркай” касцей — прамянёвых, локцевых, бярцовых і г.д. і г.д., адным словам, з усімі анатамічнымі і фізіялагічнымі першаіснасцямі.

Мова жывапісу... Станіслаў уважліва глядзеў на выстаўленыя на продаж карціны... Невялікага памеру, найбольш партрэты, пейзажы, нацюрморты... Хаця... тут, на п’яцца ды Навона, мабыць, прадстаўлены ўсе існуючыя і існаваўшыя напрамкі жывапісу.... Жанры... Стылі...

Станіслаў углядваўся ў выстаўленае... Пейзаж у стылі позняга Клода Манэ... Партрэт дамы... Нешта ад майстроў Кватрачэнта або Чынквечэнта? Нешта ад Ларэнца Косты... Чысты, замкнёны твар, валасы, забраныя сеткай, глыбокі пурпуровы колер накідкі...

Адзінокая свечка ў замглёным інтэр’еры, вока ў махнатых вейках, тонкая рука ў пальчатцы... Якія фарбы, дакладнасць малюнка! І нябачная цень маэстра з Кадакеса...

Партрэт-медальён жанчыны... Сінія-сінія вочы, доўгія, русалчыны, нібыта сатканыя з ветру — лёгкія, закалыхваючыя — валасы. Нешта вельмі знаёмае... У твары... У стылі пісьма...

Галіна? І партрэт, падобна, Вітольдавага пэндзля... Так. Няма сумневу. Эскіз — алоўкам — Станіслаў некалі бачыў... Але адкуль тут?

– Quanto sconto? [8] — спытаў Станіслаў.

Кошт прыдатны. І памер партрэта невялікі. Станіслаў працягнуў грошы. Старанна падбіраючы італьянскія словы, спытаў, адкуль карціна. Мастак, падобна, зразумеў яго, аднак Станіслаў кепска разбіраў словы адказу. Перапытаў па-ангельску.

Нешта праяснялася. Партрэт належаў мастаку з далёкай краіны, тутэйшы майстар пазначыў: прыгожай. Бэллёрутэніі! Станіслаў не стаў яго папраўляць — чаму не? А той распавёў, што той мастак з далёкай і прыгожай краіны загінуў у Італіі, захлынуўся марской хваляй.

Станіслаў ведаў — гэта Нарутовіч. Пісалі ў газетах.

А мастак з п’яцца ды Навона патлумачыў, што сябры таго мастака забралі ўсе карціны, а гэты партрэт застаўся — рабіў нехта іншы. І чамусьці дадаў: а сіньёрына з партрэта жывая. Адкуль ведаў? Вёў размовы з Нарутовічам? Увогуле — кім была Галіна для Нарутовіча? Чаму гэты партрэт апынуўся ў яго? Яны з Вітольдам былі вельмі далёкія. Чаму, дарэчы, Нарутовіч не стварыў партрэт Галіны сам? А можа, ён недзе ёсць таксама, гэты партрэт...

Тутэйшы мастак спытаў:

– Are you want to see her?

– No, no[9], — цвёрда адказаў Станіслаў. І пакрочыў паўз Пантэон да віа дэль Корса.

Ці хацеў бы ён бачыць яе?

Галіна — чалавек з таго часу... З той духоўнай пprasторы...

І ён, Станіслаў Строцкі, гатовы перачытаць старонкі ўспамінаў... Перажыць наноў? Немагчыма. На жаль.

...Галіна — Асоба з майстэрні Вітольда... З той, што была паблізу ад бажніц, ракі, паркаў, Опернага тэатра...

Станіслаў — тады ўсе клікалі яго Стасам — студэнт-медык, бегае па клініках, анатамічках, бібліятэках, адпрацоўвае практычныя... Было так... І жыццё было поўнае яшчэ не пражытых гадоў, не пражытых імгненняў. Нягледзячы на ўсе практыкумы. Стас больш тэарэтычна ўяўляў карысць і высакароднасць сваёй будучай прафесіі. Аднак выбіраў яе свядома. Усім патрэбная і пры ўсіх рэжымах. Патомная прафесія Строцкіх. Незалежная ад знешніх абставін.

Сумны і навязлівы афіцыёз проста ніяк не датычыў Стаса. Ён, як госць, заходзіў на сходы, адбываў сваё на дэманстрацыях, аднак заклікі партыйных аракулаў, здранцвелапафасная таўталогія іх пастулатаў, жаўнерная мітурга пастаноў, абвяшчэнне генеральных і негенеральных ліній выпадалі з эмпірыкі жыцця Стаса, з магічнага поля яго свядомасці. Як і пазней. Пазней ён быў у палоне высокіх ідэй, але расчараваўся ў тых, хто абвяшчаў сябе іх носьбітам...

А ў тыя далёкія гады ў свеце для яго было яшчэ столькі цікавага! І зманліва-таямнічага! Ён чытаў узахліп, дома і ў бібліятэках, прагна і бессістэмна. Усё па той самай гісторыі, якую называюць агульнай, кнігі па гісторыі архітэктуры, мастацтва, літаратуры, навуковыя манаграфіі і белетрызаваныя біяграфіі, кнігі філосафаў і паэтаў, класічную прозу і бестселеры, мемуары і перыёдыку, што трапляла на вочы і пад руку.

Стас жыў у множнасці часавых рытмаў, у складаных суадносінах свайго “я” з непамыснай колькасцю іншых. Вёў, нібыта і наяве, размовы і спрэчкі з Леві-Стросам і Гегелем, Шэлінгам і Камю, Юнгам і Гарадзі... Вызнаваў сябе ў медытацыях з Рыльке і Гарсіа Лоркам, Томасам Манам і Сартрам, Тэйярам дэ Шардэнам і Элюарам...

У магічным полі жыцця Стаса заўсёды прысутнічала музыка. І рок, і Моцарт — ён любіў іх аднолькава. Музыка прыцягвала і вабіла яго. Як прыцягвалі і вабілі жанчыны. Жывыя. На карцінах і рэпрадукцыях. Яго веданне анатоміі і фізіялогіі ніяк не ўплывала на крыху рамантызаванае ўяўленне пра жанчын. Магчыма, таму, што хараство іх ён упершыню для сябе адкрыў на выявах старых майстроў і на карцінах абраннікаў сучасных, але знаёмых з чарам крыніц Іпакрэны і Кастальскіх водаў. Ён шукаў у аднакурсніцах жанчын Тыцыяна і Батычэлі, а танцоркі Дэга часам здаваліся яму больш рэальнымі, чым пасажыркі тралейбусаў, з якімі ён шчыміўся кожнай раніцы ў блакітны вагон. На вакацыі Стас выпраўляўся не інакш, як з мальбертам і са спадзяваннем сустрэць..., ну, напрыклад, падвойнік дыстынктоўнай Одры Хэпбёрн.

Усё гэта надавала агульнаму фону жыцця Стаса адценне будзённай святочнасці, а самому факту быцця — асалодны прысмак. У рэальным сваім існаванні, у вопыце дзён. Свет складаўся для Стаса з сонца, вясёлак, усмешак, шчаслівых выпадкаў, запланаваных і нечаканых сустрэч! Усё было наперадзе. І наперадзе былі, безумоўна, толькі перамогі, шчырыя сяброўствы, вялікае (не інакш) каханне, “палёты ў сне і наяве”. Усё мела асобую акрасу ад розыгрышаў, амаль заўсёды добрага настрою, ад шчаслівага смеху — проста так, ні з чаго... І абавязковы “лёгкий трёп” меў прысмак маладзёжных фестываляў, КВЗ, зорнага пылу, тралейбусных знаёмстваў, паэтычнага шаленства, мізантрапічнай іроніі Джойса, магічнай абаяльнасці Булгакава (Міхаіла, зразумела), кусліва-гжэчных досціпаў з джэнтльменскага набору аксёнаўска-гладзілінскіх хлопчыкаў. Усё было зорна, узорна і “пенкна”!

А майстэрня Вітольда была тым месцам, дзе нібыта рэальна, арэчаўлена ўзнікалі прывідныя ідзежы ўяўленняў Стаса.

Найперш — як тады здавалася Стасу, да Вітольда прыходзілі людзі, на якіх быў адбітак асноўнага чалавечага вопыту, дзе, незалежна ад роду заняткаў, першаасновай быў sacre feu — святы агонь. Знакамітых у майстэрні Стас не сустракаў. І гэта толькі пацвярджала прыналежнасць гасцей да таго асяроддзя, дзе самадастатковасць і самавызначанасць асобы былі стрыжнем індывідуума, не залежнага ад знешніх абставін, ад мітусні будзёншчыны, ад шэрані звычаёвага.

Стас на тую пару спрабаваў прасочваць усе лабірынты творчых біяграфій славутасцяў, але ці не найбольшай ісцінай лічыў вызнанне Вівекананды — самыя вялікія геніяльныя робяць сваё жыццё незаўважным, не імкнуцца нечага дабіцца, таму што ведаюць сапраўдны кошт думкі. Праўда, наконт адной Асобы, што была не проста гістарычнай постаццю, Стас быў рашуча і суцэльна не згодны. Ну, але Той быў Адзіны. У Вітольда збіраліся многія. Можа, і не выбраныя, але — пазначаныя, вызначаныя...

Да Вітольда тым часам прыходзілі любым днём, любой парою. Пазней Станіслаў думаў — мабыць, перашкаджалі яму працаваць... Але гэтая стыхійнасць надавала зборням у Вітольда асаблівую акрасу. Не напаўсвецкія прыёмы ў вызначаны аўторак ці чацвер, а нязмушаныя сустрэчы...

Станіслава, як, мабыць, і іншых, прыцягваў сам Вітольд. Нічога ад багемнай знарочыстасці, затое нешта ідарыснае ад формулы яго, Вітольдавага, лёсу, прасвечанага мярэсцівам з авангардных высілкаў пэндзлем, традыцыйнай высакароднасці і рэнесанснага інтэлектуалізму.

Аскеза добраахвотнай нішчымніцы, адстароненасць ад афіцыёзу, пакутніцтва самавыяўлення, роздум... Нешта ад Мадыльяні і Ван Гога, але без чыста багемных схільнасцяў аднаго і вар’яцтва другога... Гэта меціла ў вачах Станіслава мастака асаблівым знакам — ці не бліз каго з тых, хто прыносіў ахвяру за ўзышоўшага на Галгофу. Для Стаса гэта праглядвала і ў карцінах Вітольда таго часу...

*(Заканчэнне на стар. 14 — 15)*

## Успамінаючы акцёра

**У Доме-музеі Якуба Коласа адбылася вечарына з нагоды 100-гадовага юбілею Паула Малчанава, таленавітага акцёра, педагога, знаўцы чалавечай душы і проста цудоўнага чалавека. Словы ўдзячнасці вядомаму артысту выказалі народныя артысты Генадзь Гарбук і Марыя Захарэвіч, заслужаная артыстка Зінаіда Зубкова і малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч.**

**Павел Малчанаў, акцёр трагедыйнага плана, здолеў стварыць на сцэне непаўторныя вобразы.**

**Таццяна БАРТАШЭВІЧ, навучэнка МДПК № 1**

## Акцёр жыццёвай праўды

**Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння народнага артыста БССР і СССР Паула Малчанава. Менавіта да гэтай падзеі прымеркавана выстаўка "Акцёр жыццёвай праўды", якая адкрылася ў гасцёўні У. Галубка.**

**Усё сваё жыццё П. Малчанаў прысвяціў тэатру. Пасля заканчэння ў 1926 г. Беларускай драматычнай студыі ў Маскве ён працаваў у тэатры імя Я. Коласа, на кінастудыі "Савецкая Беларусь", а з 1952 г. — у беларускім тэатры імя Я. Купалы. Акцёрскі дыяпазон П. Малчанава вельмі шырокі, ён дасканала валодаў майстэрствам пераўвасаблення, непераўзыдзена раскрываў унутраны свет сваіх герояў. П. Малчанаў па-майстэрску выконваў трагічныя (Гамлет У. Шэкспіра), драматычныя (Косця-капітан у "Арыстакратах" М. Пагодзіна), камедыйныя і сатырычныя ролі (Кутас у "Прымаках" Я. Купалы). Павел Сцяпанавіч быў першым выканаўцам ролі Леніна ў беларускім тэатры, а ў той час гэта лічылася смелым крокам, бо любая недакладнасць у трактоўцы вобраза магла адмоўна паўплываць на далейшы творчы лёс акцёра.**

**Выстаўка, прысвечаная юбілею выдатнага майстра беларускай сцэны створана супрацоўнікамі Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ сумесна з Дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва. На ёй прадстаўлены афішы, фотаздымкі і іншыя матэрыялы, якія раскрываюць гэтага чалавека як акцёра і грамадскага дзеяча.**

**На адкрыцці выстаўкі выступілі дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры РБ З. Кучар, народная артыстка Беларусі З. Браварская, дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Г. Запартыка, кандыдат мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік музея А. Лабовіч.**

**Л. КАМАРОЎСКАЯ**

## Віно дажджоў...

**Дваццаць першага сакавіка, дзень вясновага раўнадзенства, а перад усім — міжнародны дзень паэзіі супаў з вечарынай, прысвечанай памяці Уладзіміра Караткевіча пад назвам "Віно дажджоў". Імпрэза адбылася ледзь не пад самым боскім крылом — у касцёле святых Сымона і Алены.**

**Аматараў творчасці Караткевіча аказалася нашмат больш, чым магла умясціць невялікая ўтульная зала тэатра "Зніч". Таму многія слухалі стоячы. І не пашкадавалі, бо ў гэты вечар любага сына беларускай зямлі шанавалі Рыгор Барадулін, Пятро Драчоў, Галіна Шаблінская, Алесь Камоцкі.**

**Радыёжурналістка Галіна Шаблінская распавяла пра сумесную працу з роднай сястрой пісьменніка Наталляй Сямёнаўнай над перадачай, прысвечанай ягонай памяці.**

**Падзяліўся сваімі ўспамінамі і блізкі сябра Уладзіміра Сямёнавіча Пятро Драчоў, чалавек, які знаходзіўся ля пісьменніка ў апошнія дні яго жыцця. Акрамя таго, ён афармляў кнігі Караткевіча, сярод якіх "Белавежская пушча", "Зямля пад белымі крыламі" і іншыя.**

**Асабліва мілагучна вершы класіка прагучалі з вуснаў вядомага барда — Алеся Камоцкага. Ён выканаў некалькі песень, з якіх калісьці пачынаў сваю творчую дзейнасць.**

**Апагеем вечарыны стала выступленне народнага паэта Беларусі — Рыгора Барадуліна. Ён выклікаў сапраўдны фурор сваімі дасціпнымі і цікавымі гісторыямі з жыцця "апостала беларускай нацыі" і вельмі трапна заўважыў: "Караткаваты мы для Караткевіча... які і сёння жывей за ўсіх жывых..."**

**Ян АКУЛІН**

# Алесь ДРАНЕЦ: "Бачу перспектыву для творчасці"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

— У конкурсе бралі ўдзел больш як дваццаць калектываў. На першым туры было вызначана, што помнік мусіць стаяць на пляцоўцы перад будынкам Акадэміі навук. Потым у ліпені 1990 года ўжо разглядаўся варыянт пабудовы помніка ў Верхнім горадзе. Але грамадская думка гэтага варыянта не прыняла, і журы конкурсу ў красавіку 1991 года зацвердзіла пачатковую ідэю: помнік трэба ставіць перад Акадэміяй навук. Тады ж быў вызначаны і пластычны вобраз Скарыны. Скульптура павінна стаяць на цэнтральнай восі будынка. Каб пераканацца ў правільнасці гэтага рашэння, мы сумесна з архітэктарамі зрабілі макет (сілуэт) скульптуры ў натуральны памер (6 метраў) і ставілі яго на месцы будучага помніка.

У кастрычніку 1995 года дапрацаваная рабочая мадэль была прынята Мастацкім экспертным саветам па манументальным мастацтве пры Міністэрстве культуры. Пачалася праца над скульптурай у натуральны памер.

Паколькі эканоміка нашай краіны перажывае не лепшыя часы, я адчуваў, што справа з фінансаваннем можа зацягнуцца на неакрэслены тэрмін. Таму мадэль помніка ў натуральную велічыню рабіў у пластыліне. Гэта дазволіла захаваць драўляны і металічны каркас ад разбурэння. Усяго на фігуру ў пяць з паловаю метраў спатрэбілася больш як тры тоны пластыліну. Я не буду спыняцца на тым, як вырашаліся праблемы фінансавання. Гэта асобная гаворка, ды і чытачу яна не надта цікавая.

**— Я гляджу, арганізацыйнай працы ў гэтай справе было не меней, чым працы творчай?**

— У дадзеным выпадку цяжка аддзяліць адно ад другога, таму што арганізоўваць творчы і рабочы працэс даводзілася паралельна. Працуючы над манументальным аб'ектам, я зразумеў, што творчасць і вытворчасць у дадзеным выпадку ідуць побач. Самай галоўнай цяжкасцю, з якой я сутыкнуўся, быў недахоп вопыту, а самым галоўным маім саюзнікам быў час. Бязмерна ўдзячны лёсу за тое, што мне магчымасць не толькі ўсвядоміць памылкі ў працэсе працы, але і паспяваў іх выправіць. А яшчэ я прыхільнік той думкі, што кожны твор манументальнага мастацтва — гэта не толькі вынік працы аднаго канкрэтнага мастака, але разумовай і фізічнай працы многіх людзей.

**— Мы спыніліся на 1995 годзе. Потым збояў у працы не было? Далей усё ішло згодна плану?**

— Рашэнне адных праблем звычайна спараджае з'яўленне іншых. Толькі ў 1998 годзе прынята мадэль помніка ў натуральны памер і Мастацкі савет даў дазвол на адліўку яго ў бронзе. Аднachасова аўтарскі калектыў сумесна з Міністэрствам культуры, гарадскімі ўладамі і архітэктарамі вялі перамовы з Акадэміяй навук Беларусі наконт месца размяшчэння помніка. З боку кіраўніцтва акадэміі выказвалася занепакоенасць тым, што помнік перад каланадай парушыць цэласны архітэктурны вобраз, створаны класікам нашага дойлідства Лангбардам.

**— Што на гэта можна адказаць?**

— Я паважаю думку апанентаў. Ніхто не валодае ісцінаю ў апошняй інстанцыі. Кансерватызм увогуле мае ахоўную функцыю. Таму я разумею людзей, якія хочуць захаваць свой асяродак (у дадзеным выпадку будынак Акадэміі навук і прылеглую да яе тэрыторыю) у звыклым для іх стане. Але, нагадаю, у свой час далёка не ўсім прыйшлася даспадобы рэканструкцыя плошчы Перамогі, калі змяніліся яе абрысы, калі перад абеліскам з'явілася вялікая прастора з новымі архітэктурна-пластычнымі элементамі. Адзначым, што ў выніку рэканструкцыі плошча набыла манументальнасць, параднасць, якіх раней не было. Цяпер яна больш адпавядае сталічнаму статусу Мінска, маштабу галоўнага праспекта горада.

Плошча перад акадэміяй таксама вымагае рэканструкцыі, і наш помнік плануецца як стрыжнявы элемент арганізацыі прасторы. Помнік мусіць лагічна дапоўніць манументальную каланаду акадэміі. Тым болей, што гэта цалкам адпавядае задуме Лангбарда. Мы рэалізуем ідэю архітэктара, закладзеную яшчэ пры праектаванні будынка Акадэміі навук. Зразумела, што ідэю Лангбарда мы спрабуем рэалізаваць з улікам сённяшняй горадабудаўнічай сітуацыі.

**— Удакладніце, калі ласка.**

— Нягледзячы на канструктывізм у сваёй аснове, усе праекты Лангбарда прадугледжвалі дэкаратыўную аздобу і скульптурную пластыку. Так было і з акадэміяй. Паміж падвоенымі калонамі галоўнага фасада ён прапаноўваў паставіць фігуры выдатных навукоўцаў. А "галоўная", арганізуючая прастора, скульптура планавалася на тым месцы, дзе Мастацкім саветам рэкамендавана размясціць помнік Скарыне. Каланада, на думку Лангбарда, — ідэальны фон для скульптуры. Ён не ўяўляў манументальнай архітэктуры без манументальнай скульптуры. Такім чынам, мы з архітэктарамі гармоніі не парушаем. Мы, дазволю сабе гэта сцвярджаць, яе ствараем. Таму і спадзяёмся на паразуменне з кіраўніцтвам акадэміі. Тым болей, што ў нас была такая дамоўленасць: вярнуцца да разгляду гэтага пытання пасля таго, як помнік будзе адліты.

**— Наколькі мне вядома, сама скульптура ў бронзе ўжо адліта. І гэта значыць, што вам як аўтару працэй весці гаворку пра канкрэтныя тэрміны ўстаноўкі помніка?**

— Так, сапраўды, скульптура адліта, прынята Мастацкім экспертным саветам і зараз захоўваецца на Мінскім скульптурным камбінаце. Хацеў бы падзякаваць калектыву ліцейнага прадпрыемства "ЮНОМА", дзе быў адліты помнік, за прафесійна зробленую работу. Таксама словы ўдзячнасці кіраўніцтву і работнікам Скульптурнага камбіната, маім сябрам — скульптарам, мастакам, архітэктарам. Безумоўна, дзякуй Міністэрству культуры і ўладам горада за паразуменне і дапамогу.

**— Вялікі спіс атрымліваецца. Шмат у вас памагатых...**

— Яшчэ трэба згадаць Міністэрства замежных спраў. Супрацоўнікі гэтай установы таксама прычыніліся да ўшанавання памяці Першадрукара. Я ўпэўнены, што калі б не наш тагачасны амбасадар у Празе Мікалай Вайцянкоў, дык і з'яўленне ў сталіцы Чэхіі помніка і мемарыяльнай шыльды было б пад вялікім пытаннем. Ды і Пётр Краўчанка шмат зрабіў для гэтай справы.

У бліжэйшы час мусіць адбыцца сустрэча ўсіх, так бы мовіць, зацікаўленых асоб па пытанні архітэктурнай прывязкі помніка. Я спадзяюся, што рашэнне будзе знойдзена і прынята ў вышэйшых інстанцыях.

**— Спадар Алесь, праца над помнікам**

ПРЭМЕРЫ

# О, легкадумны Фрэдзі!

У гэтым сезоне Мінскі тэатр драмы "Дзе-Я?" прапануе лёгкую паліцэйскую камедыю па п'есе французскага драматурга Рабера Тама "Фрэдзі". Спектакль паставіла галоўны рэжысёр тэатра Ірэна Мацкевіч, работы якой вылучаюцца добрай эксцэнтрыкай і вытанчанай маляўнічай эстэтыкай. У лёгкай, нібыта жартаўлівай манеры пастаўлены і "Фрэдзі". Але праз знешнюю павярхоўнасць п'есы, смешныя пакуты і легкадумныя інтрыгі "несур'ёзных" герояў (блазнаў правінцыйнага цырка) міжволі прасочваюцца досыць "сур'ёзныя" высновы. Знаходзяць прыдатную глебу вечныя тэмы: тэма дачыненняў існага мастацтва і празаічных грошай, тэма бацькоў і дзяцей, адвечнай адзіноты чалавека...

Сюжэт даволі просты: збяднелы цырк шукае спонсараў, але за патрэбныя грошы галоўны клоун Фрэдзі (І. Мікалаеў) павінен ахвяраваць сваёй годнасцю і "пакахаць" агідную мадам-мецэнатку. Канешне, герой не "кахае", а нават сварыцца з "залатым мяшком", і мадам знаходзяць забітай. Між іншым Фрэдзі цудоўна выкручваецца: ратуе цырк, выстаўляючыся ўяўным забойцам. Здавалася б, на што лезці ў лапы правасуддзя невінаватаму? Але на такі подзвіг клоуна штурхае гультаяваты інспектар Палю (А. Федаровіч), якому не хочацца марнаваць час на пошукі сапраўднага забойцы. Тым больш, што арышт Фрэдзі на арэне, пад асляпляльныя ўспышкі журналісцкіх фотабліцаў, забяспечыць цырку неабходную рэкламу. Справядлівы суд, канешне, апраўдае цыркача, і больш таго, маладая дзяўчына Ева — пляменніца мадам — чамусьці зафундуе ўяўнаму забойцу кругленькую суму са спадчыны сваёй любімай цётухны...

Здавалася б, чым прывабіла артыстаў "Дзе-Я?" інтрыжка блазнаў? Што падштурхнула тэатр на некалькі гадзін ператварыцца ў арэну цырка, пад вясёлыя, зухаватыя гукі аркестра выпусціць сапраўдных клоунаў з размаляванымі тварамі, у смешным стракатым адзенні неверагодных фасонаў, з кавадламі ў руках і барабанам на шыі?.. Мажліва, таму, што гэтыя камічныя касцюмы, наўмысна выстаўленыя напаказ эмоцыі, сяброўская валтузня на арэне — усё гэта робіцца толькі для гледачоў. Проста таму, каб гледачы бяздумна ўсміхаліся, каб не забыліся, як смяяцца? Не толькі. Сумныя пачуцці выклікае гаворка Фрэдзі з сынам Нікаля. Нікаля цудоўна грае А. Старчанка, які арганічна ўвайшоў у вобраз нясмелага худога студэнта. У неверагодна шырокіх штанах лімоннага колеру, з камічнымі доўгімі лямкамі-падцяжкамі на тонкіх плячах, у "інтэлігенцкіх" акулярах — усёй сваёй няўпэўненай і сутулай постаццю акцёр выклікае толькі жаль і фамільярна-паблажлівыя адносіны. Але калі наш "забіты студэнцік" адкрывае рот, мы чуем ужо сфарміраваную асобу, якая добра ведае, чаго яна хоча (а хоча Нікаля ўпэўненасці ў заўтрашнім дні на пастаянны заробак юрыста) і нават скурай адчувае, якімі спосабамі можна дамагчыся дабрабыту. На першы погляд Нікаля цынічна адвяргае безграшовае мастацтва бацькі-клоуна. Аднак, мо і не цынізм гэта, а проста чалавечае жаданне вырашыць свой лёс, мець спакойную сытую будучыню?..

Вобраз "мацёрага" клоуна Фрэдзі пражывае на імправізаванай арэне І. Мікалаеў, якому ўдалося выявіць усю складаную палітру душэўных памкненняў і пакутаў артыста. Наш Фрэдзі ў тыповым клоунскім "абмундзіраванні": клятчастым камбінезоне, бліскучых чаравічках, што надаюць аблічч цыркача нешта казачнае і нерэальнае, дэманструючы яго адаранасць ад зямных клопатаў. Праўда, з аднаго боку. Бо пільны позірк учэпістых і нават калючых вачэй выкрывае нямалы і няпросты жыццёвы багаж вечнага клоуна. У спектаклі відавочная інфантыльнасць герояў, іх "здзяцінеласць" арганічна мяжуе з залішняй халоднай практычнасцю. У жыцці няма абсалютнай чысціні колеру — гэта скажа любы мастак — як не бывае і чыстых рэалістаў і летуценнікаў... Прырода ўсё гарманічна ўраўнаважвае, і артысты тэатра "Дзе—Я?" дэманстратыўна звяртаюцца да розных тыпаў людзей. А чаму б і не?

Несумненна, асаблівай увагі заслугоўваюць жаночыя вобразы спектакля. Рамантычная летуценніца-акрабатка Лу-лу (В. Завацкая), і яе антыпод, модніца Ева (Н. Капітонава). Лу-лу — дзяўчынка з вялікімі вачамі, што поўняцца здзіўленнем, з лялечным круглым ілбом, з каштанавымі кучаравыміваласамі, у кароценькай бліскучай сукенцы "а-ля Мальвіна". Яна, на жаль, не дамагаецца ўзаемнага пачуцця ад Нікаля. Мабыць, таму, што ўся яе нервовая істота, кволая і няўстойлівая, нібыта трымціць на лёгкім ветрыку, калі з выбачальнай усмешкай на лялечным тварыку яна выконвае складаныя нумары

**Першадрукару, мабыць, забірае не ўвесь ваш творчы час? Над чым працавалі, акрамя гэтага помніка?**

— Працаваць доўгі час над адным аб'ектам складана. Іншы раз проста неабходна, каб новая тэма змяніла твой эмацыянальны настрой. Гэта ў сваю чаргу дазваляе па-новаму глядзець на тое, што зроблена раней. Вобраз Скарыны ўвесь гэты час быў для мяне своеасаблівым эстэтычным камертонам, з якім я звяраў усё астатняе.

Акрамя помніка, зроблены памятныя шыльды з выявай Першадрукара для Прагі і Мінска (пра іх я ўжо згадваў). Браў удзел у конкурсе на помнік Кірылу Тураўскаму. Выканаў скульптурнае ўкрыжаванне для царквы ў вёсцы Харомек.

Таксама хачу ўзгадаць помнік князю Давыду для Давыд-Гарадка, зроблены і ўстаноўлены да 900-гадовага юбілею горада. Над ім я працаваў разам з творчай майстэрняй архітэктара Леаніда Левіна і Інстытутам горадабудаўніцтва, а адліты ён на ліцейным прадпрыемстве "ЮНОМА". Помнік князю Давыду асабліва дарагі мне тым, што ўстаноўлены на маёй радзіме, на Палессі. У працы бралі актыўны ўдзел мае земляні, паэты, пісьменнікі, мастакі.

**— Як вы ўвогуле ацэньваеце культурную сітуацыю ў нашай краіне?**

— Я бачу перспектыву для творчасці менавіта ў гэтай краіне, менавіта на гэтай зямлі. Проста параўнаем: колькі помнікаў дзеячам нашай гісторыі і культуры паўстала за ўвесь час існавання БССР і колькі за гады Незалежнасці. Хачу адзначыць, што за апошні час беларускімі скульптарамі і архітэктарамі пастаўлены помнікі Соф'і Слуцкай, Кірылу Тураўскаму, Пятру Мсціслаўцу, Міхалу Клеафасу Агінскаму, князю Давыду. Адліты і чакаюць устаноўкі помнікі Францыску Скарыне і Валенцію Ваньковічу. Спадзяюся, што ў хуткім часе ўбачым адліты ў бронзе помнік Адаму Міцкевічу для нашай сталіцы.

Не так даўно ў Мінску быў пастаўлены помнік ахвярам Халакоста на так званай "яме". Яшчэ некалькі помнікаў у памяць апошняй вайны ўжо ўстаноўлены альбо знаходзяцца ў рабоце. Плённа развіваецца запатрабаваны жанр паркавай скульптуры.

Радуе і тое, што ўсе названыя аб'екты зроблены ў граніце і бронзе, а такі падыход дзяржавы да вырашэння падобных пытанняў заўжды будзе з удзячнасцю ўспрымацца грамадствам.

Скульптары, як і раней, робяць значны ўнёсак у развіццё беларускай культуры. Цяпер мы больш востра ўсведамляем і асэнсоўваем свой гістарычны шлях. Таму, на маю думку, у мастакоў і сёння і заўтра шмат працы.

**Гутарыў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымках: скульптар Алесь ДРАНЕЦ і яговыя творы — помнік князю Давыду і мадэль помніка Францыску Скарыне.*

МУЗЫКА

# Каб свет заззяў вясёлкай

Сярод музыкантаў ёсць Праметэі і Арфеі, г.зн. бунтары духу, надзеленыя энергіяй пераўтвараць жыццё, і песняры прыгажосці, тыя, чыё прызванне — лекаваць душу. Да першых я аднёс бы Бетховена, Вагнера, Мусаргскага, Стравінскага, да другіх — Моцарта, Шуберта, Гуно, Чайкоўскага, Пракоф'ева. Вядома, ёсць і такія мастакі, якія займаюць сярэдняе становішча паміж імі.

Навошта сістэматызацыя тых альбо іншых з'яў, у дадзеным выпадку ў музычнай сферы? Каб лепш разумець сутнасць творчай асобы, ці то выканаўца, ці то кампазітар, з чыім мастацтвам знаёміцца публіка.

Пра маладога беларускага скрыпача, лаўрэата пяці міжнародных конкурсаў Арцёма Шышкова знята нямала тэлевізійных сюжэтаў, напісаны дзесяткі артыкулаў. Ды я і сам некалькі гадоў таму рэцэнзаваў адну з яго гастрольных паездак па Беларусі. Тады хлопчыку было ўсяго 12 гадоў.

Сёння яму 17, таму хочацца яшчэ раз звярнуцца да такога рэдкага таленту і ацаніць яго творчы рост. Так бы мовіць, зрабіць пробу каштоўнага металу.

Зусім нядаўна Арцём Шышкоў гастраляваў у Гродне і Лідзе. Радуе, што ён, для каго не дзіва — канцэртаваць за мяжой, не забывае і родныя пенаты, не цураецца выступаць у аддаленых кутках краіны.

У зале Гродзенскай абласной філармоніі прагучала разнастайная праграма: папулярныя класічныя творы дапаўняла музыка, што вымагала глыбокай думкі, напісаныя спецыяльна скрыпічныя рэчы суседнічалі з пералажэннямі і апрацоўкамі для скрыпкі.

Цяпер паспрабуем ахарактарызаваць манеру ігры "беларускага Паганіні", як вобразна велічалі Арцёма некаторыя польскія журалісты.

Гук ягонай скрыпкі надзвычай прыгожы, ён радуе сэрца. Здаецца, быццам наша душа птушкай узносіцца ў паднябессе. Часам, заплюшчыўшы вочы, бачыш, як бруіцца вясенні раўчук, у празрыстай вадзе якога слізгацець серабрыстая стронга. Трэба шчыра любіць прыроду і ўмець раствярацца ў ёй, каб гэтак яўна маляваць гукамі акварэльна-зыбкія блікі струменістай вады! Няцяжка зразумець, што прыгажосць, якой Арцём шчодра адорвае слухачоў, абапіраецца на прыродныя вобразы, а яго лірычныя адкрыцці народжаныя радаснай блізкасцю да прыроды. Не баючыся папрокаў у перабольшанні, магу сцвярджаць: унутраны духоўны свет Арцёма Шышкова складаецца з роздуму натурфілосафа, пачуццяў паэта-лірыка і майстэрства натхнёнага спевака.

Эмоцыі скрыпача ўражваюць мноствам адценняў. Гэта адухоўленая, крыху журботная ціхамірнасць (2-я частка Канцэрта Рэ мажор для скрыпкі з аркестрам Брамса), гэта жалобная, элегічная патэтыка ("Венгерскі танец" № 1 таго ж аўтара), гэта глыбокі, засяроджаны роздум (Саната для скрыпкі сола № 6 Ізаі). Потым я пачуў зусім не слёзны меладраматызм, а сапраўды трагедыйную трактоўку "Імправізацыі" Блоха. Пяшчотна і трапятліва гучаў "Славянскі танец" № 2 Дворжака, салодкая настальгія па шчаслівым мінулым адгадвалася ў "Старой Вене" Гадоўскага-Хейфеца. Успаміны пра бязвоблачнае дзяцінства, пададзеныя скрозь прызму іроніі, гратэска і нават сарказма, выразна праступалі ў чатырох прэлюдыях Шастаковіча ў пералажэнні Цыганова.

Іншымі словамі, ігру Арцёма Шышкова нельга вызначыць інакш, як праз цэлы каскад эпітэтаў: прыгожа, сардэчна, высакародна, вытанчана, ярка, вобразна, захоплена і, што самае важнае, — проста! Ці не гэтымі якасцямі валодалі выдатныя скрыпачы XX стагоддзя Давід Ойстрах, Леанід Коган, Ягудзі Мянухін? Арцём, не баючыся папроку ў перайманні, трымаецца традыцый вялікага мастацтва, дорыць людзям неўміручую Прыгажосць, адкрывае перад слухачамі сваю светлую і чыстую душу, вяртае нас да цнатлівай прыроды.

Адна жанчына, якая ніколі раней не мела стасункаў з сур'ёзнай музыкай у жывым выкананні, сказала мне пасля канцэрта: "Я адпачыла". Яна, відаць не закончыла фразу: адпачыла ад сумятні быцця, дакрануўшыся да цудоўнага.

Малады мінскі скрыпач-віртуоз сваёй ігрой вызваляе нас ад путаў цывілізацыі, адсякае непатрэбныя трывогі, што перашкаджаюць нашаму спакойнаму і шчаслівому жыццю. Арцём правільна зразумеў спевака Арфея: трэба ачысціць душу ад брыдоты і пошласці, каб свет афарбаваўся ўсімі барвамі вясёлкі. Мы смяротныя, затое мастацтва вечнае.

Будзем спадзявацца, што гэта не беспадстаўныя словы, што ідэя Прыгажосці зробіцца эстэтычнай і маральнай асновай далейшай музычнай кар'еры Арцёма Шышкова.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**

**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**



*На здымку: Арцём ШЫШКОЎ са сваім педагогам Эдуардам КУЧЫНСКІМ падчас замежнага турнэ.*

*Фота з архіва "ЛіМа".*

на дроце, не стасуецца з прагматычным і "сур'ёзным" светаразуменнем будучага юрыста. Юнаку даспадобы шыкоўная бландзінка Ева ў спакуслівым міні. Замест жыццярадаснай лоўлі матылёў Нікаля выбірае вірлівы, дыскатэчны стыль жыцця...

"Фрэдзі" — спектакль дынамічны (пластыка В. Іназемцава). Гукавая палітра пастаноўкі поўніцца дзіцячым чаканнем цуду чагосьці таямнічага, што абавязкова павінна адбыцца... І тая неабходная сцэнічная буфанада, якую густоўна дэманструе сцэнаграфія Я. Волкава, стварае атмасферу жыццярадаснасці, што пануе толькі ў цырку. А неверагодныя касцюмы Т. Лісавенка настройваюць на камічнае ўспрыманне герояў.

Тэатр "Дзе — Я?" вядомы сваім уменнем жартаваць з гледачом. Кожны сезон на маленькай сцэне, абапал якой, як на жэрдках, групуецца моладзь, адбываецца неверагоднае відовішча, жывая шчырая гаворка з гледачом сам-насам (гэта дазваляе асаблівая канструкцыя тэатральнай залы). Менавіта на эфекце фізічнай блізкасці заснаваны працэс актыўнага эмацыйнага стасунку, сутворчасці гледачоў і акцёраў. Відавочны перастаюць здавацца далёкімі, іх вобразы лёгка ўспрымаюцца маладым гледачом. Падчас "Фрэдзі" ўдзельнікі дзеі ўладарна ўтрымліваюць увагу гледачоў. Глядацкія цікавасць распаляецца і нечаканымі жартамі, і выразнай пантамімай. Раптоўнае з'яўленне хобата слана і лістапад газетных старонак, дзёрзкае прызямленне на глядацкія галовы папяровага матыля, — зацягваюць усіх у жартаўлівую гульню закулісных цыркачоў. Не трэба баяцца быць смешным, трэба баяцца страціць пачуццё гумару. Аб гэтым і перасцерагаюць нас вясёлыя героі спектакля...

**Кацярына РУСАЛЬСКАЯ**

КАНЦЭРТЫ

# Незнаёмка-музыка

Большасць знаных кампазітараў жыве ў сталіцы. Прэм'еры іх твораў праходзяць на прэстыжных філарманічных падмостках. Праўда, грамадскасць хутка забывае пра чарговы "шэдэўр" якога-небудзь з "жывых класікаў" — да чарговай прэм'еры. Зноў — апладысменты, пасля чаго — працяглае маўчанне і пустата.

Ёсць і тыя, хто сціпла складае музыку для сябе і для блізкіх сяброў. Часам столькі шчырасці ў іх простых песнях і п'есах! Калі кампазітар стварыў хаця б адзін-адзіны матыў, які "западае ў душу", можна смела сказаць: ён жыў недарэмна, ён зрабіў для людзей, можа, больш, чым той "мэтр" або "маэстра", які пасецца каля міністэрскай "кармушкі".

Такія вось думкі адольвалі мяне пасля аўтарскага вечара гродзенскага кампазітара Барыса Фадзіна. Лёгкае раздражненне з прычыны таго, што Фадзіна мала хто ведае, растварылася ў цёплых успамінах пра яго музыку. Захацелася разабрацца ва ўбачаным і пачутым.

Гэты чалавек ад прыроды надзелены тонкім паэтычным густам. Ён дае прыгожыя назвы сваім творам, у іх адгадваецца рамантычная настроенасць на цудоўнае. Фадзін усімі фібрамі душы адчувае прыроду эстрадна-джазавага мастацтва. Яго джаз прыемны на слых, ці не кожная нота афарбаваная настальгіяй па шчаслівым мінулым, ад чаго адчуваеш светлую журбу. У п'есах кампазітара стрыманы рытм, у гармоніях адсутнічаюць неапраўданыя дысанансы, мелодыі кранаюць сэрца. Яны, па сутнасці, з'яўляюцца не чым іншым, як пяшчотнай, крохкай лірыкай. Дадайце да гэтага яшчэ дзве якасці музыкі Барыса Фадзіна — высакароднасць і прыхаваны гумар — і вы атрымаеце поўнае ўяўленне пра яго творчы метад.

Цяжка апісаць усю праграму канцэрта.

З інструментальнай яе часткі, на мой погляд, вылучаліся такія п'есы, як "Пах прыбою", "Знаёмства з Венецыяй", "Танга з Наталляй", "Жаніцьба блюза з арыяй", "Рэгтайм № 18". Сярод іншых жанравых п'ес — "Раманс", "Гавот", "Аберэж з-пад Гародні". Дзівосная разнастайнасць рытмаў, інтанацый і стыляў!

З песень мяне ўсхвалявала "Муза" з яе крыху меланхалічным напевам, трапяткая "Незнаёмка ў даміно". Пэўна, лепшае, што я пачуў у Барыса Фадзіна, гэта лірычная споведзь "Як ніколі..." Не пабаюся сказаць, сапраўдны шэдэўр! Песня кранала шчырасцю пачуццяў. Уяўленне малявала такую карціну: сярод бурнай стыхіі, раскатаў грому і бляску маланак стаіць чалавек з флейтай у руках. Мелодыя яго інструмента практычна не чутная, але яна за межамі хмараў і змроку, у нябесных сферах, гучыць ва унісон з залатымі званочкамі зорак. Ці не тое ж адбываецца з намі ў грукаце сучаснай цывілізацыі? Я ўдзячны аўтару, чый твор здатны выклікаць такі складаны комплекс эмоцый.

"Прыватны вальс" сімпатычны немудрагелістай танцавальнасцю, "Hallo, Andreas!" — нямецкім каларытам. Гэтую песню Фадзін прысвяціў сябру, які жыве цяпер у Германіі.

Дзве апошнія песні выканала Маша Шапавал, якая валодае прыемным сапрана. Астатнія — сам кампазітар. Ён жа выступаў і ў якасці інструменталіста: граў на баяне, акустычнай гітары, духавым гармоніку. Зайздросная шматгранасць таленту!

У канцэрце ўдзельнічаў інструментальны ансамбль у складзе Анатоля Сматрыцкага (скрыпка), Аляксея Шчэрбы (флейта), Аляксандра Габеца (кантрабас), Аляксандра Тагановіча (перкусія), Віктара Грышука (электрагітара). Усе яны, даўнія прыяцелі і аднадумцы Барыса, зрабілі выдатную справу — пазнаёмілі публіку з музыкай кампазітара, які здолеў зберагчы ў жыццёвай калатнечы сваю асаблівую, зусім непаўторную індывідуальнасць.

І апошняе. Аўтарскі вечар Барыса Фадзіна адбудзецца ў дзень яго 50-гадовага юбілею, на парозе сталасці і новых творчых здзяйсненняў.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ**

**15 снежня, 2001 г.**

Выехалі ў 16.45 цягнікам "Мінск—С. Пецярбург". Да таго часу, пакуль цягнік не крануўся, неяк не верылася, што мы ўсё ж выбраліся — складанне і падпісванне папер (прасілі грошы на білеты ў Міністэрства культуры, але ў гэтым годзе ў міністэрства няма грошай, магчыма, будуць у наступным, таму білеты куплялі за свой кошт), уладкоўванне тэрміновых мінскіх спраў, афармленне адпачынку сабе і хлопцам. Наша мінская каманда складаецца з трох чалавек — я (Павел Вайніцкі) — "капітан" (марскія назвы, напэўна, таму, што Мурманск — партовы горад), і два студэнты 4 курса кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Павел Лявонаў і Андрэй Бакуменка. Намаганнямі рэферэнта Саюза мастакоў па рабоце з моладдзю Ірыны Кузняцовай, мы едзем у Мурманск для мясцовыя каманды паглядалі скоса, калі нас прадстаўлялі ("...нашы госці — каманда Мінскай акадэміі мастацтваў"), у зале зашапталіся "...прафесіяналы..." Затое мы сябруем з камандай з Карэліі (Вова, Света, Маша, кубік (падстаўка) № 10. На адкрыцці дзялілі пазіцыі, у нас № 7 — добры нумар, наш кубік, амаль пасярэдзіне. Цяпер каля куба тырчыць шыльдачка, на якой намаляваны беларускі сцяг і напісана "Мінск".

Выдалі інструмент і спецадзенне: валёнкі, цёплыя касцюмы, пілы, бензапілу, сякеры, вёдры, кельмы і г. д., утрох ледзь данеслі.

Нейкая тут нездаровая канкурэнцыя — дзіўна, грашовых жа прызоў няма. Мы вырашылі сёння тактычна расслабіцца, паглядзець, што робяць калегі.

Удзень нічога не рабілі — глядзелі (астатнія каманды працавалі, замарожвалі

Спалі 10 гадзін, учора ў 17.30 пагрузіліся ў цягнік на Мінск. Што было, запішу пазней. Нам далі Галоўны прыз за лепшую лёдавую скульптуру, цяпер ён стаіць на стале, гэта гадзіннік, устаўлены ў кампазіцыю з камянёў, прыгожы.

А цяпер мы ўбачылі сонца, вельмі яркія белыя елкі. Снег і сонца — гэта занадта светла, занадта ярка — у Мурманску ўсё ж была ноч...

**24 снежня**

(пра тое, што здарылася ў апошнія два дні)

Нам удалося захаваць інтрыгу да самага канца, ніхто так і не зразумеў, што мы збіраемся рабіць. Работа набыла канчатковы выгляд паміж шасцю і сямю раніцы 22 снежня — была выразана фігура атлета і прыклееныя фотаапарат, які звязаў усю кампазіцыю. Смешна атрымалася — мы рабілі маладога, інтэлігентнага фатографа, ірэальная — яна не аб'ёмная, а выразана зваротным рэльефам у празрыстай ледзяной пліце (прыём, задуманы намі яшчэ ў Мінску). У подыуме ўбудаваны з двух бакоў дзве лесвічкі — адна вядзе да фатографа, другая за шырму-дэкарацыю.

Работа прадвызначае ўзаемадзеянне з гледачом — кожны можа зайсці па лесвіцы, прасунуць галаву ў адтуліну і сфатаграфавацца на памяць. Разбураецца мяжа паміж "скульптурай на падстаўцы" і "гледачом, які наглядае збоку". Губляецца сур'ёзнасць, што добра для такога несур'ёзнага матэрыялу, як лёд. Кепска, што пры такім цесным кантакце скульптуру могуць разбурыць, але каля яе будуць дзяжурыць міліцыянеры. Добра, што прасоўваючы галаву ў круглую дзірку ў шырме, чалавек тыцкаецца тварам у халодны лёд. Ён непасрэдна дакранаецца да матэрыялу і разумее, напэўна, як нялёгка і халодна з ім працаваць.

Мы прапаноўваем прымерыць на сябе імідж асілка, пераможцы і, магчыма, зразумець, што гэты вобраз — фікцыя, сімулякр, ён ледзяны — растане. Гэта вобраз увогуле і не існуе — ён праяўляецца калі запоўнены чалавечай фігурай.

Лёд як матэрыял вельмі парадаваў, я не думаў, што рэзаць яго можа быць гэтак прыемна. Вельмі цікавыя светлавыя эфекты, пераламленне святла на гранях, шкада, што лёд такі недаўгавечны.

Другая мінская каманда зрабіла паэстэцку эфектную работу — на лёдавых дрэвах стаяць празрыстыя анёлы — яны вельмі прыгожыя на фоне глыбокага сіняга неба ("Райскі сад", куб. № 1). Мясцовыя каманды здзівілі тэхнікай (работы "Сон" і "Сірэны", №№ 4 і 6). Асабліва эфектна лёд выглядае пры выкарыстанні падсветкі...

І вось мы ўязджаем у звычайны мінскі вечар — захад сонца — малінавае неба, парваны лініяй тыпавых дамоў далягляд, трубы і дым... Цяпер з ноччу ўсё будзе звыкла. Але толькі цяпер робіцца камфортна і спакойна. Хочацца верыць, што гэта ад блізкасці да дома, а не ад звычкі да цемнаты...

**P. S.** ...А цяпер дзякуем цудоўным мурманчанам, якія нас апекавалі, Таццяне Міхайлаўне Рыжковай, Галіне Георгіеўне Кругляшовай, Любові Андрэеўне Кузняцовай і мінчанам Ірыне Іванаўне Кузняцовай і дэкану мастацкага факультэта нашай акадэміі Раману Ігаравічу Кароткіну.

У нас былі цудоўныя тыднёвыя канікулы, адпачынак ад мінскай сумятні (толькі пад'язджаючы да Мінска, я ўспомніў, што дзесьці працую).

Аказваецца, існуе адладжаная сістэма зімовых пленэраў па лёдавай і снежнай скульптуры. Яны даўно і рэгулярна праводзяцца ў Японіі, Канадзе, Фінляндыі, Кітаі, Расіі і г. д., пры жаданні і наяўнасці грошай (дарагавата — 5000 даляраў) можна паўдзельнічаць у такім мерапрыемстве нават на Паўночным полюсе. Нас запрасілі на фестываль у будучым годзе і проста ў госці летам у Карэлію. Напэўна, мы паедзем.

# Падарожжа ў ноч

## ДЗЁННІК УДЗЕЛЬНІКА 2-ГА МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ЛЁДАВАЙ СКУЛЬПТУРЫ «СНЕЖНАЯ ФАНТАЗІЯ" Ў МУРМАНСКУ

ўдзелу ў фестывалі лёдавай скульптуры з перасадкай у Піцеры.

**16 снежня**

10.25. З намі едзе яшчэ адна каманда з Мінска для ўдзелу ў фестывалі — праз два вагоны, поўнае купэ.

Цяпер раніца, пачынаецца апошні светлы дзень на бліжэйшы тыдзень...

**17 снежня**

(раніца-вечар)

Сонца з'явілася толькі каля дванаццаці — стаіць у зеніце, свеціць чырванаватым святлом. Бліжэй да гадзіны дня сонца вісіць усё там жа, над елкамі, але заўважна пажаўцела. У купэ цёмна, але ў ваконцы рэзкае аранжаватае святло. Мы едзем ад сонца. Яно свеціць у хвост нашаму цягніку. Лаўхі будуць у 13.38, потым Чупа і Палярны круг. Дзень, здаецца, ужо перайшоў у вечар, так і не паспеўшы пачацца. За акном замерзлыя азёры і рэчкі і гранітныя заснежаныя глыбы. Чырвоное сонца прыляпілася да чэзлых елак. Суседка кажа нам, што гэта Карэлія — тут азёры і балоты, а вось пасля Палярнага круга пачнуцца сопкі і вялікія дрэвы.

**17 снежня**

(ноч, цяпер увесь тыдзень будзе ноч)

Станцыі: Афрыканда, Аленягорск, нарэшце Апатыт-1. Едзем праз цемнату. Выключаем святло ў купэ, і робіцца бачным панылы пейзаж за вакном — тыя ж нізкарослыя елкі, падобныя на кіпарысы, вялікія азёры з чорнымі прагалінамі.

Перад самым Мурманскам пачаліся сопкі — цягнік ехаў паміж сцен са снегу і камянёў. А наперадзе — агні, порт, партовыя краны, сілуэты і агні караблёў. Самае чорнае ў пейзажы — вада.

Ужо засяляліся ў гасцініцу ("Арктыка", 8 паверх, №№ 813, 826) і раптам успомнілі, што забыліся забраць у праваднікa білеты. На джыпе беларускага консула вельмі хутка еду на вакзал — цягнік яшчэ стаіць. Барабаню ў акно, патрабую ў соннай праваадніцы білеты, і яна, незадаволена, пачынае выграбаць іх з печкі (!) — яна, аказваецца, абавязана спальваць іх пасля прыезду, выцягвае спачатку адзін (білеты імянныя, гэты падпісаны "Ліонов"), потым другі (мой) і доўга намацвае трэці. Білеты цэлыя...

Агледзелі лёд. Нам думалася, што будзе цэлая глыба, а ён нарэзаны вялікімі цаглінамі, 60х40х20 см. Пад скульптуру падрыхтаваны падстаўкі з утрамбаванага снегу 3х3 метры і вышынёй больш за метр. Усяго ўздоўж вуліцы (вул. Вароўскага) адзінаццаць такіх подыумаў, неблагое асвятленне, магутныя ліхтары. На вуліцы мяцеліца і моцны вецер, здаецца, што вельмі халодна. Светлага дня больш не будзе.

**18 снежня**

Палярная ноч — гэта проста міф. Світае — цяпер 11 — неба сіняе, воблакі шэрафіялетавыя, зусім як у Мінску гадзін у 6. Адно што сонца няма. Можна разгледзець заліў і порт, і горы.

Адбылося адкрыццё фестывалю, усе нібыта такія мілыя, усміхаліся, але ў снег падмурак для будучых лёдавых шэдэўраў). Увесь вечар спрачаліся, якой павінна быць будучая скульптура. Я прапанаваў хлопцам рэальны поп-арт. Было цяжка — спрачаліся, крычалі гадзіны тры. Работа будзе цікавая — хоць і шмат у ёй выпадковага, затое яна прадвызначае самую непасрэдную гульню з гледачом. Потым пілі гарэлку з Карэліяй, у іх быў цудоўны карэльскі бальзам. Калі яго наліць крыху ў гарэлку, то пах алкаголю знікае, а застаецца водар траў і елак...

**19 снежня**

Увесь дзень працавалі. Рукавіцы пакрыліся лёдам. Стома, лепім у нумары эскіз, дакладней, хлопцы лепяць, я пішу. Ездзілі на гару "да Алёшы" (гэта помнік салдату вышынёй 37 метраў), насупраць, на тым баку заліва ў Севераморску такі ж вялізны помнік гераічнаму матросу (як завуць матроса, мурманчане не ведаюць). З гары маглі б пабачыць прыгожы від Мурманска. Але ідзе снег, нічога не разгледзець, белая заслона. Нашы ядавітачырвоныя камбінезоны ірэальна свецяцца сярод белага і шэрага ў палярных прыцемках — на спіне напісана "Мурманск" бліскучымі літарамі. (Дарэчы, пра касцюмы — аказваецца, іх тут носяць у асноўным дворнікі, і таму смешна — "глядзіце, дворнікі лепяць статуі!") Не ведаю, ці атрымаюцца фотаздымкі — пальцы прымярзаюць да фотаапарата, ён, падобна, тармозіць. Вельмі шмат снегу — яго хутка чысцяць трактары. Ветру няма, дрэвы распухлі белым.

У нас падазрона мала зроблена, мы на пытанні, што гэта ў нас будзе, адказваем, што будзе прыгожа. Павінна быць нейкая інтрыга, нас радуе, што "канкурэнты" прыкметна непакояцца.

**21 снежня**

Сёння давядзецца ноччу працаваць, а мы ехалі сюды "адпачываць"...

У кішэнях звіняць жмені льдзінак і замерзлыя насоўкі...

Пальчаткі грэем фенам — трэба адтайваць ледзяную корку, каб пальцы рухаліся...

**23 снежня**

які хутаецца ў світэр, а атрымаўся мужык з барадой. Мы зразумелі, што гэта барада, калі капітан каманды горада Лавозера, які прахoдзіў міма, кінуў, яўна пагардліва: "А, цяпер зразумела, што ў вас — вы яшчэ зайцоў па краях пасадзіце". Тут мы ўбачылі, што сапраўды атрымалася барада, і давай яе зразаць, але пакольки мы спрабавалі сыграць на розніцы ў празрыстасці лёду (верхні кавалак быў празрысты, а ніжні — матавы), то атрымалася модная такая няголенасць.

Былі праблемы з празрыстасцю лёду — ад мароза ён стаў матавым. А ў прафесіяналаў з Мурманска (капітан Павел Карагін, чэмпіён Расіі па лёдавых скульптурах, кубік № 4, прыз глядацкіх сімпатый, прыз мэра) статуя была бездакорна празрыстая. Выявілася, што іх скульптура проста рэзана вельмі добра заточаным інструментам. А нам здавалася, што яна пакрыта нейкім хітрым саставам, і мы спрабавалі мазаць свой аб'ект крэмам для губ, бензінам і шампунем, каб лёд стаў празрыстым (ён не стаў).

Наша работа мае рабочую назву — "фотаатэльe". Пачну з фатографа, ён задумаўся. Зусім крыху большы за натуральны памер і амаль рэалістычна зроблены (наколькі гэта магчыма з лёду), ён сядзіць на краі нашай пляцоўкі, звесіўшы ногі. Ён побач з гледачом, яго можна пакратаць. Побач стаіць фотаапарат на штатыве. Асобная тэма — выкананне Андрэем аб'ектыва, гэта, без перабольшання, шэдэўр, бо зроблена сапраўдная лінза! Усе грані фотаапарата і аб'ектыва вельмі роўныя і гранёныя. Камера накіравана на дэкарацыю, якая выяўляе атлета, у ёй выразана адтуліна для твару чалавека, кожны можа ўзняцца на наш снежны подыум і сфатаграфавацца ў выглядзе культурыста. На дэкарацыі надпіс, як на старых паштоўках: "Прывітанне з Мурманска!" — так называецца наша кампазіцыя. Фігура атлета





Павел ВАЙНІЦКІ

## На Баранавічы сышло натхненне

**За апошнія пяць гадоў у Баранавічах выдадзены два нумары літаратурнага альманаха і шэраг вершаваных зборнікаў мясцовых аўтараў — Аляксея Белага, Івана Лагвіновіча, Валерыя Ігнаценкі, Алеся Корнева, Венанцы Бутрыма...**

**Літаратурны ўзлёт адбыўся дзякуючы створанай летам 1996 года па ініцыятыве Алеся Бакача грамадскай арганізацыі "Творчае згуртаванне "Святліца". У адзіны гурт тут сабраліся людзі розных узростаў і прафесій: Аляксей Белы — журналіст, Венанцы Бутрым — мастак, Якаў Шутовіч — настаўнік, Алена Чаплінская — студэнтка...**

**Галоўнай мэтай дзейнасці "Святліцы" з'яўляецца дапамога людзям мастацтва, культурна-асветніцкая праца ды прапаганда беларушчыны ў шырокіх колах грамадства.**

**А зусім нядаўна пабачыла свет другая кніжка вершаў Івана Лагвіновіча "Ціліпаўка". Тэхнічную дапамогу ў яе выданні аказала яшчэ адно грамадскае аб'яднанне — "Агенцтва рэгіянальнага развіцця "Варута", а фінансавую — Баранавіцкі мяса-кансервавы камбінат. Як і ўсе папярэднія кніжкі, "Святліца" падарыла і гэты зборнік паэта кожнай навучальнай установе і бібліятэцы свайго горада.**

**У недалёкім будучым "Святліца" марыць пра выданне каталога твораў баранавіцкіх мастакоў, стварэнне відэафільмаў пра творчых людзей і адкрыццё свайго сайта ў Інтэрнэце.**

**Кірыл КРЫВАШЭЯ,**
*г.Баранавічы.*

## Першы беларуска-польскі фразеалагічны...

**У Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка на факультэце беларускай філалогіі і культуры адбылася прэзентацыя "Беларуска-польскага фразеалагічнага слоўніка". Гэтае выданне — плён шматгадовай працы двух выдатных навукоўцаў: А. Аксамітава, навуковага супрацоўніка інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, і М. Чурак, супрацоўніцы Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук. У прэзентацыі бралі ўдзел Першы сакратар Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі Пётр Гарнцарэк, супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства НАН РБ Я. Рамановіч, А. Чабярук, І Яшкін, Ф. Клімчук, І. Лучыц-Федарэц, І. Кур'ян, выкладчыкі кафедраў беларускага мовазнаўства, тэорыі і гісторыі культуры педуніверсітэта, работнікі Польскага інстытута ў Мінску, студэнты.**

**На сустрэчы не раз адзначалася, што "Беларуска-польскі фразеалагічны слоўнік" А. Аксамітава і М. Чурак — гэта унікальная і незвычайная з'ява. Улічваючы сучасны стан распрацаванасці беларускай фразеалогіі, а таксама колькасць выдадзеных у нашай краіне фразеалагічных слоўнікаў, дадзенае выданне не мае сабе роўных. Больш за тое, гэта першая спроба супастаўлення фразеалогіі беларускай і польскай моў.**

**Слоўнік змяшчае каля 6500 фразеалагічных адзінак беларускай мовы.**

**Кніга адрасуецца перакладчыкам, вучням і настаўнікам, студэнтам і выкладчыкам вышэйшых навучальных устаноў, навуковым супрацоўнікам, якія займаюцца праблемамі славянскай параўнальнай фразеалогіі, і ўсім тым, хто цікавіцца беларускай мовай у супастаўленні з польскай.**

**І хоць слоўнік і быў выдадзены невялікім тыражом у Варшаве ў 2000 годзе (таму наўрад ці яго можна будзе набыць у беларускіх кнігарнях), а прэзентацыя ў Беларусі адбылася толькі зараз, думаецца, што гэтае выданне вартае таго, каб стаць аб'ектам увагі беларускай і польскай грамадскасці.**

**Вадзім ШКЛЯРЫК,**
**студэнт БДПУ імя М. Танка**

## "Беларускі гістарычны часопіс", №1

**Адкрываецца нумар раздзелам "ІІ з'езд настаўнікаў", у якім змешчаны выступленні Прэзідэнта РБ А. Лукашэнкі і даклад міністра адукацыі П. Брыгадзіна на чарговым форуме настаўнікаў краіны. Друкуюцца артыкулы В. Цемушава "Мажайская зямля ў складзе Маскоўскага княства: яе тэрыторыя і межы", У. Тугая "Латышскія хутары ў Беларусі", І. Ганчарука "Палітыка царызму ў адносінах да каталіцкай царквы (1772—1830 гг.)". На пытанні галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера адказвае доктар мастацтвазнаўства, прафесар В. Шматаў ("Музей, які пакуль што адзіны ў Рэспубліцы Беларусь"). Ю. Несцяровіч і Я. Янушкевіч цёплым словам згадваюць Р. Платонава ("Вучоны пакінуў нас у росквіце творчых задум"). У раздзеле "Генеалогія" — заканчэнне артыкула В. Чаропкі "Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх". Багатыя на матэрыялы і раздзелы "Методыка. Вопыт", "Рэцэнзіі", "Навукова-грамадскае жыццё". С. Барыс і В. Кушнер падрыхтавалі летапіс "З падзей 2001 года".**

# З ЦЫКЛА "GENIUS SAECULI"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Манументаліст паводле адукацыі, Вітольд рабіў у нейкай арганізацыі, што часам давала яму заказы, аднак у асноўным ён вёў жыццё вольнага мастака, займаўся жывапісам, чытаў, думаў...

Прыходзячы ў майстэрню, Станіслаў часам заспяваў Вітольда на самоце, часам у яго былі людзі, здаралася — майстэрня была *паўнюткая: знаёмыя, незнаёмыя...*

Станіслаў завітваў у майстэрню кожным зручным і нязручным выпадкам. У "фортачцы" паміж лекцыямі, бегучы з клінікі, збіраючыся ў тэатр ці ў госці. Урэшце — проста так, дзеля душы.

...Пазнаёміўся Станіслаў з Вітольдам у бібліятэцы, і гэта паклала адбітак на стыль іх адносін. Як гэта там у вялікага француза? "Маёй калыскаю была бібліятэка, пыл, вавілон тамоў, пергамент, і цішыня..." Мабыць, было яшчэ нешта, што аб'ядноўвала іх з Вітольдам, вызначала ўзаемную цікавасць і што цяжка пазначыць словамі, *паняццямі, асацыяцыямі...*

Нездарма быў і нейкі капрыз Провіду ў тым, як нечакана, выпадкова і невыпадкова ўзнікаў Вітольд на яго, Станіслава, шляху. Асабіста, напамінам ускосным, канкрэтным. Як гэты партрэт. Як нядаўняя, перад ад'ездам, "сустрэча" з Вітольдам у мастацкім салоне, у родным горадзе. Станіслаў зайшоў звычна — пагледзець. З усяго, што там было выстаўлена, вызначыў для сябе адну карціну. Ці то сцежка, ці то рамантычная зарослая алея ў парку. Зеленавата-жоўтыя колеры, паўтоны. Дыстынктоўная рама, вохрыста-карычневая, з залацістым абадком па краі. *Прозвішча аўтара не было. Толькі цана.* Як і на ўсіх астатніх карцінах. "Дзіўна", — падумаў Станіслаў і спытаў: "А хто аўтар?" — "Лістовіч", — пачуў ён адказ.

Лістовіч... Вітольд... Недзе на ўскрайку свядомасці, эмацыянальнай і інтэлектуальнай памяці Станіслава ён заўсёды існаваў. Як уздзейнічалі, прысутнічалі — тыя, хто тады, у майстэрні Вітольда, трапіў на арбіту яго, Станіслававага, існавання.

І яны існавалі, прысутнічалі ў сваёй асабістай аўтаноміі.

... Паэтэсы... Тая, у якой голас зрываўся ад хвалявання, а лісток з толькі што *напісаным вершам дрыжэў у руцэ*... І другая — як пра яе пісалі, дачка Палесся. Вочы-азёры... І яшчэ — высокая, тоненькая, нешта ў яе было ад Жорж Санд. Таксама чытала вершы:

***Няўжо і я вось так прыходжу***
***у вашы бэзавыя сны,***
***як промнік даўняе вясны...***

Актрысы... Актрысы... Пасля спектакля... У вэлюме толькі што сыгранай ролі... Асабліва ён памятаў адну: бездакорны абрыс руxаў і жэстаў, нібыта яна яшчэ ў пеплуме і хітоне, са знакамітым карымбас — валасамі, зацягнутымі ў грэцкі вузел. Увасабленне існы і гульні, вяшчункі і вакханкі адначасова... Падобная на хлопчыка журналістка, уся — як страла ў палёце, феерверкі фактаў, вадаспад слоў...

Яны ўсе здаваліся Станіславу ўвасабленнем прыгажосці, нібыта сышлі з тых вяў, паводле якіх ён уяўляў сабе жанчын. Станіслаў сыпаў жартамі, а ў душы нямеў, здранцвела стойваўся, баяўся змоўкнуць. Паўза... Чым яе запоўніць?

Запоўніць паўзы было каму. А былі выпадкі, калі прысутнасць Станіслава ў майстэрні была суцэльнай паўзай, маналогам маўчання, ён сядзеў цэлы вечар моўчкі, слухаў, глядзеў, убіраў у сябе кожны жэст, кожны гук, кожны погляд, кожны позірк... Літаратары, акторы, рэжысёры, каскадзёры, журналісты, кандыдаты розных навук і эмэнэсы[10], інтэлектуалы, што займаліся самаадукацыяй па вядомых і невядомых сістэмах. На ўсіх нібыта была адзнака, пячатка: пошукаў у свеце вечных каштоўнасцяў.

Не супольнасць, а зборня індывідуумаў, адзінства множнасцяў. Лаўцы нечаканасцяў у гульні жыцця. Плынь падзей, подых рэчаіснасці — яны саступалі тут свету вобразаў, таемны уладзе: нават не характва, а густаў.., фарбам будучых драм і трагедый, лірычным ілюзіям з філасофскім падтэкстам. Усе знаходзіліся ў магічным полі конадняў, вечнай трагедыі і вечнага чакання.

І, можа, галоўнае — яшчэ кожны, нават прымерваючы самую неверагодную маску, заставаўся сам сабой.

Не ведаючы таго, усе існавалі ў імгненнях, хвілінах, гадзінах, што пазней сталіся для кожнага аазісамі ў "пустэльні Быцця"...

...Стас тады ледзь не кінуў інстытут і не выправіўся заваёўваць свет... вядомымі шляхамі рамантыкаў, паэтаў і мастакоў... Аднак у Парыж, як высветлілася, нават турыстам на які тыдзень трапіць было няпроста, а ў роднай Айчыне і хіленькая мансарда выдзялялася мастакам Саюзам мастакоў і выканкамам. Прагу рамантыкі можна было спатоліць, выкіроўваючыся "за туманом" і ў напрамку, зусім процілеглым старажытнай Лютэцыі Парызіорум[11], гэты шлях мала вабіў Станіслава. І ён скончыў інстытут, а суровая практыка дала магчымасць адчуць неабходнасць яго прафесіі.

Але гэта было пазней. А тады ў майстэрні Вітольда Станіслаў глядзеў, слухаў, трызніў наяве. Лічыў усіх людзей добрымі і шчырымі, свет — справядлівым, жанчын — бездакорнымі.

...Галіну ён упершыню ўбачыў на трамвайным прыпынку. Тым разам Станіслаў выпадкова сустрэўся з Вітольдам. Амаль адначасова падышла яна. І ледзь не адразу скокнула на прыступку вагона з расчыненымі дзвярыма — тады былі такія. "Кажуць, вы выйшлі замуж?" — наўздагон кінуў пытанне Вітольд. "Кажуць", — адказала яна, і трамвай панёс яе ад іх.

Тады ж Вітольд распавёў пра яе Стасу: балерына, прыма, лаўрэат міжнароднага конкурсу. Паводле ўяўленняў Стаса, багіня.

...За якія правіны багі выцягнулі Галіну з Алімпа — ці Парнаса? — Станіслаў не ведаў. Галіна трапіла ў аўтакатастрофу. Засталася жывая, здаровая. Нават фуэтэ і закрутныя антраша пасля траўмаў рабіла. Як многія. Але не як Галіна Веснавая. І яна кінула балет... Між іншым, падсвядома выпадак з ёю паўплываў на выбар спецыялізацыі Станіслава...

А Галіна паступіла на мастацтвазнаўчы, занялася гісторыяй балета, вучыла італьянскую. Гэта ад яе ён аднойчы пачуў:

Da oggi a noi la cotidiana manna.

І яшчэ: ...giri fortuna la sua rota, Come le piace, e il villan la sua marra[12].

Тэрцыны Дантэ... У траўні... У пару чаромхі і бэзу... З вуснаў багіні... Увогуле Станіслаў доўга не вылучаў Галіну сярод небанасельніц у майстэрні Вітольда. Мабыць, да таго вечара...

Яна прыйшла, як заўсёды, адна. Чытала вершы.

І ў майстэрні з'явіўся Дзіма. Як абвяшчалі афішы і праграмы, Дзмітрый Дораш. З дамай.

Дзіма Дораш... Прыгожы... Неўнікнёны. Герой-амант. У родны кут і на сваю родную акадэмічную сцэну ён вярнуўся пасля некалькіх сезонаў у адным з самых зорна вядомых на тую пару тэатраў Саюза. Рэч у тым, што будучыя лаўры ссыхалі яшчэ ў марах пасля начлегаў на вакзалах і без блізкай перспектывы маскоўскай прапіскі. Аднак водсвет тэатра на адлегласці на абліччы Дзімы для ўсіх рабіўся яшчэ больш уражлівым, напераддзе была працяма жыццёвага часу, герой-амант не губляў свой кураж і адначасова паводзіў сябе натуральна, нязмушана, з лёгкасцю камільфо, да таго ж чалавека пад увагай жанчын, з перспектывамі сцэнічнай кар'еры і ўвогуле жыццёвымі перспектывамі. Пазней Дзіма вярнуўся ў той маскоўскі тэатр на новым вітку тэатра і яго, Дзімы: рэжысёрам. Зазнаўшы арэлі славы і няславы, узлёты і падзенні.

А ў той вечар, не паспела Галіна выйсці за дзверы майстэрні, як Дзіму нібыта ветрам вынесла за ёю. І — кумільгом — вылецеў за імі ён, Станіслаў. Чаму? Ён не мог бы патлумачыць. Ён не сачыў за імі. Проста ішоў, як самнамбула. Нібыта нейкая падсвядомая сіла вяла яго за гэтымі двума. Менавіта так. Станіслаў не прамовіў бы — пара. Кожны сам па сабе. Ён і яна.

Станіслаў не раўнаваў. І не быў закаханы ў Галіну. Яе чар быў часткай агульнага чараўнічага кола, атачэння, асяроддзя. Можа, квінтэзіраваны чар. Не ад пабочных з'яў — ад самой субстанцыі характва, жаноцкасці, Боскай прадвызначанасці.

Што прымусіла яго пакіравацца за гэтымі двума з майстэрні? Падсвядома, магчыма, і такое: якая ж таямніца ў гэтай асобе, калі Дзіму Дораша як магнітам пацягнула? Ды яшчэ і досыць бесцырымонна кінуўшы даму, з якой прыйшоў да Вітольда. А безумоўна — можа, нават галоўнае: усё, што адбывалася ў майстэрні Вітольда, пачало раптам выходзіць за межы азначанага свядомасцю Станіслава. Месца, дзе галоўнае не змянялася ад з'яўлення новых візітантаў, умоўнасць таго, што адбывалася, акрэсленасць і нібыта зададзенасць падзей, так бы мовіць, ледзь не застыгла-статуарнага кшталту, вызначанасць ілюзій — усё разбуралася на вачах Станіслава. Ці набывала іншы сэнс. Насуперак таму, які змест і сэнс надаваў гэтым выпадковасцям і выпадкам Станіслаў. У кожнага былі свае лабірынты душы і адстароненыя глыбіні... Можа, і жывая ісціна ў кожнага была свая? Свае міражы і падманы? Свая гульня люстраў розуму?

Але ж яны недзе перасякаюцца, ствараюць нейкую сістэму... Адлюстроўваюць — тое, што ёсць... І тое, што здаецца... І тое, што беларускі паэт называў "адвечнай тугой ідэалу..."

І сённяшні вечар — не капрыз выпадку, а дзіўнае, прадвызначанае, захапляючае? І нейкая жывая повязь паміж імі, трыма?

Нешта падобнае круцілася тады ў галаве Станіслава, а Галіна і Дзмітрый пра нешта гаварылі, нягучна смяяліся, прайшлі праз мост і выходзілі на строму вуліцу, што вяла паўз парк каля Опернага тэатра. Ішлі — кожны сам па сабе — высокія, прыгожыя. Станіслаў падумаў: для балерыны яна трошкі высакаватая, хаця — Плісецкая... Таксама не крохатка.

Тымчасам Галіна і Дзмітрый дайшлі да брамы аднаго з дамоў, зніклі за ёю, а праз некалькі хвілін Дораш выйшаў, пабачыўшы машыну, махнуў рукой. І аўто панесла героя-аманта...

А Станіслаў стаў спускацца паўз парк да моста праз раку. І раптам пачуў гукі. Яны імкліва несліся з парку — і ў іх чулася вясна, чар ночы і надыхоздзячая раніца, яны нібыта расчынялі заслону — і за ёю зніклі завесы сэнсаў і адкрывалася нешта пазавоблачнае, патаемнае, з водарам бэзу і відавочнай адсутнасцю дыоптрый квазірозуму. Птушка падавала яму, Станіславу, знак...

Такі Знак магла падаць толькі адна птушка — на мяжы ночы і дня. Салавей.

...А праз некалькі дзён, мо праз тыдзень, Станіслаў праходзіў праз сквер каля тэатра, дзе відачынстваваў Дораш, і заўважыў здалёк Дзіму — той бег да тэлефона-аўтамата. І пачуў яго добра пастаўлены голас:

– Перадайце Галіне, што званіў яе паклоннік. — Дзіма зрабіў паўзу і дадаў: — Няшчасны паклоннік.

Тон, які былі прамоўленыя апошнія словы, не даваў ніякіх падстаў лічыць Дзіму няшчасным, і няшчасным паклоннікам — тым больш. Аднак на некага гэта павінна было зрабіць уражанне. Мяркуючы па часе, Дзіма тэлефанаваў у акадэмічны інстытут, дзе цяпер рабіла Галіна.

Станіславу стала няёмка — нібыта падслухваў. Няёмка — ад гэтага вясёла-пераможнага голасу. Няёмка — падыходзіць ці не да Дзімы? Але Дзіма, падобна, быў заняты сабой і Станіслава не бачыў.

Як ставіўся Дзіма да Галіны? Быў закаханы? Пэўна. Захаханы? Хто яго ведае. Ці ведаў гэта сам Дзіма Дораш? Якая мелодыя гучала ў яго душы? І хто можа пазначыць формулай тую зямную — ці незямную? — мелодыю?

Свае пачуцці — ці адносіны? — да Галіны Станіслаў не змог бы акрэсліць. Меў да яе сімпатыю? Быў закаханы? Быў не індыферэнтны? Пачаў проста вылучаць яе сярод іншых? Быў проста захоплены — прыгажуняй?

А ў той год і ў тую вясну ў Станіслава пачалася сесія, потым былі вакацыі. І ўжо восеньскай ранняй парою, ідучы неяк ад Вітольда, паркамі, ён убачыў Галіну і Дзіму. Ляцела жоўтае празрыстае лісце, неба было колеру гжэльскай парцэляны — Галіна была ў нечым сіне-светла-жоўтым, у фарбах гэтага дня, а Дзіма ў шыкоўным уборы з моднай тады замшы. І Станіслаў здалёк залюбаваўся імі — усё ж нешта ад мастака ў ім было! — і зноў падумаў: прыгожыя — ён і яна. Але — не пара. Растлумачыць гэта ён не змог бы. Кожны неяк сам па сабе. Аднак не толькі гэта. Нешта мройнае, блытанае, замглёнае,

нейкі неспалучальны кангламерат пачуццяў, адчуванняў, згод і нязгод, нейкія містычныя камбінацыі безданяў і вышыняў, варыяцыі ўчынкаў, прадыктаваных характарамі і інтэлектам — усё гэта сыходзіла ад іх і падобна, не магло ператварыцца ў тую гарманічную сітуацыю, якая заканчваецца знакамітым маршам з пэўнай урачыстай установе або сакральнымі пытаннямі ў святыні, абменам пярсцёнкамі і сентыментальна-вясёлай мелодыяй званоў і крышталёвым звонам келіхаў.

Так здавалася Станіславу. Можа, так хацелася Станіславу? Ён не мог бы пэўна адказаць.

...Аднак сапраўды — парай Галіна і Дзмітрый так і не сталі...

...Станіслаў хутка перайшоў праз шумную віа дэль Корса і нейкімі вулачкамі і вулкамі трапіў да фантана Трэві.

Прымасціўшыся на ўскрайку, ён слухаў перагукі званоў да вечаровай месы ў суседняй святыні і глядзеў на блакіт, адзурра, аквамарын водаў фантана. Ад віядука Аква Вірга... Так, здаецца.

Станіслаў выняў з сумкі партрэт. Сінія, пералівістыя, з іскрынкай вочы. Вітольду ўдалося перадаць іх прыцягальны чар. Менавіта — чар, палон... Мройны, няўстойлівы, хісткі... Нібыта пэўніць — а зманіць. Не як заваёўніца Кармэн... Як прынцэса Мроя — зробіць нейкі рух, і праўвасобіцца: у вобліка, ідэю, міф... Вось — што вабіла і адштурхоўвала ад яе: яна нібыта ўзнікала і прыходзіла з казкі сноў і явы, каб, застаючыся сабою і толькі сабою, не дастачыцца да будзённага вопыту рэчаіснасці. Шкада, што яна не пражыла ўсё сваё жыццё — які там век у харэаграфіі? — балерынай. Або актрысай. Такія вочы — ды буйным планам у кіно. Не вочы — кінанавела.

Тады, як яны сустрэліся адноечы зноў, ён заўважыў — найперш — вочы.

Быў нейкі юбілей. І калі зайграла музыка, ён убачыў Галіну. Прыгожую, як некалі...

– Вы мяне памятаеце? — запытаў Станіслаў.

– Безумоўна, — адказала яна. — Вундэркінд. Хлопчык-цуд. Анфантэрыбль, хлопчык-застрамка. Будучы Сальвадор Далі...

– Вар'яцкі імідж, — засмяяўся Станіслаў. — Сальвадор Далі застаўся пры сваёй славе і хвале. Але інстытут я скончыў.

– А цяпер?

– Практыкую... — Станіслаў хацеў задаць ёй пытанне, але замест таго прапанаваў: — Танцуем?

– Танцуем.

І яны таньчылі ўвесь вечар. І стары добры рок, і яшчэ больш старыя добрыя танга, і нешта паміж факстротам і вальсам... І нешта найноўшае... Хэві метал...

Таньчылі на даху ведамаснага дома ў цэнтры горада — там было нешта накшталт тэрасы.

– Танец на даху напрыканцы тысячагоддзя, — ён глядзеў Галіне ў вочы.

Потым ён ухапіў яе здымак, які выскачыў з "паляроіда" юбіляра. І даў ёй ручку.

"А ў мяне вочы сінія", — напісала Галіна. І ўсё.

Потым яна знікла. Як у казцы. Апоўначы. Аднак не пакінуўшы ні чаравіка, ні адраса, ні тэлефона...

І адрас, і тэлефон ён знайшоў. А яе — не. Можа, той самы Провід вырашыў ратаваць яго ад яшчэ аднаго расчаравання?

Цяпер ён не хацеў бы яе сустрэць. Не. Увогуле — ці хацеў бы ён пабачыць каго з тых часоў? З майстэрні Вітольда? Людзей з успамінаў... Мінулае не вяртаецца...

Меркаваць пра іх паводле звычайных — звычаёвых — вымярэнняў Станіслаў не мог... Хаця нехта паводле прынцыпу гетэрахроннасці дасягнуў знешняга поспеху ў пэўным узросце. Нехта аддаў перавагу тым самым інтравертным магчымасцям, урэшце — сусветная культура даўно ведае так званую нарматыўную рэакцыю адыходу...

Дзіма ў самых неверагодных варыяцыях выпрабоўваў трываласць грунту мастацтва, аддаваў перавагу пазнанню эмпірычнаму перад дыскурсіўным, часам з'яўляўся ў іх горадзе: некаму тэлефанаваў, з некім сустракаўся...

Вітольд атрымаў новую майстэрню, узяў шлюб — ці то з нейкай высокай персонай, ці то з успешлівай жанчынай творчага накірунку, ці то — усё ў адной асобе. Ён рабіў выставы, меў поспех, даваў інтэрв'ю...

Мройлівыя паэтэсы... Выдавалі кнігі... Удзельнічалі ў розных саюзах, фондах, асацыяцыях... Набывалі вядомасць... Займалі пасады... Хто — губляючы сваю паэтычную энергію, хто — не... А нехта — аддаючы перавагу вольнаму лёту вольнай думкі...

Актрысы...

Кожны мадэляваў сваё існаванне ўнутраным дзеяннем той матэрыі, у якой кандэнсаваліся ўласцівасці натуры і дзіўная радасць выпадковасцяў, абставін, горычы, сумніву, магчымага і немагчымага...

Усе яны былі тымі, каго ён ведаў на пачатку свайго свядомаснага шляху, з кім у яго на той момант было блізкае светаадчуванне, блізкі свядомасны статус.

Нішто не вяртаецца...

Аднак той аазіс памяці, мройны аскепак нябёс, з якіх пераглядвала наўлоўная ісціна, застаўся і будзе з ім... Далёка ў скарбнічках памяці...

Станіслаў глязеў на стругі фантана... Хараство, безумоўна, не выратуе свет, і нават аднаго яго, Станіслава Строцкага, не ўлашчыць ратункам... Аднак у вырашэнні "рэбуса Быцця" поўным банкрутам быць не дазволіць. Нават калі ўсё канцэнтруецца ў нейкай фізічнай кропцы, перакрэслішы ўсе сутнасныя аналогіі.

***Пью горечь тубероз, небес осенних горечь...***

Не, цяпер вясна... Тут, у Рыме... На яго радзіму яна прыйдзе месяцы праз два... Тады таксама была вясна... Калі ён ішоў за Галінай і Дзімам... І калі сустрэў яе ў фіёлевы вечар, калі сама ісціна набывала выгляд гульні, а яны, на тым даху напрыканцы тысячагоддзя — былі па-за межамі ўсяго, што ёсць, у нейкіх імгненнях-аблоках, у свяце руху, у царстве немагчымага...

Падчас той сустрэчы з Галінай ужо добра зведаў горыч страт і зазнаў расстасаванасць сваіх уласных пачуццяў, думак, паводзін... Ён зведаў ужо, так бы мовіць, некананічныя рысы тых, каго лічыў сябрамі. І досыць нагледзеўся і паспытаў тое, што псіхолагі называюць этыкетнымі паводзінамі і ролевымі паводзінамі, ролямі і антыролямі... Палітычныя гарцовішчы былі яму заўсёды чужымі, але ж каралі ў гарнітуры Адама і — нават каралевы ў нішчымных прывідах — трапляліся на розных арэнах-пляцах...

І ўсё ж — тады ён меў надзею. І спадзяванне.

Цяпер — ён не хацеў не толькі новых расчараванняў, але і новых надзей.

Станіслаў не спяшаючыся прайшоў каля палаца Квірынале, па віа Кватра выйшаў да прыпынку метро "Барберыні".

"Рэпубліка", "Тэрміні", "Віттор'ыё Эмануэле"...

Станіслаў глядзеў на абшарпаныя сцены прыпынкаў метро, на шэрыя твары пасажыраў і пашкадаваў, што паленаваўся знайсці нумар у якім трохзоркавым гатэлі ў цэнтры.

...Аднак вось і яго віа Тыбуртына.

...Апошняя ноч у Рыме. Заўтра яны з сіньёрам Лантуччы выпраўляцца ў Флярэнцыю. На золаку. Па арэа дэль Соль. Дарозе Сонца.

...Было яшчэ цёмна, калі Станіслаў Строцкі выйшаў з прытулку айцоў-салезіянаў, куды яго ўладкаваў сіньёр Лантуччы. Невялікі садок-патыё дыхаў вільгаццю і свежасцю. Водар — знаёмы і незнаёмы. Тамарыск? Разгледзець было немагчыма — цёмна. Станіслаў адарваў лісток, пацёр у пальцах...

І раптам пачуў спеў птушкі... Голас-знак... У ім быў голас вясны. Голас маладосці.

...У Рыме спявалі салаўі...

---

[1]*Genius saeculi (лат.) — дух часу.*

[2]*Сеічэнта (іт. — seicento) — італьянская назва 17 стагоддзя, веку барока ў Італіі.*

[3]*Сэрвіторэ (іт. — servitore) — служка.*

[4]*Dolce far niente (іт.) — салодкае гультайства.*

[5]*Guattro (іт.) — чатыры.*

[6]*Tempore neovo (лат.) — новы час.*

[7]*Roma or muerte (іт.) — Рым або смерць.*

[8]*Quanto sconto? (іт.) — колькі каштуе?*

[9]*Are you want to see her? (анг.) — Вы хацелі б пабачыць яе?*

*No, no (анг.) — не, не.*

[10]*Эмэнэс (разм.) — малодшы навуковы супрацоўнік.*

[11]*Лютэцыя Парызіорум (лат. — Lutecia Paryziorum) — старажытная назва Парыжа.*

[12]*Da oggi a noi la cotidiana manna (іт.) — Дай нам сёння кожнадзённую манну.*

*...giri fortuna la sua rota, Come le piace, e il villan la sua marra (іт.) — Хай Фартуна круціць свае кола, як ёй падабаецца, а земляроб — сваю матыку.*

# Анатоль КУДРАЎЦАЎ



21 сакавіка 2002 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Анатоль Кудраўцаў.

Анатоль Іванавіч Кудраўцаў нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў вёсцы Вусць-Дзёміна Ельнінскага раёна Смаленскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Мархоткінскай дзесяцігодкі (1963) працаваў настаўнікам Чашчоўскай пачатковай школы, інструктарам Ельнінскага райкома камсамола, карэспандэнтам раённай газеты "Знамя". У 1965—1971 гадах вучыўся на факультэце журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Адначасова працаваў спецыяльным карэспандэнтам Смаленскай абласной маладзёжнай газеты "Смена" (1967—1968), літсупрацоўнікам газеты "Вячэрні Мінск" (1968—1972). З 1972 года — адказны сакратар газеты "Вячэрні Мінск", з 1977 года — галоўны рэдактар творчага аб'яднання "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм", у 1982—1985 гадах — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм". Апошнім часам Анатоль Кудраўцаў займаўся выдавецкай дзейнасцю.

Пачатак літаратурнай працы Анатоля Кудраўцава — 1965 год. Пісаў на рускай і беларускай мовах. Аўтар зборніка "Минск и минчане" (1973), кнігі апавяданняў і аповесцей "Бессонница" (1990), п'ес "Иван", "Марья", "Как цари жили", "Донати промазала", "Суд", якія былі пастаўлены на працягу 1985—1990 гадоў, а таксама сцэнарыяў мастацкіх фільмаў "Зачем человеку крылья" (1984), "Затянувшийся экзамен" (1985), "Іван" (1982), "З юбілеем пачакаем" (1985), "Чалавек, які браў інтэрв'ю" (1986) і некалькіх дакументальных фільмаў.

Нас пакінуў цікавы літаратар, руплівы працаўнік, зычлівы таварыш. Светлы вобраз Анатоля Кудраўцава назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

АКЦЫЯ

# "Дзіцячая бібліятэка"

## АДКРЫТАЯ ДАБРАЧЫННАЯ ПРАГРАМА БЕЛАРУСКАГА ДЗІЦЯЧАГА ФОНДУ

Сярод чорных бедаў, што напаткалі ў канцы XX стагоддзя Беларусь, несуцешны боль выклікае страта ёю высокага імя з самых чытэльных краін у свеце.

Асаблівую трывогу выклікае д'ябальская гульня на зніжэнне ўзроўню інтэлекту і маралі падрастаючага пакалення. "Масавая культура" ўся нацэлена на ўзбуджэнне і культываванне ў дзецях і юнацтве нізкіх інстынктаў, звярынага эгаізму, культу ўсёдазволенасці.

Для многіх дзяцей, на жаль, тэлебачанне і радыё, камп'ютэр і Інтэрнэт робяцца асноўнымі крыніцамі інфармацыі, а доступы да добрай кнігі — крыніцы ведаў, досведу, радасці сушэражывання і спагады — робяцца ўсё больш складанымі.

Законы рынку ў галіне кнігавыдання, праблемы цэнтралізаванай сістэмы абнаўлення і папаўнення кніжных фондаў, няхватка грошай — усё гэта паставіла "храмы культуры" — бібліятэкі, асабліва дзіцячыя і юнацкія, у складанае становішча. Нашы дзеці і, у першую чаргу, сіроты, інваліды, ды й усе, хто выхоўваецца ў малазабяспечаных сем'ях, жорстка аддаляюцца ад кнігі. Купіць яе няма на што, а бібліятэкі гадамі не абнаўляюць і не папаўняюць свае кніжныя фонды.

Прэзідыум Беларускага дзіцячага фонду распачынае адкрытую дабрачынную праграму "Дзіцячая кніга".

Мэта праграмы:

– папаўненне кніжных фондаў у дзіцячых дамах, школах-інтэрнатах, сямейных дзіцячых дамах, у дзіцячых бібліятэках, асабліва ў сельскіх;

– далучэнне дзяцей да беларускай, рускай і сусветнай літаратуры;

– развіццё ў іх цікавасці да чытання і тым самым садзейнічанне лепшаму засваенню школьных праграм.

Шаноўныя сябры! Мы звяртаемся да вас з прапановай прыняць удзел у акцыі "Дзіцячая бібліятэка".

У кожнага дома ёсць кнігі, якія прачытаны або якімі вы можаце падзяліцца. Калі яны новыя або ў добрым стане і на ваш погляд будуць цікавыя дзецям і падлеткам, іх выхавацелям і настаўнікам, перадайце гэтыя кнігі ў Беларускі дзіцячы фонд.

**Мы чакаем Вас у аўторак і пятніцу па адрасе: г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 31, тэл. 236-62-67, 236-62-14, 236-66-40 альбо ў нашых абласных аддзяленнях:**

**Брэст, вул. Наганава, 10, тэл. 3-64-66**
**Віцебск, вул. Талстога, 4, тэл. 36-34-35**
**Гомель, вул. Савецкая, 28-82, тэл. 53-98-52**
**Гродна, вул. Урублеўскага, 7, тэл. 33-00-99**
**Мінская вобласць, г. Мінск, вул. Чкалава, 5А-202, тэл. 224-40-66**
**Магілёў, зав. Камісарыяцкі, 5, тэл. 25-35-82.**

Мы звяртаемся з просьбай да ўсіх выдавецтваў, што выпускаюць мастацкую, навукова-папулярную і вучэбную літаратуру, выдзеліць у якасці дабрачыннага ўзносу пэўную долю (1-2%) ад тыражоў зноў выдаваемых кніг для папаўнення фондаў дзіцячых і юнацкіх бібліятэк.

Мы звяртаемся да рэдакцый газет і часопісаў выпісаць за свой кошт для дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў сямейных дзіцячых дамоў хоць бы па адным экзэмпляры сваіх выданняў. Адрасы дзіцячых устаноў мы вам прадаставім.

Мы звяртаемся да дзяржаўных, грамадскіх, камерцыйных, банкаўскіх і іншых устаноў, арганізацый, прадпрыемстваў, прыватных асобаў адгукнуцца на наш зварот і падарыць дзіцячым бібліятэкам неабходныя кнігі, узяць фінансавае шэфства над адной з бібліятэк або пералічыць мэтавыя ўзносы на набыццё кніг **на разліковы рахунак Беларускага дзіцячага фонду 3015201460012 у Філіяле МГД ААО "Белінвестбанка", код 764.**

Мы звяртаемся да сродкаў масавай інфармацыі з просьбай растлумачыць важнасць праграмы "Дзіцячая бібліятэка", яе маральную і культурную значнасць.

Са свайго боку мы гарантуем адкрытасць і галоснасць праграмы, а таксама самае галоўнае, што ўсе кнігі дойдуць да адрасатаў.

Праграма будзе дзейнічаць на працягу ўсяго 2002 года.

Толькі пры вашай дапамозе да дзяцей змогуць прыйсці чыстыя і светлыя героі казак і былінаў, любімыя кніжкі пісьменнікаў, хто таленавіта і мудра твараў для дзяцей, чые творы напоўнены высокай маральнасцю і чалавечнасцю.

І няхай удзел кожнага з нас у праграме дапамогі дзіцячым бібліятэкам стане наглядным, натхняльным урокам дабра і рэальнай міласэрнасці.

**Прэзідыум Беларускага дзіцячага фонду**

# Архіў, які варта наведваць літаратуразнаўцам,

## ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА

***Гадоў дзесяць таму, збіраючы матэрыял для нарыса пра Вацлава Ластоўскага, мне бракавала фактаграфіі па савецкаму перыяду ягонай дзейнасці (1927-1930), калі Ластоўскі амаль адначасова працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, загадчыкам катэдры этнаграфіі Інбелкульта ды неадменным сакратаром Беларускай Акадэміі Навук. Дакументаў назапашвалася небагата. Асабліва ў параўнанні, скажам, з перыядам “нашаніўскім” (Власт лічыўся адказным сакратаром “Нашай Нівы”) ды “ковенскім” — перыяду знаходжання ў эміграцыі Ураду БНР, прэм'ерам якога Ластоўскі з'яўляўся ў 1919-1923 гадах. Тады для сябе я і “адкрыў” Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНА НАНБ, колісь АНБ). Па пратаколах Прэзідыума Інстытута Беларускай Культуры (а пазней БАН) можна было аднавіць жыццяпіс вучонага літаральна па днях. А такая “рэстаўрацыя” біяграмы творцы для даследчыка заўжды надзённая. Бо “гісторыя літаратуры — гэта не толькі крытычны аналіз твораў, але і непаўторны лёс творцаў, іх унікальны духоўны вопыт” (Уладзімір Конан).***

***Калі ж улетку 1997-га, запрошаны на навуковую канферэнцыю ў Рэчыцу па Мітрафану Доўнар-Запольскаму, паставіў мэтай высветліць дакладны дзень вяртання ў Беларусь, на працу ў Інбелкульт выдатнага вучонага-археографа, будучага старшыні Археаграфічнай камісіі, я ўжо ведаў дзе шукаць.***

***І як гэта нярэдка здараецца ў даследчыкаў-архівістаў падчас пошуку, апроч запланаванага напаткаецца нешта іншае. Тады ж у акадэмічным архіве мне трапіўся гэты аркушык з купалаўскім аўтографам (ЦНА НАНБ. Ф. 67. воп. 1. спр. 9. арк. 184).***

У Інбелкульт
Члена І.Б.К. Івана Луцэвіча.

Заява.

Прашу даць мне на 1 1/2 месяца отпуск (з 15 ліпеня да 1 верасьня).

Ів. Луцэвіч.

14 / VII- 25 г.
Менск.

Прынцып Поўнага збору твораў вымагае ўлічыць усе аўтографы пісьменніка, да чаго імкнецца аддзел тэксталогіі акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, дзе падрыхтаваны першы на Беларусі Поўны збор твораў народнага песняра; у друку знаходзяцца апошнія тамы. Заключны, 9-ы том (ён хіба агорне сабой 2 кнігі, разам з *“Летапісам жыцця і творчасці”* песняра) склалі пераклады, эпісталярная спадчына паэта, а таксама аўтографы, выкліканыя рознымі жыццёвымі абставінамі (дарчыя надпісы на кнігах, акалічнасныя занатоўкі, казённыя заявы, занатаваныя Купалавай рукой анкеты-бланкі і г.д.). Але калі я спытаўся, якія дакументы з акадэмічнага архіва ўвайшлі ў выданне, пачуў, што такі архіў не ўлічаны: хоць падчас працы над Поўным зборам творам нямала зроблена знаходак, але яго “не адкрылі для сябе”.

Верагодна, тэкстолагаў тут “падвёў” адмысловы зборнік *“Пуцявінамі Янкі Купалы”* (Мн., 1981), складальнік якога руплівы Генадзь Кісялёў у шэрагу 16 “архіваў, бібліятэк, музеяў” не прывёў матэрыялаў гэтага сховішча. Ды ў наступнай кнізе гісторыка-дакументальнай “трылогіі”, якая бярэ свой адлік ад капітальнага тома “Пачынальнікі” (1977), у зборніку *“З жыццяпісу Якуба Коласа”* (1982), “архіў Акадэміі навук БССР” даследчыкам-літаратуразнаўцам згадваецца. Праўда, у коласаўскі зборнік увайшлі толькі матэрыялы з *“асабовай справы Міцкевіча К.М.”*. Хоць і гэта дакументальнае выданне, бясспрэчна, упрыгожылі б іншыя цікавыя матэрыялы, што выйшлі з пад рукі Коласа-Міцкевіча. Асабліва даваенныя, і нават “даакадэмічнага” перыяду ці перыяду дзеяння слыннага Інстытута Беларускай Культуры.

Бо вось адразу за прыведзеным вышэй купалаўскім аўтографам ідзе коласаўскі. Нядзіва, паколькі датаваныя яны адным днём (што правакавала мяне на іншы падзагаловак артыкула, накштат: *“Адзін дзень з жыцця двух нашых класікаў”*).

Копія

У Прэзыдыум Інбелкультуры.

Пры гэтым пасылаецца копія пратаколу П.Т.К. ад 14.VII.1925 № 32.

Пратакол № 32 14.VII.1925 г. пасяджэньня П.Т.К.

Прысутныя: Я.Лёсік, Я.Купала і К.Міцкевіч.

З прычыны таго, што большасьць членаў П[равапісна]-Т[эрміналёгічнае] К[амісіі] знаходзіцца ў водпуску, Камісія ня можа рэгулярна вясьці свае сходы, а дзеля гэтага Камісія пастанавіла прыпыніць сваю чарговую работу на час летніх вакацый, г[эта] зн[ачыць] да 1 верасьня гэтага году.

Старшыня камісіі Я.Лёсік
Члены камісіі Я.Купала
*Сэкрэтар камісіі К.Міцкевіч.*

На гэтым можна было б ставіць кропку. Але архіў Інбелкульта пакінуў для даследчыкаў рэдкую магчымасць каментаваць абодва вышэйпададзеныя аўтографы мовою дакументаў уласна Інбелкульта (пераважна ў машынапісных копіях). Бо на наступны ж дзень, калі Купала-Луцэвіч напісаў заяву на адпачынак, сабралося пасяджэнне Прэзідыума ІБК.

Пратакол № 21
пасяджэньня Прэзыдыуму Інстытуту Беларускай Культуры,
якое адбылося 15 ліпеня 1925 г.

Былі прысутнымі: нам. Старшыні ІБК т. Смоліч, Ар[кадзь], Загадчык Польаддзелу т. Гэльтман С[амуіл?], Загадчык Жыдоўскага Аддзелу Аршанскі Б. і яго намесьнік т. Фрышман В.

Старшынстваваў А.Смоліч, Сэкрэтарстваваў Т.Чарэпнін.

Слухалі:

*Па дакладу (?) нам[есніка] старшыні ІБК А.(?) Смоліча аб водпусках члена Правапісна-тэрмін[алёгічнае] камісіі Луцэвіча І. (Янкі Купалы) і сэкратара яе Міцкевіча Константына (Якуба Коласа), з прычыны чаго правапісна-тэрмінал[алёгічная] камісія просіць зрабіць для яе канікулы да 1 верасьня г[этага] г[оду] за адсу(?)тнасьцю працаўнікоў.*

*Пастанавілі.* ***Прымаючы пад увагу, што Міцкевіч К. (Я.Колас) фактычна ўжо карыстаецца водпускам з 1-га ліпеня, водпуск яго зацьвярдзіць, што датычыцца водпуску Луцэвіча (Я.Купалы), які просіць яго з 15 ліпеня, што маючы на ўвазе, што з яго водпускам прыпыніцца ўся дзейнасьць правапісна-тэрмін[алёгічнае] камісіі, між тым прад ёй стаіць вельмі пільная справа, як выданне канцэлярскай тэрміналёгіі, а дзеля гэтага водпуск Луцэвіча (Я.Купалы) адлажыць да 25 ліпеня і прапанаваць камісіі да гэтага тэрміну прыгатаваць да друку канцэлярскую тэрміналёгію, і замест Міцкевіча (Я.Коласа) запрасіць для працы ў правапісна-тэрм[іналёгічную] кам[ісію] Некрашэвіча Сьцяпана.***

Можна нават казаць, што Луцэвічава заява на адпачынак і справакавала гэтае пасяджэнне, дзе заадно Прэзыдыум ІБК разглядзеў шэраг іншых пытанняў. Працытуем дакумент далей.

*.. [Слухалі] Па дакладу нам. старш. ІБК т.Смоліча Ар[кадзя] аб неабходнасьці ўтварыць часовую рэдакцыйную камісію па краязнаўчай часопісі.*

[Пастанавілі]. Прызнаць патрэбным стварэньне рэдакцыйнай калегіі Краязнаўчай Часопісі й уключыць у склад яе: апроч Плаўніка (Бядулі) Смоліча А., Аляксандрова Г. і Грамыку М.(?)

... [Слухалі] Адносьнік Ц[энтральнага] Б[юро] К[раязнаўства] аб павышэньні пэнсыі інструктару ЦБК тав. Атраховічу.

[Пастанавілі]. Дзеля таго, што інструктар ЦБК т.Атраховіч з'яўляецца членам і супрацоўнікам ІБК пэнсыю яму павялічыць да 75 р[ублёў] у месяц, якую аплачываць пачыная з ліпеня г[этага] г[оду].

[Слухалі] Па дакладу нам. старш. Смоліча аб згодзе т.Плаўніка (Бядулі) працаваць у ІБК на пасадзе рэдактара Краязнаўчай Часопісі.

***[Пастанавілі]. У выкананьне мінулай пастановы Прэзыдыума ІБК т.Плаўніка С. залічыць на пасаду рэдактара Краязнаўчай часопісі з 1 ліпеня з акладам пэнсіі у 100 р. штомесячна.***

Выяўленыя дакументы, несумненна, знойдуць пэўнае асэнсаванне ў айчынным Купалазнаўстве і Коласазнаўстве. Прыкладам, у выданні “Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці” (1982), складзеным М. Мушынскім, у дзейнасці песняра якраз за лета 1925 г. стаіць “творчы прагал”. Цяпер мы бачым, чым ён выкліканы: казённым адпачынкам. Шмат такіх “прагалін” запоўняць у будучым нешматлікія дакументы з ацалелых папак Інбелкульта (пра намер Янкі Купалы ехаць у 1925г. у Парыж, а Якуба Коласа ў Вену ды інш.).

Яшчэ на пачатку 1980-х згаданы беларускі тэкстолаг і крытык М. Мушынскі ў інтэрв'ю штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» зазначаў: «У нашым літаратуразнаўстве ўзнік пэўны дэфіцыт фактаў, таму што пошукавую работу, архіўную работу мы неяк трошкі занядбалі» (ЛіМ, 1981, 13 лют.). Мінула дваццаць гадоў, а пэўныя рэчы так і застаюцца ў дэфіцыце.

Рэдакцыя штотыднёвіка мае намер адзначыць 120-годдзе нашых выдатных песняроў публікацыяй невядомых аўтографаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, знаёмячы чытачоў з малавядомымі дакументамі і матэрыяламі. Зазначу, што ў нешматлікіх папках з архіва Інбелкульта ў ЦНА НАНБ захаваліся аўтографы і дакументальныя звесткі пра К.Атраховіча (Кандрата Крапіву), Міколу Байкова, Гаўрылу і Максіма Гарэцкіх, Зміцера Даўгяла, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Васіля Дружыца, Уладзіміра Дубоўку, Івана Замоціна, Усевалада Ігнатоўскага, Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча, Самуіла Плаўніка (Змітрака Бядулю), Язэпа Пушчу, Аркадзя Смоліча, Паўлюка Труса, Міколу Улашчыка, Міколу Шчакаціхіна ды іншых.

Наогул было б выдатна, каб новае кіраўніцтва ~~структур~~ НАНБ парупілася выдаць невялікі *дакументальны* зборнік пра свайго гістарычнага папярэдніка: Інстытут Беларускай Культуры (1922-1928) **(1922-2002)**.

Да слова, Інбелкульт — сёлетні юбіляр.

Толькі, на жаль, забыты юбіляр. Гэтым разам, і гісторыкамі беларускай культуры.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**

# На хвалях Беларускага радыё

У панядзелак, у 22.10, у аўтарскай праграме Ганны Кашубы **“Музейныя тайны”** слухачы даведаюцца пра невядомыя шырокаму колу людзей факты з жыцця і творчай дзейнасці Янкі Купалы, пра якія расказвае яго пляменніца Ядвіга Юльянаўна Раманоўская. Лірычныя замалёўкі, якімі перамяжоўваецца яе аповед, раскрываюць асобу самой Ядвігі Юльянаўны, якая і сёння працягвае служыць культуры роднай Бацькаўшчыны.

У перадачы **“Пародненыя музай”** У. Дзюбы прагучаць новыя пераклады на беларускую мову. Слухайце яе ў аўторак, 9 красавіка.

**“Белы аркуш”** — так называецца аўтарская праграма Святланы Шалімы. “Ты лёс паэзія, ты боль...” — пад гэтай рубрыкай плануецца гутарка з маладым паэтам-бардам Дзмітрыем Строцавым. А па канале “Культура” Святлана Шаліма прапануе паслухаць 8-га красавіка перадачу з цыкла “Галасы XX стагоддзя”. Яна прымеркавана да 90-годдзя з дня нараджэння пісьменніка Тараса Хадкевіча і пачнецца ў 14.10.

Даследаванне малавядомых фактаў з творчай біяграфіі Янкі Купалы працягвае Васіль Макарэвіч. Яго праграма прагучыць у чацвер, 11 красавіка.

У пятніцу, у 17.30 у праграме **“Пераплёт”** Святлана Дзевяткава прапануе гутарку з галоўным рэдактарам часопіса “Полымя” Сяргеем Законнікавым. Размова пойдзе пра яго кнігу вершаў “Шляхі душы”, якая выйшла ў Балгарыі.

А ў 22.10 — прэм'ера аўтарскай праграмы Навума Гальпяровіча і Галіны Шаблінскай **“Сучасная літаратура: ад задумы да твора”**. Аўтары і вядучыя звярнуліся да новых твораў патрыярха сучаснай беларускай літаратуры Івана Шамякіна, да яго “Начных успамінаў”.

У нядзелю, у 15.30 **“Літаратурны праспект”** прапануе інфармацыю пра падзеі ў літаратурным жыцці нашай краіны, рубрыку “Кніжныя навіны”, анонс газеты “Літаратура і мастацтва”.





ЗАСНАВАЛЬНІК
**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 г. ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Уладзімір МАРУК** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965

*Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”.*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2626
Нумар падпісаны ў друк 4.04.2002 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2116

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12